БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 21 (13501)

20—26 мая 1991 года

Цана 35 кап. (па падпісцы—20 кап.)



Фота С. БРУШКО.

## ЧЫТАЙЦЕ Ў НУМАРЫ

*Тыдзень парламента*

# Не трэба падганяць гісторыю

Гадавіну свайго існавання цяперашні Вярхоўны Савет БССР сустрэў у вельмі неспрыяльных умовах. Паглыбляецца крызіс у эканоміцы, разбалансаваны бюджэт рэспублікі, дэфіцыт якога зараз складае 4 мільярды рублёў, працягваецца зніжэнне ўзроўню жыцця насельніцтва, расце сацыяльная напружанасць у грамадстве, пікам якой сталі красавіцкія забастоўкі рабочых. У самім парламенце да палітычнай згоды гэтак жа далёка, як да лепшых часоў увогуле.

Першы і другі дні работы чацвёртай сесіі паказалі, што розныя палітычныя плыні прытрымліваюцца супрацьлеглых пунктаў погляду на шляхі выйсця са становішча. Менавіта таму доўгімі і вострымі былі дэбаты вакол парадку дня. Большасць дэпутатаў не падтрымала канцэпцыю апазіцыі, якая прапаноўвала асноўную ўвагу скіраваць на палітычныя пытанні. У выніку па-за рабо-



тай чацвёртай сесіі засталіся такія пункты, вылучаныя апазіцыяй: аб наданні дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР статуса канстытуцыйнага закона, аб праекце закона аб выбарах народных дэпутатаў БССР, аб фарміраванні кааліцыйнага ўрада народнага даверу, аб асноўных прынцыпах раздзяржаўлівання ўласнасці ў БССР і інш. Нягледзячы на, здавалася б, непахіснае жаданне большасці не пашыраць і без таго груваскі парадак дня ніводным дадатковым пытаннем, адно з іх усё ж удалося працягнуць камісіі па справах моладзі. І магчыма неўзабаве рэспубліка будзе мець закон «Аб дзяржаўнай маладзёжнай палітыцы ў Беларускай ССР».

Напружанасць у зале амаль дасягнула мяжы, калі, ужо ў які раз Сяргей Антончык заклікаў дэпутатаў выслухаць прадстаўнікоў стачачных камітэтаў. Згода не была дадзена. Аргументацыя такая: «Хопіць палітычных амбіцый», «Нельга ператвараць парламент у мітынг», «Час засярodзіцца на важнейшых дзяржаўных пытаннях, ад якіх залежыць жыццё рэспублікі». Галоўным з такіх пытанняў, відавочна, стане абмеркаванне і прыняцце Дзяржаўнай праграмы Беларускай ССР па стабілізацыі эканомікі і сацыяльнай абароне насельніцтва, з якой выступіў Старшыня Савета Міністраў БССР В. Ф. Кебіч. Яе аналіз працягваўся ў пастаянных камісіях, а сёння дэпутаты на пленарным пасяджэнні зноў адкрыюць дэбаты паводле важнейшага дакумента чацвёртай сесіі.

Парламенцкі тыдзень быў насычаны вострымі момантамі, крытычнымі сітуацыямі, да якіх кожны з парламентарыяў ставіўся па-свойму. Мы папрасілі аднаго з іх, старшыню камісіі па пытаннях працы, цэн, занятасці і сацыяльнай абароненасці насельніцтва А. В. Саснова пракаменціраваць падзеі, якія выклікалі найбольш моцную рэакцыю залы.

**— Аляксандр Віктаравіч, як на Вашу думку, ці трэба было дэпутатам выслухаць прадстаўнікоў стачкомаў?**

— Я б не стаў хавацца за нейкія фармальныя прычыны, каб не выслухаць прадстаўнікоў рабочых. Гэта б забрала не так шмат часу, але, магчыма, дапамагло б зняць напружанасць. Гавораць, што яна існуе толькі ў Мінску. Магчыма. Але ж тут таксама людзі. Хаця, можа, не заўсёды і не зусім яны разумеюць свае патрабаванні да канца. Я асабіста сутыкаўся з гэтым, калі бываў на прадпрыемствах. На рабочых месцах размова, напрыклад, ішла толькі аб цэнах. Калі ж вядзеш гутарку са стачкомам завода, у наяўнасці і цэны і палітыка. Выходзіш на ўзровень горада — толькі палітыка. Я думаю, трэба было б праявіць увагу і ўнікнуць у сутнасць патрабаванняў.

**— Як Вы ставіцеся да такіх патрабаванняў стачкомаў, як адстаўка ўрада, перавыбары існуючага Вярхоўнага Савета?**

— Я ўвогуле прыхільнік канстытуцыйнага рашэння ўсіх праблем. Мы прывыклі да думкі, што калі аднаго кіраўніка замяніць на другога, то справы адразу палепшацца. Гэта малаверагодна. Канстытуцыйны ж працэс працяглы. Прыклад таму — краіны, якія не пайшлі ў 1917 годзе за бальшавікамі, а працягвалі павольна, канстытуцыйным шляхам удасканальваць свае адносіны ў грамадстве: сацыяльныя, эканамічныя, палітычныя. Яны зараз жывуць нармальна.

Не трэба забягаць наперад. Калі пайсці на повадзе ў стачкомаў і распусціць Вярхоўны Савет, прыняўшы закон аб выбарах, які прапануе апазіцыя, правесці новыя выбары, то, я думаю, мы можам атрымаць яшчэ больш кансерватыўны парламент. Хаця я не магу сказаць, што поўнасцю задаволены цяперашнім складам Вярхоўнага Савета, аднак ён больш прагрэсіўны, чым ранейшы. А калі так, значыць прагрэс ёсць і не трэба падганяць гісторыю, бо яна мае ўласцівасць даваць выспятка тым, хто спяшаецца...

**— Якія Вашы агульныя ўражанні ад прапанаванай дэпутатам Дзяржаўнай праграмы па стабілізацыі эканомікі і сацыяльнай абароне насельніцтва? Ці ўпэўнены, што яна дапаможа нам скрануцца з мёртвай кропкі?**

— Пэўную ацэнку пакуль даць не магу, праграма будзе прапрацоўвацца ў камісіях. У цэлым жа яна працягвае, развівае асноўныя палажэнні восеньскай праграмы пераходу да рынку. Дэкларыруе асобныя элементы больш сур'ёзнага ўмяшання выканаўчай улады ў работу. Але ў мяне ўсё ж ёсць пэўныя сумненні. Думаю, што некаторых мер адміністрацыйнага ціску можна было б пазбегнуць. Напрыклад, не падабаецца палажэнне, згодна з якім будуць правярацца дагаворныя цэны на прадмет іх мэтазгоднасці. Умяшанне мае на мэце санкцыі: адабранне прыбытку, атрыманага ад рэалізацыі тавараў. Тут зноў пэўны дыктат. Калі ж гэта толькі на перыяд выхаду з крызісу, то трэба дакладна агаварыць тэрміны.

Тым не менш, на маю думку, праграма дае шанц. Непакоіць



другое: яе трэба выконваць. Калі ўзяць восеньскую праграму, то многае не пачыналі рабіць, хаця і тэрміны былі вызначаны. Тут многае ўпіраецца ў саюзны дагавор. Нявырашанасць гэтага пытання дастаўляе шмат праблем.

Чарговая сесія Вярхоўнага Савета не абяцае быць хуткай. Больш за трыццаць пытанняў у парадку дня. Можна сказаць з упэўненасцю, што па многіх з іх са скрыпам будзе дасягнута згода, па некаторых і яна пад сумненнем. Праз якія рыфы яшчэ прыйдзецца прайсці парламенцкаму караблю, прадбачыць цяжка. Але як ні круці, без палітычнай згоды спрыяльных умоў для руху чакаць не выпадае. У чарговы раз хочацца пажадаць дэпутатам разважлівасці і мудрасці, бо гісторыю і сапраўды не трэба падганяць.

**В. ШАЎКО.**
Фота **С. Брушко.**

## Тэлетайп

## Што не падзялілі?

**ПАДЗЕІ НА БЕЛАРУСКА-ЛІТОЎСКАЙ ГРАНІЦЫ**

Тут не сціхае хваля канфліктаў. 18 мая 1991 года на кантрольна-прапускным пункце паміж Шальчынінкайскім і Воранаўскім раёнамі супрацоўнік дэпартамента па ахове краю Літвы А. Стасайціс забіў капітана міліцыі з Воранаўскага РАУС А. Фіяся. Наступнай ноччу на граніцы з Іўеўскім раёнам знойдзены труп аднаго з супрацоўнікаў аховы краю Літвы Г. Жабунаса, а праз паўтара сутак невядомымі асобамі на дарозе Вільнюс—Ліда падпалены два вагончыкі літоўскага мытнага паста і дэпартамента па ахове краю. Прэм'ер-міністр Літвы Г. Вагнорус вядзе актыўны дыялог з В. Кебічам. У іх тэлефоннай размове была падкрэслена рашучасць зрабіць усё магчымае, каб спыніць эскалацыю канфлікту. Атрымана паведамленне, што арыштаваны А. Стасайціс, а ў Ашмянах затрыманы тры чалавекі, якіх падазраюць у забойстве супрацоўніка літоўскай службы па ахове граніцы.

***

На гэтым тыдні ў рэдакцыю «Чырвонай змены» завітала кіраўнік турысцкай групы з Ерэвана Э. В. Аруцюнян. Яе меркаванні, меркаванні чалавека, які значна бліжэй да тамтэйшых праблем, чым мы, чытайце ў наступным выпуску «Факта».

***

Паводле паведамленняў нашых уласных карэспандэнтаў, у Беларусі пакуль што даволі ціха. Вобласці прыслалі ў Мінск сваіх прадстаўнікоў, а таксама прадстаўнікоў працоўных калектываў, каб выказаць Вярхоўнаму Савету свае меркаванні і прэтэнзіі да яго дзейнасці.

21 мая на плошчы Леніна сабралася больш як сто чалавек — прадстаўнікі салігорскіх шахцёраў, магілёўскія аўтазаводчане, мінскія трактарабудаўнікі. Увесь час адбываліся самыя розныя палітычныя акцыі — пікеты, стыхійныя мітынгі, вёўся збор подпісаў пад зваротамі. Адбылася нават галадоўка — Ларыса Перцава, былы галоўны бухгалтар мінскай гарадской калегіі адвакатаў, такім чынам ужо ў каторы раз дабіваецца аднаўлення на былым месцы работы.

## Цэнтру Скарыны—жыць!

Здаецца, мы патроху выкараскваемся з нашай духоўнай нацыянальнай беднасці. Менавіта такое меркаванне вынікае з аднае падзеі апошняга часу. У рэспубліцы ствараецца нацыянальны навукова-асветніцкі культурны цэнтр імя Францыска Скарыны. Ужо прынята і ўрадавая пастанова. Ужо працуе і часовы камітэт па стварэнню скарынаўскага цэнтра. На чале шматграннай, шматпланавай дзейнасці яго стаіць вядомы грамадскасці рэспублікі, навуковаму савету краіны, замежных дзяржаў доктар філалагічных навук Адам Іосіфавіч Мальдзіс.

Аб клопатах будучага цэнтра і ішла гаворка на адным з пасяджэнняў супрацоўнікаў часовага камітэта.

— Мне бачыцца, што цэнтр наш убярэ ў сябе, прадоўжыць традыцыі 20-х гадоў, традыцыі Інбелкульта, — зазначыў у сваім выступленні А. І. Мальдзіс.

Калі ўгледзецца ў кагорту людзей, якія прыйшлі ўжо на працу ў цэнтр, то няма ніякіх сумненняў: ствараецца калектыў клапатлівых аднадумцаў, што руплацца аб беларускай культуры. Пытанні гісторыі беларускай культуры будуць весці вядомыя філосафы І. Конан, А. Бембель. Культуралогія — прадмет зацікаўленняў маладога навукоўца, празаіка Ігара Бабкова. Шмат што чалавеку цікаўнаму могуць сказаць ужо самі імёны Захара Шыбекі, Генадзя Каханоўскага, Аляксандра Лозкі, Сяргея Шупы, Вячаслава Рагойшы...

Шмат работы ў будучага цэнтра. Вучоныя мяркуюць, што скарынаўскі цэнтр стане галоўным акумулятарам, галоўнай энергазабяспечваючай крыніцай у справе зберажэння, захавання і шырокай прапаганды ўсяго беларускага.

**К. СМЕЯНОВІЧ.**

## Загучала

**ЛІТОЎСКАЕ РАДЫЁ НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ**

Нягледзячы на тое, што будынак літоўскага радыё і тэлебачання да гэтага часу заняты вайскоўцамі, яно знайшло магчымасць трансліраваць перадачы на беларускай мове. З 25-га сакавіка 1991 года па першай праграме літоўскага радыё на частотах: 666 кГц (450,5 метра) і 1557 кГц (192,7 метра) у дыяпазоне сярэдніх хваль, адразу пасля навін на літоўскай мове, каля 22.20 кожны дзень трансліруюцца інфармацыйныя перадачы на беларускай мове.

А з 6-га красавіка па другой праграме літоўскага радыё на частаце 1107 кГц (271 метр) у дыяпазоне сярэдніх хваль перадачы на беларускай мове зноў можна слухаць кожную другую і чацвёртую суботу месяца ў 11.30 (час усюды маскоўскі).

Арунас **СІЛІЦКАС**, г. Вільнюс.

## Свята ў Ялце

**З Ялтай, з гасціннай крымскай зямлёй, развіталіся ўдзельнікі Дзён беларускай культуры, што праходзілі тут. Яны сталі пачаткам урачыстасцей, прысвечаных 100-годдзю з дня нараджэння класіка нацыянальнай культуры Беларусі Максіма Багдановіча. Паэт некалькі разоў прыязджаў у Ялту. Тут правёў ён апошнія месяцы свайго кароткага, як імгненне, жыцця і на гэтай зямлі знайшоў апошні прытулак. З Чарнаморскага ўзбярэжжа свята пяройдзе ў Мінск, тут у бліжэйшыя дні адкрыецца Міжнародны сімпозіум беларусістаў, таксама прысвечаны аб'яўленаму ЮНЕСКО Году Багдановіча.**

# Па старонках «Полацака»




О, Божа, Ўсеўладны, о, Божа,
Магутны,
Пазбаў Беларусь ад напасці,
Дай волю краіне і нам шматпакутным,
Дай сілу, надзею і шчасце.
Цябе, Божа, молім у спеве сугучным:
З'яві сваю добрую волю.
О, Божа, Ўсеўладны, о, Божа,
Магутны,
Пашлі нам шчаслівую долю.
Мы, дзеці твае, мы з пакораю просім,
Пазбаў нас ад цяжкае мукі.
Мы лёс Беларусі і наш лёс прыносім,
Табе ў справядлівыя рукі...

**Я. Золак.**

Пры фінансавай дапамозе царквы Жыровіцкае Божае Маці, Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы сёлета ў Злучаных Штатах Амерыкі (г. Кліўленд, штат Агаё) пачаў друкавацца часопіс «Полацак», два нумары якога выйшлі ў свет.

Ужо сімвалічная назва часопіса шмат аб чым гаворыць: старажытны Полацк быў сталіцай нашых продкаў — крывічоў, найбольшага племені, якое ў даўнія часы асела ля рэк Дзвіны, Вялікае, а таксама ў верхнім цячэнні Дняпра і заснавала Полацкае княства. Адсюль пачалося доблеснае змаганне за незалежнасць нашай Бацькаўшчыны. Дзякуй Богу, гісторыя захавала для нас яе гераічныя імёны: Рагвалод, Рагнеда, Ізяслаў, Брачыслаў, Усяслаў Чарадзей... Аднак святая зямля наша нарадзіла не толькі славутую дынастыю князёў-змагароў, але яшчэ й шматлікіх асветнікаў, пачынальнікаў нашай культуры: Еўфрасінню Полацкую, Францішка Скарыну, Сімяона Полацкага, Лазара Богшу...

У прадмове да часопіса яго заснавальнікі пішуць: «Полаччына, як і ўся зямля беларуская, пакінула вялікую спадчыну. І нам, нашчадкам, нельга забываць пра гэта. Ашчадна зберагаць, вывучаць і перадаць духоўнае багацце нашых продкаў тым, хто прыйдзе нам на змену, — вось мэта часопіса «Полацак». Мы таксама спадзяёмся, што ён паслужыць справе ўзмацнення сувязей беларускай зміграцыі з Бацькаўшчынай».

З прывітальным словам да «Полацака» звярнуліся мінскі клуб «Спадчына», часопісы «Полымя», «Спадчына»; сваю ўдзячнасць і пашану выказалі Васіль Быкаў і гісторык, намеснік старшыні Сойму Беларускага Народнага Фронту «Адраджэнне» Міхась Ткачоў.

Нязведаны шляхі Гасподні. У розныя часы, па розных прычынах пакідалі беларусы Бацькаўшчыну. Ад'язджалі ў грамадзянскую, у трыццатыя гады, ад'язджалі пасля другой сусветнай вайны... Расставанне з роднай зямлёй заўсёды трагедыя: перарываюцца моўныя і сваяцкія сувязі, і, вядома, тыя, аб якіх кажуць «сэрцам адчуваю». Асабліва вялікі наплыў беларускіх эмігрантаў на Захад быў пасля другой сусветнай вайны. Тыя беларусы, якіх занадта абавязковыя саюзнікі не паспелі вярнуць у абдымкі рэпрэсіўнага монстра (рэпатрыіраваць), адплывалі за акіян — у ЗША — у пошуках лепшай долі. Там, больш як 40 год назад на агульным сходзе беларускіх эмігрантаў, у Кліўлендзе быў закладзены аддзел Беларуска-Амерыканскага Задзіночання (БАЗА). Кліўлендская моладзь таксама мела сваю арганізацыю — Згуртаванне Беларускай Моладзі (ЗБМ), — якую ўзначаліў Міхась Белямук. У сваіх успамінах «Пачатак» (№1,2) ён расказвае, як прыплыў на параходзе «Лонгфэлаў» з іншымі землякамі з Нямеччыны ў Нью-Йорк; як сустрэўся з прадстаўнікамі старой эміграцыі, якая «размаўляла паміж сабой прыгожай, чыстай беларускай мовай»; як «спаткаў тых асобаў, што беларусамі сябе называлі, але былі камуністычна настроеныя і папракалі за тое, што я застаўся на Захадзе, не вярнуўся дамоў»...

Вось і айцец Міхась Страпко ўспамінае свой прыезд у Кліўленд у 1950 годзе (№ 1. «Захаваць песню»). Ці трэба казаць, што ў першыя гады беларускай эміграцыі, адарванай ад роднай зямлі, было цяжка. Але, нягледзячы на цяжкасці, беларускай калоніі ўжо праз 10 год (у 1960 г.) удалося пабудаваць на свае сродкі і сваімі рукамі царкву Жыровіцкае Божае Маці, а яшчэ праз год арганізаваць пастарска-рэгенцкія курсы, якія скончыў і айцец М. Страпко. На працягу 10 гадоў а. М. Страпко служыў настаяцелем прыходу царквы Жыровіцкае Божае Маці. Са шчырасцю і павагай перадаў ён у «Полацак» тэкст і ноты песні-малітвы, якую ў пасляваенныя гады спявалі беларусы-эмігранты. Тэкст яе мы вынеслі ў эпіграф дадзенага артыкула.

Аб тым, як у некалькіх мілях ад Кліўленда, у невялікім прыгарадзе Стронгсвіл прыдбалі беларусы прыгожую дзялянку зямлі і стварылі на ёй свой «Полацак» — культурна-грамадзянскі, асветніцкі цэнтр — піша ў сваім артыкуле «Жыві, ідэя паяднання!» Святлана Белая (№ 1). З 1 па 3 верасня 1990 г. тут, на «Полацкай зямлі», адбылася XIX сустрэча беларускіх эмігрантаў, якую можна назваць сусветнай, бо з усяго свету з'ехаліся на яе беларусы: з ЗША, Нямеччыны, Англіі, Францыі, Канады; упершыню — з Беларусі, Літвы, Ленінграда, Беласточчыны. Адкуль бы ні прыехалі ў амерыканскі «Полацак» беларусы, іх яднала адзіная думка пра лёс Бацькаўшчыны, пра тое, што народ наш не можа жыць без культуры, без пэўнага духоўнага асяроддзя.

На XIX сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі яе ўдзельнікамі была прынята рэзалюцыя, некалькі пунктаў з якой трэба прывесці тут:

— Рабіць захады, каб дзяржаўныя і прыватныя сектары заходніх краін аказалі гуманітарную дапамогу пацярпеўшым ад чарнобыльскай радыяцыі на Беларусі, як гэта звычайна робіцца ў выпадках вялікіх катастроф, імкнуцца адраджаць нацыянальную культуру, хрысціянскую мараль і агульначалавечыя вартасці.

— Звярнуцца з просьбай ад імя беларускіх грамадоў у ЗША і Канадзе да кангрэса ЗША, парламента Канады, каб у Амерыку і Канаду былі прыняты квоты эмігрантаў з ліку жыхароў найбольш заражаных мясцовасцей чарнобыльскай зоны.

— Мы зварочваемся з просьбай да ўладаў Беларускай ССР, каб было спынена накладанне мыта на дазіметры, якія жыхары рэспублікі дастаюць ад сваіх суродзічаў за-за мяжы.

Як бачым, суайчыннікі за мяжой не забылі аб трагічным становішчы нашай шматпакутнай Бацькаўшчыны. Памятаюць. Вераць. Спрабуюць дапамагчы. А што робіцца з намі? Мы нібыта і не на роднай зямлі жывём.

Народ знямеў? Не. Выйшаў жа ён баставаць пасля злашчаснага 2 красавіка. Вось толькі ці не позна выйшаў? Ці не адышоў той дарагі час, калі страты маглі б быць менш значнымі. А калі б не было павышэння цэн, дык што —не выйшлі б, не забаставалі б? Мяркуючы па ўсім, не, не выйшлі б і не забаставалі б. Вось гэта і палохае. Больш за ўсё. Дарэчы, менавіта на гэтую тэму падборка вершаў Яўгена Гучка «Здаровай быць Радзіма можа» (№ 1). Найбольш характэрным вершам з дадзенай падборкі мы і скончым агляд эміgranцкага беларускага часопіса «Полацак»:

**Здаровай быць Радзіма можа,**
**Калі ў ёй магутны Божа**
**Яе дзяцей яднае ўсіх**
**Па ўласнай светлай волі іх.**

**Калі ж не выйдзецца такога,**
**Тады любы служыцель Бога —**
**Хай Адамовіч, хай Скарына —**
**У чужую выгнаны краіну.**

**А дома часам тым і гэтым**
**Гаўляйтаруюць прайдзісветы.**
**Хатынь... Чарнобыль... Курапаты... —**
**То за бязбожжа нам расплата.**

А. КРЫВАНОС.




# Навіны кніжнага гандлю



**У Мінску па вуліцы Прытыцкага адкрыты новы кніжны магазін. Тут упершыню ў рэспубліцы будзе арганізаваны цэнтралізаваны продаж праваслаўнай літаратуры, якую рэгулярна пачне пастаўляць Мінскае епархіяльнае ўпраўленне. Асвяшчэнне новага кніжнага магазіна праводзіў свяшчэннік Мінскага кафедральнага Свята-Духава сабора айцец Ігар, які прысутнічаў на яго адкрыцці.**

**НА ЗДЫМКАХ:**
**● Першыя наведвальнікі магазіна.**
**● Шырокі выбар праваслаўнай літаратуры прапануе пакупнікам новы магазін.**
**Фота У. ВІТЧАНКІ (БЕЛТА).**





## Як жывеш, вёска?

**Так лічаць не толькі тыя, каго народ прывык называць барацьбітамі за дэмакратыю. Мы прапаноўваем вашай увазе размову з чалавекам, які займае пасаду старшыні калгаса. Не трэба быць вялікім палітыкам, каб ведаць, што людзей, звязаных з калектыўнымі гаспадаркамі, нашы дэмакраты лічаць апалагетамі рэакцыі. Ці так гэта? І ці трэба ўсіх вымяраць адной меркай, заганяць у адзін салдацкі шэраг! Знаёмцеся: ЮЛЬЯН ПЯТРОВІЧ ЦВІРКА, старшыня калгаса «Нёман» Стаўбцоўскага раёна.**

# Не трэба, людзі, баяцца!

ПРЫГОЖЫЯ тут мясціны. Акрамя ўсяго, мы трапілі ў Прынямонне ў тыя дні, калі вакол усё квітнела, калі ў рост ішлі травы, у самы разгар палявых работ. Мерапрыемства, якое звычайна называюць нарадам, сабрала пад дах калгаснай канторы, як кажуць, начальства. Кожны мог выказаць свае патрэбы, свае думкі наконт вядзення гаспадаркі. Слова трымаў старшыня калгаса. Ён не проста раздаваў даручэнні, не проста вызначаў фронт работ, а раіўся з людзьмі. Гэта была сапраўдная зарадка і людзям, і самому старшыні. Размова ішла не толькі пра вузкія праблемы дадзенай гаспадаркі. На сяле жывуць людзі не так далёкія ад палітыкі, як думаюць пра іх у горадзе. Акрамя таго, каму, як не сялянам, лепш ведаць, якімі формамі і метадамі, як казалі раней, весці гэтую самую сельскую гаспадарку. Паглядзіце ў гісторыю — няўжо нейкія загады зверху прымушалі нашых «забітых» сялян карміць горад, ды яшчэ як карміць! Зараз «Чырвоная змена», ды і не толькі яна, друкуе календары, дзе чорным па беламу напісана, раскладзена літаральна па паліцах уся сялянская праца! Як кажуць, «кожнай агародніне свой час». Тады, у сытыя і спакойныя гады, гэты час вызначаў шматвекавы сялянскі вопыт. І толькі ў апошнія 70 гадоў гэты вопыт быў заменены «аўтарытэтам» выканкомаўцаў, гаркомаўцаў і райкомаўцаў, людзей, ад сялянскай працы часам вельмі далёкіх...

Юльян Пятровіч дзеліцца сваімі праблемамі: **«Заўсёды селянін быў крайнім. Яго падманвалі, з яго здзекаваліся... Ну што гэта такое, мяса на мясакамбінатах не бяруць, яйкі, якіх мы атрымліваем столькі, што можам пракарміць буйны горад, проста-такі псуюцца ў крамах, і ніхто іх уцэньваць не збіраецца. Камбікорму няма, магутнасцей для будоўляў няма, качак сваіх мы перакормліваем да такой ступені, што яны становяцца ўжо некандыцыйнымі. А буйная рагатая жывёла! Яе ж не падманеш, як яе корміш — так яна і малако дае. Камбікорм патрэбны як вада, як паветра — тое, што мы зараз ужываем замест яго, праходзіць праз арганізм жывёлы транзітам, большая частка проста не засвойваецца»...**

Старшыня не плачацца ў камізэльку, проста ў апошнія гады не толькі элементарнага парадку, але і логікі ў дзеяннях урада няма. Сведчыць аб гэтым той «бедлам», што ўтварыўся ў сельскай гаспадарцы, галіне, без якой немагчымы ні палёты ў космас, ні самае звычайнае жыццё.

Юльян Цвірка: **«За гэтую перабудову мы настолькі «перабудаваліся», настолькі ачарсцвелі, што пачалі ненавідзець нават саміх сябе»...**

Палюбіце адзін аднаго... Пэўна, у тыя часы, калі ствaралася Біблія, становішча ў сельскай гаспадарцы было не такім напружаным, ідэалогія тады была адна: «Кесару — кесарава». Сяляне народ кармілі, уладары — кіравалі. Толькі не так кіравалі, як зараз. Мэтазгоднасць кіравала...

**— Юльян Пятровіч, якім шляхам, на вашу думку, будзе развівацца сельская гаспадарка?**

— Прадказаць зараз цяжка, але, на мой погляд, калгас застанецца калгасам. Галоўнае — сельская гаспадарка амаладзіцца, людзі ў калгасах стануць зарабляць грошай не менш, чым у горадзе. Умовы жыцця будуць спрыяць таму, каб моладзь заставалася на сяле. Паглядзіце — у нас вуліцы заасфальтаваныя, у кожным доме водаправод, прыродны газ. Але ўсяму гэтаму патрэбны догляд! Калі ўжо ёсць такія выгоды — дык патрэбны і санвузлы, і ванны каб у кожным доме былі. Наогул, вы, гараджане, павінны нам зайздросціць. Праўда, праца на палях і на фермах застаецца. Цяжкая праца. Але калі яе механізаваць... І слоў няма.

**— Дык для гэтага ж спачатку трэба выхаваць гаспадара, прычым выхаваць яго ў кожным чалавеку! За гады Савецкай улады пачуццё гаспадарлівасці было настолькі вынішчана...**

— Вынішчана? Ну калі толькі ў гады сталіншчыны, які высылаў кулакоў, часам серадняков... Але гісторыю назад не павернеш. Кулака вяртаць сэнсу няма. На мой погляд, галоўнае зараз не дзяліць зямлю, але кожнаму, хто жадае, даць на вёсцы сядзібы, каб ён мог там выкарыстаць усе свае магчымасці. Зараз ужо селяніна не прымусіш узяцца за касу, за рыдлёўку, калі ёсць магчымасць абысціся тэхнікай. А дзе на ўсіх будучых фермераў набрацца той тэхнікі? Даб'ёмся толькі таго, што вернемся ў пячорны век.

У нас зараз у краіне ўсё, што было добрага, аплявалі, зганьбілі, а новага нічога не стварылі! А пішуць!.. Паказваюць гэтага фермера з рыдлёўкай... Ды што ён зробіць?! Ён будзе потам зямлю паліваць і нас з вамі праклінаць, што мы яго ледзь не гвалтоўна на гэтую зямлю пасадзілі. Ён горад не пракорміць.

*А як жа быць з тымі, хто з экранаў тэлевізараў, з газетных палос крыкам крычаць: «Дайце нам зямлю — мы вас накормім!». Давядзецца раскрываць сакрэт, але каб выканаць сацыяльны заказ — знайсці і распрапагандаваць на ўвесь свет таго самага фермера, нашаму брату-журналісту часам прыходзіцца, як у той песні «Трое суток не спать, трое суток шагать...» Фермерства сапраўдная альтэрнатыва калгасу. Пры высокім агульным развіцці народнай гаспадаркі фермерства, арандатарства стане сапраўды стваральнай сілай, плынню, якая ўнясе ў сельскую гаспадарку дух канкурэнцыі. Але зараз жа есці трэба! Не, рана, рана разганяць калгасы! Шлях, па якім ідуць зараз некаторыя «рэфарматары», вядзе проста нават не да анархіі, а да поўнага развалу эканомікі, які тоіць у сабе прамую небяспеку паўтарэння 33-га года...*

**СЛОВА ЮЛЬЯНУ ЦВІРКУ:**

— Я за тое, каб усім, хто жадае, даць садовыя ўчасткі. Калі хочаш — бяры, хочаш — нават цэлы сад вазьмі, вядзі там забудову, толькі б ад гэтага карысць была. Хай гэты ўчастак пяройдзе ў спадчыну, хай дзеці, унукі там працуюць, прызвычайваюцца да гэтай зямлі, узгадваюць пах яе. Тады менш пачнуць стаяць ля піўных ларкоў, вінных крамаў. А ўвогуле, на мой погляд, трэба завезці ў гэтыя крамы столькі гарэлкі, колькі трэба, каб не таўчыся ў чэргах, каб не страчваць у іх рэшткі чалавечага. Забаронены плод салодкі...

**— Юльян Пятровіч, вы сваім калгаснікам павысілі зарплату. Чаму ж на вас іншыя старшыні, калегі вашы, так накінуліся?**

— Ведаеце, трэба было прымаць контрмеры супраць гэтай цэнавай навалы. Што мы зрабілі? Мы ў два разы павялічылі людзям кампенсацыю, але не ва ўсіх гаспадарках ёсць такая магчымасць. Ёсць гаспадаркі закрэдытаваныя, у якіх на рахунку адны пазыкі. Калі яны там павялічаць зарплату, прыйдзецца браць чарговы крэдыт, а працэнты зараз, самі ведаеце, якія. Нават наша гаспадарка пры такім эканамічным раскладзе працягне год-два. А далей усе мы будзем рабіць за тую «палачку», як раней рабілі.

**— Зараз мы бачым, што адна гаспадарка бедная, другая багатая, адна толькі на крэдытах трымаецца, а другая ўвесь раён выцягвае. У чым жа сакрэт гэтых заможных гаспадарак!**

— Я скажу так: не трэба баяцца. Не трэба дрыжэць перад тымі, хто наверсе. Не трэба забываць, што гаспадар не той, хто падпарадкоўваецца, а той, каму падпарадкоўваюцца. Прычым падпарадкоўваюцца з задавальненнем, ведаючы, што галава ў таго гаспадара варыць. Душу ж чалавечую не падманеш!

Камандная сістэма стварыла салдата. Загадаюць яму араць — ён і арэ, загадаюць ламаць — ён ломіць... Сказаў Гарбачоў, што алкаголь — атрута, Лігачоў пачаў высякаць вінаграднікі. А ў той лазе вінаградны лёс чалавечы. Некаторыя нават жыццё самагубствам скончылі з-за гэтых указаў... І ў нас жа ў Беларусі пачалі сады высякаць! А колькі абсталявання папсавалі, новага, каштоўнага! А вынікі?.. Так што не трэба слепа падпарадкоўвацца. Трэба мець галаву сваю і розум свой, тады і будзе гаспадарка моцнай.

Я не хачу сказаць, што і мне дурныя загады не давялося выконваць. Прыходзілася, хаця ведаў, што карысці ад іх не будзе. Але далёка не заўсёды гэта было. Са мной такія рэчы вельмі рэдка ўдаваліся. Запомнілася мне, калі ўся гэта «алігархія» прымушала падпісваць паперы на недабудаваны клуб. Падпісвай, кажуць, бо тады гэтыя будаўнікі прэмію атрымаюць. А што мне іхняя прэмія, мне клуб патрэбны! Іх жа на гэты аб'ект потым і бізуном не загоніш. Акрамя ўсяго, калі падпішаш — народны кантроль з работы зніме, а не падпішаш — таксама нявесела будзе...

**— Ну ды і падпісалі?**

— Не, не падпісаў. Але мне яны пасля гэтага доўгі час помсцілі... Тое ж самае і з дамбай было. Дзякуй богу, не падпісаў, а то ўсё гэтае возера вясной у Нёман сплыло... Во тады ўжо ўзяліся будаваць! Так што першая ўмова для гаспадара — ніколі не падзяляць на «маё» і «ваша» ні жыццё, ні час, ні зямлю. Калі ўсё гэтае душой ахопліваеш, тады і гэтай боязі няма, тады і справа рухаецца.

**— Юльян Пятровіч, як вы думаеце, ці вядзе перабудова, перамены апошнія менавіта да станаўлення такіх адносін да гаспадаркі, аб якіх вы гаварылі?**

— Гэтыя перамены настолькі заблыталі людзей, што яны не ведаюць, навошта яны робяць, для каго яны робяць. У мяне пытаўся нядаўна адзін госць: які ў цябе, таварыш старшыня, настрой на працу? Я і адказваю: аніякага няма настрою. Чаму? А таму што не ведаю, каго мы кормім. У якую прорву гэта ўсё ўлятае? Мы ж як рабілі, так і робім, а паліцы ў крамах пустыя... Левыя з правымі змагаюцца, у свае гульні гуляюць, дык каго ж з іх карміць, хто з іх сапраўды народу жадае дабра? Хто? Пазняк? Малафееў?

**— Ну, здаецца, і той і другі есці хочуць...**

— Хочуць дык яны хочуць, але гэтых усіх з Вярхоўнага Савета, і правых, і левых, і чырвоных, і зялёных, я б увогуле не карміў. Дзе іх праца, праз які мікраскоп яе можна ўбачыць?

**— Павышэнне цэн, аб якім вельмі доўга гаварылі, як аб нейкім эліксіры для сялянства, чым павярнулася на самай справе!**

— Сялян, як заўсёды, падманулі. Павысіліся цэны не толькі на нашу прадукцыю, але і на машыны, і на мінеральныя ўгнаенні, і на будаўніцтва, і на ўсё астатняе, без чаго жыць мы не можам. Пры такім становішчы нават наш калгас, як я ўжо гаварыў, больш як два гады не працягне.

**— А наколькі хопіць рэсурсу вашых машын!**

— Тэхніка ў нас пакуль што ёсць. І гэта дзякуючы толькі таму, што мы ў свой час не спалі ў шапку. Хто прамарудзіў, не запасся, не выкруціўся якім-небудзь чынам — будзе плаціць за яе ў два-тры разы больш. Зноў жа пры такім раскладзе калгасы закрэдытаваныя, незаможныя апусцяцца ў такую багну, у такое пекла, што ні адзін кааператар, ні адзін фермер іх адтуль не выцягне.

**— Вы прадказваеце сапраўдны апакаліпсіс, але ў чым бачыце выйсце!**

— У змене кіраўніцтва. Анархія, якая ўтварылася зараз, не дасць нам магчымасці працаваць. Міністэрствы разагналі, аграпром стварылі, потым і аграпром разагналі. Гэтыя нязграбныя рэформы нічога не дадуць. У любой капіталістычнай краіне ёсць мабільнае міністэрства сельскай гаспадаркі, навукова-даследчыя інстытуты, якія ствараюць гібкія доўгатэрміновыя праграмы. У нас жа гэтыя НДІ запоўнены не тымі, у каго галава дзейнічае, а тымі, у каго язык як памяло і лапы валасатыя. Дзякуй богу, не ўсе там такія, але большасць.

**—Юльян Пятровіч, так, як думаеце вы, ці думаюць і іншыя старшыні калгасаў!**

— Нас і раней не слухалі, і цяпер не слухаюць. Наверсе як лічылі, так і лічаць сябе вельмі рознабаковымі спецыялістамі. А наконт агульнай думкі... Колькі людзей — столькі і меркаванняў... Адзінае, што сцвярджаюць усе, павінен быць парадак, гаспадарлівы, лагічны парадак.

**— Я думаю, заканамерным будзе задаць пытанне: што ў вас робіцца менавіта для моладзі!**

— На мой погляд, ланцугамі прыкоўваць моладзь да вёскі не трэба. Трэба даваць ёй вольнасць. Скончыў школу— паспрабуй сябе. Раней крычалі: усім класам у калгас!!! Не трэба гэтага. Будуць умовы — застанецца моладзь. А ў каго ёсць здольнасці — калі ласка, у вялікі свет дарог шмат...

**— Чарнобыль вас, дзякуй богу, абмінуў...**

— Не так ужо і абмінуў. Дзесяць сямей чарнобыльцаў мы да сябе ўзялі, выдзелілі ім дапамогу. Зараз яны сабе дамы будуюць. Пакуль, праўда, у «времянках» жывуць, але і праца ім знойдзецца, і заробак не горшы за той, што яны раней атрымлівалі.

**Да Юльяна Пятровіча Цвіркі ідуць лісты з усёй краіны. Толькі нядаўна атрымаў іх старшыня з Яраслаўскай вобласці, з Варкуты, Ульянаўска. Шчырыя такія пісьмы, людзі пра сябе распавядаюць, просяцца ў гаспадарку. І сапраўды, варта гэта. Рызыкну прадказаць, што ў самым хуткім часе пачнецца вельмі станоўчы працэс—вяртанне чалавека да зямлі, да каранёў сваіх, да бацькоўскіх хат. Зямля чакае людзей. А «формы і метады»... Гэта ўжо вырашаць самім сялянам.**

**Алесь ПАЛЫНСКІ.**



# «Я кахаю цябе, Беларусь!»

**...У начным кафэ падавалі шампанскае. У паўзмрочнай зале па сцэне блукалі гонкія прэтэндэнткі на званне «Міс—вясна Беларусі». У холах спявалі і пацягвалі «Фанту», маладыя скакалі быццам у першы і апошні раз. Хоць і стаміліся, але не здаваліся. Студэнцкія балі заканчваліся гадзіны ў дзве ночы, але зноўку і зноўку да світанку, як бенгальскія агні, успыхвала ў Віцебску шматгалоссе студэнцкага фестывалю.**

...На некалькіх канцэртах вызначаўся студэнт з Індыі з песняй пра «розовые розы—Светке Соколовой». Публіка ў амфітэатры віскатала, зрывалася з месцаў і разбівала хваляй сваіх апладысментаў крохкае акварыумнае шкло прыцемкаў. Пасля аднаго з выступленняў Самжай Трыпатхі сказаў, што пабеларуску ведае толькі адзін выраз: «Я кахаю цябе, Беларусь!»

...Не пацвердзіліся чуткі, якія блукалі па горадзе да пачатку фестывалю аб тым, што ў латарэі будзе разыграны «Мерседэс». Прынамсі, на свяце і без яго хапала сенсацый, але ж крыху іншага плана.

...Для многіх стала адкрыццём і нечаканасцю цяга студэнцтва да народнай творчасці. Мастацка-музычны фестываль «Спадчына» ў праграме «1 Беларускай студэнцкай вясны-91» уразіў. І не толькі прафесійным узроўнем выканаўцаў, але і цікавасцю з боку гледачоў, гасцей, удзельнікаў фестывалю, гараджан — да выступленняў калектываў народнай творчасці. Здзіўляліся гэтаму і самі студэнты, і арганізатары фестывалю.

***

**Валянціна Міхайлаўна КІРЫЛАВА, дэкан факультэта сацыяльнай педагогікі Віцебскага педагагічнага інстытута, галоўны мастацкі кіраўнік фестывалю:**

— Усё, што мы ўбачылі ў праграме «Спадчыны»: конкурсы калектываў музычных, харавых, акадэмічных і народных спеваў, вакальных груп і індывідуальных выканаўцаў — гэта цудоўна. Я асабіста не чакала, што ўзровень будзе настолькі высокі. Прыемна і другое: непадробленае захапленне на канцэртах — не штучна створаная сітуацыя, а шчырая рэакцыя на ўбачанае і пачутае. А поспех імправізаваных канцэртных пляцовак, што спантанна з'явіліся ў цэнтры горада і ў парках, толькі пацвярджае гэта. Упэўнена, творчасць студэнтаў, іх імкненне да кантактаў, іх весялосць не ўпісаць ні ў якія межы. Можна сказаць, што ў дні фестывалю ў Віцебску —у горадзе трох рэк — нарадзілася яшчэ адна, студэнцкая. А раку ўтрымаць нельга. Фестываль стаў сапраўдным святам моладзі... Выпала ў жыцці шчасце. Дзякуй за яго...

***

...Яшчэ пару гадоў многія не паверылі б у тое, што сучаснае студэнцтва настолькі цікавіцца народнай культурай. Усе, хто прысутнічаў на канцэртах лаўрэатаў і дыпламантаў «Спадчыны», пераканаліся ў гэтым увачавідкі. Калектыў народных песень «Валачобнікі» Мінскага інстытута культуры і народны хор Віцебскага культасветвучылішча, вакальная група «Вясна» з Полацка, танцавальныя ансамблі «Крыжачок», «Народнае свята», калектыў народнага танца Магілёўскага машынабудаўнічага інстытута, музыканты з ансамбля народных інструментаў «Менск» выклікалі сваім з'яўленнем на сцэне фурор. Іх майстэрства здзівіла ўсіх. Увогуле, поспех спадарожнічаў ім, а перамога толькі ўмацавала сілы. І, бясспрэчна, дала штуршок да новых творчых знаходак.

***

...Здзіўляцца тут можна было шмат чаму. Ці не дзіўна, па-вашаму, што ў рукі моладзі амаль на тыдзень аддалі ледзьве не лепшыя ў рэспубліцы канцэртныя пляцоўкі — Палац культуры і тэхнікі прафсаюзаў і амфітэатр пад адкрытым небам? Ці не дзіўна, што фестывалю былі дараваны значкі і майкі з сімволікай «1 Беларускай студэнцкай вясны-91». І ў рэшце рэшт, ці не дзіўна, што бяссонныя ночы, гамонкі ўзахлёб, песень на поўны голас, радасці ва ўсю моц не аднялі ва ўдзельнікаў свята ні іх галасоў, ні іх энергіі, ні іх імпэту?!

Студэнты павезлі з фестывалю не толькі граматы і прызы, але і відэазапісы выступленняў сваіх калектываў, добры настрой і ўпэўненасць у тым, што фестываль будзе жыць.

***

Хлопцы з мужчынскага акадэмічнага хору «Арфей» Гомельскага політэхнічнага інстытута, яшчэ не так даўно выглядаўшыя, як усе: сучасна і зусім звычайна,—перад выступленнем пераўтварыліся... Чорныя касцюмы і «бабачкі», бялюткія кашулі... Чым прываблівае іх класіка, якую яны спяваюць, ці не адчуваюць сябе няёмка на бязладным па-добраму свяце студэнтаў? Адказвалі ўсе адразу:

— У калектыў прыйшлі добраахвотна. Класіка папросту падабаецца. І нічога здзіўляючага ў гэтым няма.

— У нас добры калектыў. А ў прыемнай кампаніі, натуральна, і дома добра. і з канцэртамі ездзіць не сумна.

— На фестывалі мы, як і ўсе студэнты — свае. А выглядаць так жанр абавязвае. Тут мноства самых розных калектываў усялякіх напрамкаў, і мы — толькі грань студэнцкай творчасці.

***

Брэсцкі клуб «Чердак» — аб'яднанне аўтараў і выканаўцаў — гарманічна ўплёўся ў канву студэнцкага свята. Дзе толькі ні з'ўляліся іх гітары, адкуль толькі ні несліся песні! Кампанейскія і адкрытыя, яны паспелі пераznaёміцца не толькі з паловай фестывальшчыкаў, але на працягу сваёй канцэртнай дзейнасці — і з бардамі Віцебска. Начамі з-за дзвярэй гатэльнага пакою, дзе «Чердак» бавіў час, да прыходу дня былі чутны самыя розныя песні: «Ціха-ціха, паступова адмірае наша мова...» Усіх, хто заходзіў туды паслухаць, пасядзець і адпачыць, бясспрэчна, адразу скаралі простыя, але безумоўна арыгінальныя і таленавітыя песні Уладзіміра Вакульскага: «Лишь бы сердце не болело»,— спяваў Уладзімір, а рабяты падхоплівалі: «Лишь бы крыша не текла». Невядома, як астатнія берасцейцы, але «Чердак» вырашыў, што ў Віцебску выступае не ў апошні раз.

***

Амаль непрыкметна для агульнай масы студэнтаў прайшла адна немалазначная падзея: раніцай 10 і 11 мая прайшлі сходы прадстаўнікоў студэнцкага выканкама, старшынь студпрафкамаў, сакратароў камітэтаў камсамола. У абмеркаванні закраналіся самыя розныя тэмы. Але асновай стала пытанне аб стварэнні асацыяцыі студэнцкіх арганізацый Беларусі. Што ж гэта за асацыяцыя і якія яе мэты?

**Аляксандра ШАДЭНКА, старшыня студэнцкага выканкама рэспублікі:**

— Такой асацыяцыі, якую задумалі мы, у Беларусі яшчэ ніколі не было. Мяркуецца, што яна з'яднае ў сабе ўсе сілы студэнцтва: і прафсаюзныя, і камсамольскія, і іншыя студэнцкія арганізацыі. На будучую асацыяцыю трэба глядзець, як на кансалідацыю ўсіх сіл дзеля вырашэння праблем моладзі рэспублікі. Якой будзе асацыяцыя, вырашыць устаноўчы сход. Магчыма, мы створым сістэму студсервісу, дзе кожны малады чалавек у вольны ад навучання час будзе мець магчымасць зарабляць грошы. Галоўнае — не ствараць процістаяння прафкамаў, камсамола і студсаветаў. Разам мы — сіла.

**Уладзімір СЕРАБРАКОЎ, член выканкама студэнтаў рэспублікі:**

— Дзейнасць асацыяцыі будзе яшчэ шырэй. Мяркуецца, што яна будзе падтрымліваць усялякія студэнцкія клубы, якім сёння даводзіцца вельмі нялёгка. Таксама хацелася б ахапіць і эканамічную сферу: мы жадалі б на базе вышэйшых навучальных устаноў стварыць шэраг буйных фірм, прадукцыя якіх выходзіла б за межы рэспублікі, а ў перспектыве — і краіны. У гэтых фірмах студэнты працавалі б па сваёй навучальнай спецыяльнасці. Прычым у кожнага з іх на руках быў бы дагавор, у адпаведнасці з якім ім налічвалася б плата. Дарэчы, на падставе саўгасаў-тэхнікумаў магчыма стварыць сваю аграфірму. Увогуле, прынцып будучай асацыяцыі: хочаш добра жыць — зарабі. Гэта выгадна і студэнту, і навучальнай установе, і краіне цалкам.

Сёння стварэнне асацыяцыі будзе як нельга больш своечасовым, паколькі з 2 красавіка студэнтам стала жыць яшчэ «весялей», чым раней.

***

**Юрый Міхайлавіч ПРОХАРАЎ, прэзідэнт асацыяцыі студэнтаў Віцебска і Віцебскай вобласці, дырэктар фестывалю «1 Беларуская студэнцкая вясна-91»:**

— Усяго за некалькі дзён фестывалю ў Віцебску адбыліся адразу дзве гістарычныя падзеі: прынята рашэнне аб неабходнасці стварэння рэспубліканскай студэнцкай асацыяцыі і, вядома, сам фестываль.

Музыка, танцы, спартыўныя спаборніцтвы. Горад памаладзеў, а мы ўсе ўбачылі сапраўдны твар студэнтаў — захопленых, невычэрпна-таленавітых. Фестываль даў магчымасць усім калектывам выйсці на сцэну, паспрабаваць сябе ў конкурсах.

Дыскатэкі былі, хаця і шумлівымі, але прайшлі без боек і непрыемнасцей.

Я як дырэктар фестывалю здзіўлены, паколькі не чакаў нічога падобнага. Нягледзячы на блізкую сесію, амаль усе інстытуты Беларусі накіравалі дэлегацыі на фестываль, за што арганізатары свята вельмі ўдзячны.

Прыемна, што і віцебскія інстытуты не засталіся ўбаку, далі сродкі.

Цалкам, па-мойму, свята ўдалося, бо кожны канцэрт праходзіў, што называецца «на ўра».

***

Конкурс клубаў вясёлых і знаходлівых сабраў, здаецца, самую вялікую колькасць гледачоў. Яны не толькі запоўнілі вялізны партэр і галёрку ПК і ТП, але і стаялі ў праходах.

Зборная каманда віцебскіх педагагічнага і тэхналагічнага інстытутаў спаборнічала з камандай мінскага інстытута замежных моў. Смех і апладысменты былі не адзінай узнагародай пераможцам—віцебскай зборнай. Яна была таксама ўзнагароджана грашовай прэміяй (6 тысяч рублёў), паездкай у Італію. Атрымалі прызы і члены каманды гасцей з Мінска.

***

...Але вось ужо названы пераможцы конкурсаў, выбрана прыгажуня, «1 Беларускай студэнцкай вясны-91» — студэнтка БДУ Вольга Даніловіч. Гасне святло апошняга фестывальнага дня...

***

Свята студэнцтва ў горадзе над Заходняй Дзвіной скончылася студэнцкім балем у ноч з 11 на 12 мая. Усё было, як і ў папярэднія ночы. Толькі апладысменты былі больш гучныя і настойлівыя, а смех больш неўтаймаваным.

Удзельнікі фестывалю развітваліся адзін з адным, з горадам, прыняўшым іх на 5 цудоўных майскіх дзён.

Пасля доўгіх развітанняў і праводзін удзельнікі раз'ехаліся па сваіх гарадах. Фестываль «1 Беларуская вясна-91» скончыўся, пакінуўшы яшчэ непрыбраныя рэкламныя шыльды і стэнды, што мокнуць пад моцным майскім дажджом, успаміны, настрой і надзею на хуткае вяртанне свята.

Памятаеце? — «...нарадзілася яшчэ адна (рака), студэнцкая. А раку ўтрымаць нельга».

**В. ЗАЛЕСКАЯ.**



# Ці цяжкі кошык француза?

Адказаць адназначна на пытанне «што пачым» у Францыі практычна немагчыма. Таму, пачынаючы размову на гэту тэму, трэба адразу ж агаварыцца: ва ўмовах дзеючых тут законаў рыначнай эканомікі вы можаце заўважыць, што цана тавара адной і той жа якасці можа вагацца ў даволі шырокіх межах. Купіўшы нейкую рэч, на наступны дзень абавязкова сустрэнеш тое ж самае, калі не лепшай якасці, і танней...

Зараз цэны ў Францыі поўнасцю свабодныя, і вось ужо некалькі гадоў дзяржава не аказвае ўплыву на іх фарміраванне (хоць юрыдычныя магчымасці для гэтага ва ўрада ёсць). Рэгулююцца яны, як і мяркуецца ва ўмовах рынку, на аснове попыту і прапановы. Вядома, на базавыя тавары, хлеб, напрыклад, цэны ўстанаўліваюцца ў выніку пагаднення вытворцаў, і яны прыкладна аднолькавыя ўсюды: у пераважнай большасці парыжскіх булачных самы распаўсюджаны від белага хлеба — «багет»—каштуе прыкладна тры франкі дваццаць—тры франкі трыццаць сантымаў, у правінцыі — яшчэ танней, прыкладна два восемдзесят. Аднак гаворка ідзе, паўторымся, толькі пра самыя простыя вырабы. На больш складаныя тавары, скажам, адзенне, цэны вагаюцца ў даволі шырокіх межах.

Нельга, аднак, рабіць з гэтага вывад, быццам ва ўмовах свабоднага цэнаўтварэння дзяржава не мае да цэн ніякіх адносін. Узровень цэн на тавары і паслугі пастаянна замяраецца, і калі дзяржава лічыць, што ў нейкай сферы цэны растуць вельмі хутка, яна можа папярэдзіць адпаведную групу прадпрымальнікаў аб тым, што такім чынам яны ствараюць прадпасылкі для скачка інфляцыі. Акрамя таго, не трэба забываць і аб тым, што менавіта дзяржава ўстанаўлівае размеры так званай мінімальнай міжпрафесіянальнай заработнай платы (СМІК) — менш працадаўца плаціць не мае права — прычым зыходзіць пры гэтым з аналізу ўзроўню спажывецкіх цэн.

Існуюць у Францыі, вядома, і шматлікія даследаванні, прысвечаныя «канструяванню» сярэднестатыстычных цэн. Іншага слова тут і не падбярэш, паколькі з улікам усяго вышэйсказанага гаворка ідзе аб велічыні абстрактнай, хоць шанц сустрэць тавар менавіта з такім цэннікам на прылаўку і існуе. Аднак усё ж такія падлікі, як уяўляецца, дапамагаюць скласці пэўнае ўяўленне аб тым, колькі ж усё-такі каштуе спажывецкая карзіна француза. Вельмі аўтарытэтнай крыніцай у гэтай галіне лічацца даследаванні, што праводзяцца эканамічнай службай газеты «Фігаро». Супрацоўнікі гэтай газеты прадаставілі нам апошнія звесткі па размерах розлічных цэн, якія яны маюць.

**ФРАНЦЫЯ**
**СЯРЭДНІЯ РОЗНІЧНЫЯ ЦЭНЫ Ў ФРАНКАХ І РУБЛЯХ**
**(1 франк — 10,4 капейкі па афіцыйнаму курсу)**

| | франкі | рублі |
|---|---|---|
| Ялавічына, кг | 60,00 | 6,24 |
| Рамштэкс, кг | 94,30 | 9,81 |
| Свініна (спінная частка), кг | 38,80 | 3,52 |
| Куры, кг | 23,80 | 2,48 |
| Яйцы вышэйшай кат., дзесятак | 12,83 | 1,33 |
| Малако, літр | 4,90 | 0,51 |
| Масла, кг | 27,80 | 2,89 |
| Цукар, кг | 6,95 | 0,72 |
| Сыр «Камамбер» 45 працэнтаў тлуст., кг | 28,80 | 3,00 |
| Хлебапрадукты з дражджавога цеста, кг | 18,00 | 1,87 |
| Яблыкі, кг | 7,00 | 0,73 |
| Калготкі | 7,00 | 0,73 |
| Чаравікі мужчынскія і жаночыя | 250,00 | 26,00 |
| Дзіцячае дэмісезоннае паліто | 400,00 | 41,60 |
| «Дарослае» дэм. паліто | 1000,00 | 104,00 |
| Мужчынскі шарсцяны касцюм | 1000,00 | 104,00 |
| Халадзільнік тыпу «Мінск» | 4000,00 | 416,00 |
| Пральная машына-аўтамат | 5000,00 | 520,00 |
| Каляровы тэлевізар (экран 60 см) | 3500,00 | 364,00 |
| Аўтамабіль «Пежо-309» | 60000,00 | 6340,00 |

На прадукты харчавання француз траціць пятую частку заробку.

Некалькі слоў пра зарплату «сярэдняга француза» — на гэта пытанне таксама складана адказаць адназначна, як і на пытанне пра цану каўбасы. Дарэчы, гэта ўпаўне заканамерна, калі ўспомніць пра тое, што зарплата — гэта ж таксама цана, якой вымяраецца чалавечая праца, а рынак працы — неад'емная частка рыначнай эканомікі. Паводле даных штотыднёвіка «Нувель абсервер» і энцыклапедычнага штогадовіка «Кід» (большая частка лічбаў — па стану на мінулы год): кваліфікаваны рабочы атрымлівае ў месяц у залежнасці ад стажу работы ад 5,1 да 7,9 тысячы франкаў у месяц, сакратар-машыністка — 5,3 — 7 тысяч франкаў; паштовы служачы — 5,9 — 10,2 тысячы, інспектар паліцыі — 6,4—10,6 тысячы; навуковы супрацоўнік у сістэме Нацыянальнага цэнтра навуковых даследаванняў — эквівалента нашай Акадэміі навук — 14,9 — 21,9 тысячы; фінансавы інспектар I класа — 18,6 — 25,4 тысячы; месячныя даходы сярэдняга інжынера «Нувель абсервер» ацэньвае ў 17 тысяч франкаў, ваеннаслужачага ў званні палкоўніка — у 18, зубнога ўрача — арыенціровачна ў 25 тысяч франкаў.Так што, як кажуць, мяркуйце самі.

**С. БАТЫРАЎ.**

г. Парыж.



# На пакупкі — у «спажывецкі рай»



Выхадныя для амерыканцаў — асаблівыя дні. Акрамя адпачынку з сям'ёй, вечарынак і паездак на прыроду, яны праводзяць іх яшчэ ў адным традыцыйна любімым занятку — паляванні за пакупкамі.

Многія амерыканцы аддаюць перавагу загарадным гандлёвым цэнтрам, якія ўмяшчаюць у сябе дзесяткі магазінаў і крам і непараўнальныя ні па размеру, ні па асартыменту з нашымі збяднелымі універсамамі і універмагамі. Адна з прычын такой перавагі — кампактнае размяшчэнне самых розных спецыялізаваных магазінаў: ад абутковых да гандлюючых электронікай або прадуктамі. Другая і, магчыма, галоўная прычына ў тым, што за горадам цэны часта ніжэйшыя, чым у магазінах той жа самай фірмы, але ў межах горада. Так што, трапіўшы ў гэта «царства спажыўца», амерыканец, які валодае дастатковымі сродкамі, можа адразу купіць сабе ўсё або амаль усё неабходнае для жыцця. Колькі ж у яго пойдзе грошай і што тут, як кажуць, пачым?

Калі паспрабаваць узважыць спажывецкую карзіну амерыканца, то атрымаецца прыкладна такі малюнак.

**ЗША**
**СЯРЭДНІЯ РОЗНІЧНЫЯ ЦЭНЫ Ў ДОЛАРАХ І РУБЛЯХ**
**(1 долар — 58,4 капейкі па афіцыйнаму курсу і больш за 30 руб. па курсу чорнага рынку)**

| | долары | рублі |
|---|---|---|
| Ялавічына, кг | 7,71 | 4,50 |
| Свініна, кг | 4,41 | 2,58 |
| Вяндліна з індзейкі, кг | 8,82 | 5,16 |
| Курыныя ножкі, кг | 2,86 | 1,67 |
| Яйцы, дзесятак | 0,96 | 0,56 |
| Малако, літр | 0,53 | 0,31 |
| Масла сметанковае, кг | 5,00 | 2,92 |
| Цукар | 1,32 | 0,77 |
| Батон белага хлеба, 680 г | 1,30 | 0,76 |
| Яблыкі, кг | 1,40 | 0,82 |
| Калготкі, пара | 0,90 | 0,53 |
| Дзіцячае паліто дэмісезоннае | 60,00 | 35,04 |
| Жаночыя дэмісезонныя боцікі, пара | 100,00 | 58,40 |
| Мужчынскія чаравікі | 50,00 | 29,20 |
| Жаночае дэмісезоннае паліто | 150,00 | 87,60 |
| Мужчынскае дэмісезоннае паліто | 160,00 | 93,60 |
| Мужчынскі касцюм шарсцяны | 250,00 | 146,00 |
| Халадзільнік тыпу «Мінск» | 600,00 | 350,40 |
| Пральная машына «Мэйтэг» | 419,77 | 245,15 |
| Каляровы тэлевізар «Соні», 70 см | 700,00 | 408,80 |
| Відэамагнітафон аднасістэмны | 200,00 | 116,80 |
| Мікрахвалевая печ | 150,00 | 87,60 |
| Аўтамабіль з рухавіком класа «Жыгулі» з аўтаматыкай, гідраўлікай і кандыцыянерам | 10.000,00 | 5.840,00 |

Сярэдняя зарплата амерыканца — 1.900 доларaў у месяц або 1.100 рублёў (за вылікам падаткаў і камунальных паслуг 1.250 або 730 рублёў).

Вядома, ўсе прыведзеныя мной лічбы — толькі сярэдні паказчык. Напрыклад, у магазіне «Бэндэл», што адкрыты нядаўна ў Нью-Йорку на Пятай авеню, заколка для валасоў можа каштаваць 50 доларaў, 200 — жаночы капялюшык з саломкі. У той жа час у маленькіх крамках на рускамоўнай Орчардстрыт тыя ж жаночыя боцікі можна купіць і за дзесятку.

Неад'емным феноменам амерыканскага цэнаўтварэння застаюцца распрадажы, якія ідуць няспыннай чарадой у розных магазінах. Канчатковая цана паліто коштам у 225 долароў можа скласці на іх у канцы сезона 60 доларaў. Боты вядомай італьянскай фірмы, з перакрэсленым цэннікам «90» вам прапануюць за 10 доларaў. Гэта датычыцца і харчовых тавараў.

Як жа павінен быць забяспечаны чалавек, каб дазволіць сабе ўсё вышэйпералічанае? Паводле самых апошніх звестак, сярэдні амерыканец, заняты не ў сельскай гаспадарцы, зарабляе 10 доларaў 20 цэнтаў у гадзіну, даход сям'і з двума працуючымі і двума дзецьмі дасягае ў год 51.421 долар. Пасля выплаты 6.357 доларaў федэральнага падатку і 3.934 доларaў за страхоўку, у распараджэнні сям'і застаецца крыху больш як 41 тысяча.

Але гэта яшчэ не канчатковая сума. Амерыканцы — аўтамабільная нацыя, кошт жа бака бензіну складае каля 20 доларaў. Ды і самі машыны не вельмі танныя — «Нісан», які адпавядае па тутэйшых мерках нашаму «Запарожцу» можа каштаваць каля 9 тысяч, немалую суму складае і страхоўка, ездзіць без якой забаронена. Машыну тут стараюцца мяняць кожны год, так што можна смела скінуць яшчэ 11 тысяч.

Калі падзяліць 30.000, што засталіся, на дванаццаць, атрымаецца, што сямейны даход будзе на ўзроўні 2,5 тысячы. А даводзіцца ж яшчэ плаціць за жыллё, навучанне дзяцей, калі яны вучацца ў прыватных школах, камунальныя паслугі. Ды і падатак на спажывецкія тавары, які дзейнічае ў многіх штатах, дастаткова вялікі. Напрыклад, у Нью-Йорку ён складае 8 працэнтаў ад кошту купленага.

Вядома, гаворка ішла аб сярэдніх даходах сярэдніх амерыканцаў. Але зрабіць зберажэнні ім не так проста, асабліва прапападарожнічаўшы ў выхадныя дні па шматлікіх і маленькіх залах шматпавярховага і шматгектарнага «спажывецкага раю».

Нью-Йорк. **Д. КЛІМЕНТАЎ.**

# Ні кашалька, ні жыцця...

### Па нашы грошы прыйшлі ўжо, але ў рынак нас не ўзялі

Тое, што народ харчуецца вельмі танна і сядзіць на шыі ў дзяржавы,— мы чулі. З самых высокіх трыбун пераконвалі. Але вось няўдача — на прыведзеным намі прыкладзе некалькіх «імперыялістычных акул» бачна: гэта, мякка кажучы, не зусім так. А больш дакладна — зусім не так.

Вядома, афіцыйны курс рубля прыгодны больш для анекдотаў, чым для сур'ёзных разлікаў. Куды больш зразумела, калі цана выражана ў затрачанай працы. Скажам, за кілаграм ялавічыны амерыканец «уколвае» 40 мінут, француз — 1 гадзіну 23 мінуты, наш працаўнік — больш як 3 гадзіны. Але за сусветным абедзенным сталом мы яшчэ неяк глядзімся. А вось за яго межамі... Напрыклад, за аўтамабіль амерыканцу неабходна пастарацца 5 месяцаў, нашаму брату — 33 (калі нічога не есці і ўмудрыцца ўзяць па дзяржцане). Яшчэ лепшы малюнак з відэамагнітафонам і камп'ютэрам.

Не на нашу карысць і параўнанні з тубыльцамі далёкіх і блізкіх зямель. Магчыма, выцягнуць на свет божы выратавальны 1913-ы? Такім чынам...

**СТАРШЫ РЭДАКТАР САНКТ-ПЕЦЯРБУРГСКАГА ТЭЛЕГРАФНАГА агенцтва, яго калега з ТАСС і спажывецкая карзінка пры чыстым месячным заробку 467* і адпаведна 421 руб.**

| Прадукт | цэны жніўня 1914 г. (у руб. кап.) | цэны красавіка 1991 г. | працавалі, у 1914 г. на пакупку (мінут) | працавалі, у 1991 г. на пакупку (мінут) |
|---|---|---|---|---|
| Хлеб чорны (буханка) | 0,06 | 0,80 | 1 | 20 |
| хлеб белы (бат. 0,4 кг) | 0,05 | 0,56 | 1 | 14 |
| ялавічына (кг) | 0,54 | 7.00 | 8 | 177 |
| свініна | 0,56 | 5.30 | 7 | 134 |
| сыр | 0,98 | 6.40 | 14 | 162 |
| масла | 1.17 | 8.80 | 17 | 223 |
| яйцы (дзесятак) | 0,30 | 2.60 | 4 | 66 |
| малако (л) | 0,06 | 0,50 | 1 | 13 |
| чай (125 г.) | 1.37 | 2.27 | 20 | 57 |
| мыла (100 г) | 0,03 | 0,20 | 0,5 | 5 |
| парналь (м) | 0,15 | 4.07 | 2 | 103 |
| інш. бав. тканіны | 0,21 | 4.20 | 3 | 106 |
| муж. абутак | 12.00 | 122.75 | 174 | 3106 |
| карцяны касцюм (пара) | 40.000 | 500.00 | 581 | 12652 |

пры 5-гадзінным рабочым дні.

Таму, хто ўявіў, быццам наша агенцтва было тады прывілеяваным, магу прапанаваць самастойныя практыкаванні з аплатай працы ведаючых і ўмелых, скажам, з заробкам машыніста «авечкі» 1913 года—140, малодшага клерка ў банку — 150, настаўніка гімназіі — 230 рублёў, кваліфікаванага рабочага маскоўскай Прохараўскай мануфактуры — 158 рублёў у месяц...

Але ўсё гэта было пры рынку. Ці не да яго прыспешвае наша рэформа цэн? Па-першае, калі рэформа, то трэба меркаваць, штосьці абавязкова больш таннае. Што ж? Я пераварушыў усе цэннікі—нічога. І ўсё ж тое-сёе ўцанілі— і яшчэ як! Гэта нашу з вамі працу.



Давайце прыкінем. Сярэднестатыстычная савецкая сям'я з чатырох чалавек з двума працуючымі траціла год назад на харчаванне, паводле падлікаў вучоных мужоў, 33,33 працэнта сваіх даходаў. Нагадаем, сярэдні заробак быў 240 рублёў у месяц. Значыць, на ежу ішло 159 рублёў 98 капеек. Тэарэтычна мог паднатужыцца і адзін гаспадар сям'і.

А цяпер невялікая задачка. Урад усеміласціва даў гэтай сям'і кампенсацыю — 60 рублёў на дарослага і па 61 рублю 66 капеек на дзіця — з разліку, што аднаму з іх, напрыклад, 13, а другому 11 гадоў. У выніку 243-32. Знаёмства з новымі цэннікамі паказала: кошык з прадуктамі «пацяжэў» на 290 з гакам. А той, што з неядомымі таварамі,— дзесьці на 203 рэ. На колькі ж вас абабралі ў агульнай складанасці, дарагі чытач? Далі 243-32, узялі 493. Правільна, амаль на 250 рублёў у месяц. Прыплюсуйце сюды ўпалавіненыя ўклады і чацвертаваныя зберажэнні «ў панчосе». І карціна будзе поўнай? Не спяшайцеся: за межамі нашай увагі дагаворныя і свабодныя цэны. Іх мы пакуль не чапаем.

Але ўжо цяпер бачна: нават без паходаў на базар і ў кааператыўны магазін штодзённае меню мінулагодняга ўзору забярэ ў вас ужо не 33,33, а ўсе 62 працэнты сямейнага бюджэту. Супастаўце з 20 працэнтамі Санкт-Пецярбургскага тэлеграфнага (без працуючай жонкі). А гэта ж велічыня — адна з найважнейшых для ўзроўню жыцця. 62 — гэта ўжо, прабачце, апошняя шарэнга найбяднейшых нацый, якія развіваюцца.

Дарэчы, стаць на шлях развіцця не сорамна, толькі б сапраўды развівацца. Можна пацярпець і больш жудасную дарагоўлю, калі за ёй і на самай справе перспектыва лепшага жыцця. Толькі не праглядвае пакуль гэта перспектыва. Рынкам не пахне. Рэформа ж з разраду сацыялістычных. Лішні доказ таму — яшчэ адно збліжэнне ўмельца і няўмекі ля касавага акенца. Не, гэта не прарыў у будучыню — прыпаркі безнадзейна хвораму. Колькі друкарскай фарбы патрачана на ачарненне польскай шокавай тэрапіі, а сярэдні нестатыстычны паляк нясе сёння дамоў 120 долараў у месяц пры поўнай адпаведнасці афіцыйнага і чорнарыначнага курсу злотага. У нас — тут якраз дарэчы курс чорнага рынку — сярэдняя зарплата да 2 красавіка складала 10 долараў. Не пацяжэе яна ў амерыканскай валюце і з кампенсацыямі. У маі, як чакаюць, за адзін долар будуць прасіць 40—50 рэ.

Памножце на гэтыя суадносіны любую з нашых самых смелых цэн — у доларах яна будзе смешнай. Што гэта азначае? А тое, што вытворцы гоняць і будуць гнаць за кардон усё, што выграбуць. За дзесятак яец гаспадары курэй лепш аддадуць перавагу 50 цэнтам, чым 2 рублям з 60 капейкамі. Цяпер вам зразумела, дзе прадукцыя нашых нясушак? І сілавыя прыёмы супраць іх бяссільныя. Што рабіць? Узняць цану яшчэ вышэй?

**У. САПРОНАЎ** (ТАСС).

### Каханне і рынак

# «Малады чалавек без шкодных звычак...»

Рынак імкліва ўваходзіць у наша жыццё і дыктуе свае ўмовы. Тыя, хто ўжо прыстасаваўся да іх, разумеюць, каб тавар карыстаўся попытам, яго трэба добра разрэкламаваць. Можа, першымі прыстасаваліся да рыначных адносін людзі, якія жадаюць стварыць сям'ю?

Адзін мой знаёмы напісаў пятнаццаць пісем і разаслаў іх па адрасах, якія знайшоў у газеце «Двое». «А раптам пашанцуе?»,—падумаў мой знаёмы, апускаючы пятнаццаць пісем у паштовую скрынку. І, сапраўды, праз паўмесяца пачалі прыходзіць адказы. Мой знаёмы сустракаўся з усімі, хто адгукнуўся на яго пісьмо. Аднак пасля кожнай новай сустрэчы ён станавіўся ўсё больш сумным. Неяк прыйшоў да мяне дамоў добра выпіўшы, і палячы цыгарэту за цыгарэтай, пачаў скардзіцца на лёс. Аказваецца, пры сустрэчы са «стройнай брунеткай» узнікла непрадбачаная перашкода. Знаёмы і не падумаў, што ёю акажацца растаўсцелая перафарбаваная жанчына ў красоўках. Калі ён завёў размову аб музыцы з той, якая, мяркуючы па аб'яве, вельмі ёй захаплялася, аказалася, што меламанка, акрамя Пугачовай, Кабзона і Лявонцьева, больш нікога з выканаўцаў не ведае. Тая, што напісала пра сябе «інтэлектуалка», належала да катэгорыі людзей, для якіх Сара Бернар і сен-бернар — адно і тое ж.

— Ні адна з дзяўчат, з якімі я пазнаёміўся, не адпавядалі таму вобразу, што стварылі, апісваючы сябе,—абураўся мой знаёмы.— Я і раней сумняваўся ў магчымасці знайсці блізкага чалавека па перапісцы, а цяпер і зусім не веру ў гэта.



Я слухаў свайго сябра і ледзь стрымліваў смех. Бо, адказваючы на пісьмы прэтэндэнтак, мой знаёмы сціпла напісаў пра сябе: «малады чалавек без шкодных звычак...»

**Вадзім ДОБКІН.**

Пішу не дзеля сенсацыі. Пішу не пра адзінкавы факт. Пішу пра з'яву, у існаванне якой і верыць самому не хочацца. Ды толькі вось роспаведзь... Чужая, выпадковая. Ад чалавека, які не ведае мяне. Ад чалавека ў дарозе.

*Прызнанне крайняга*

# «МОРДАБІЦЦЁ...» ПА-НАМПАЛІТАЎСКУ?



Са старшым лейтэнантам нас яднаў службовы абавязак: і ён, і я — начальнікі патрулёў. Толькі з розных зусім гарнізонаў. Сустрэліся на чыгуначным вакзале беларускай сталіцы. Ён — старшы лейтэнант з чорнымі пятліцамі, аўтамабільнымі эмблемамі на кіцелі — стомлена апусціўся на тапчан. Слова за слова — дзе хто служыў, дзе хто хацеў бы служыць...

Мой субяседнік скончыў Новасібірскае вышэйшае ваенна-палітычнае агульнавайсковае вучылішча. Сярод чорнарабочых афіцэрскага корпуса ўстанова з прэстыжных. І ваенныя дысцыпліны там — на ўзроўні. І камісарскія традыцыі — таксама... І героі розных эпох Савецкай улады — таксама ёсць сярод выпускнікоў Новасібірскага вучылішча. Асабіста мне даводзілася сустракаць нямала «новасібірцаў». У Туркестане — нампаліта роты сувязі, а пасля сакратара партыйнага бюро батальёна Сяргея Мацвеева. Інтэлігент. Цудоўна ведае літаратуру. Імкнецца ў людзях разабрацца. На кубінскай зямлі, сярод савецкіх слухачоў ваеннай акадэміі — Мікалая Стральчука. За плячыма — Афганістан, два раненні, кантузія. За службу ў разведроце — ордэны Чырвонага Сцяга і Чырвонай Зоркі.

Прозвішча выпадковага знаёмца я не ведаю. Пра гэта і не пытаўся. Ведаю толькі, дзе зараз служыць. І як пасля Каўказа, Поўначы рады роднай Беларусі. Рады настолькі, што нават спакойна гаворыць пра жахліва далёкую і амаль неверагодную перспектыву атрымання кватэры.

— У часці на чарзе — сорак афіцэраў і прапаршчыкаў. Даюць жа па дзве кватэры ў год. Служыць жа мне засталося дванаццаць гадоў да пенсіі. Вось і палічы, калі я атрымаю доўгачаканую кватэру, калі ў чарзе прозвішча мае пазначана лічбай «сорак»...

Моўчкі (сам без кватэры) успрыняўшы гэты боль, я ўважліва слухаў далей. А побач са мною былі курсанты. Таксама будучыя афіцэры-палітработнікі. Толькі што мы размаўлялі з імі аб праблеме асноўных напрамкаў у навучальным працэсе нашай Мінскай вышэйшай ваенна-палітычнай агульнавайсковай навучальні. Пра тое, што ўсур'ёз зараз турбуюцца пра веды ў галінах педагогікі, псіхалогіі, сацыялогіі. Пра тое, каб больш трывала звязаць гэтыя навукі з практычнай работай у войску.

Дарожны ж субяседнік вучыў па-свойму:

— Тое, чаму вучаць у вучылішчы, ніколі не спатрэбіцца ў войску. Хіба што ў вучэбных падраздзяленнях... А так... вось у нас на Поўначы...

І пацякла з вуснаў нампаліта споведзь пра «спецыфіку» палітыка-выхаваўчай работы ў колішняй роднай яму вайсковай часці на Поўначы (відаць, Уральская, цяпер Прыволжска-Уральская, а мо Сібірская ці Ленінградская вайсковыя акругі). Што датычыць нацыянальнай характарыстыкі, то аказваецца, служаць там адны «чурбаны» (няхай прабачаць мне за слова гэтае ўзбекі, таджыкі, казахі, туркмены). А за «чурбанамі» ж яшчэ — каракалпакі, уйгуры, бураты, калмыкі, якуты, ненцы, эвенкі... Але гэта ўжо з ліку складанасцей нацыянальна-дэмаграфічнай палітыкі.

Білі там усіх. Нерваў не хопіць для нармальных зносін з імі, не хопіць таму, што ў адказ літаральна на ўсё: «Мая твая не панімай...» У мяне і зараз сляды пазаставаліся — тры пальцы перабітыя, старшы лейтэнант працягвае ў якасці аргументаў свае рукі. Прыгожыя танюткія пальцы. І сапраўды, здаецца, ад удару па чыёйсьці пераносіцы такія перабіць няцяжка. Падумалася мне яшчэ і пра тое, што магчыма зусім у недалёкім мінулым гэты зусім яшчэ малады хлопец (відаць, гадоў дваццаць пяць) займаўся музыкай.

...— Заходзіць аднаго разу начальнік палітаддзела ў казарму. А салдаты з канцылярыі «чурку» па падлозе цягнуць — увесь у крыві. Добра мы з ротным прыкладіся. Ну, думаю, усё... «залёт...» Палкоўнік пытаецца: «За што?» Кажу хуценька, што, маўляў, дняваліць адмаўляецца, у туалеце не хоча прыбіраць. Начальнік палітаддзела і сам прыклаўся. І наш спалох як рукой зняло. ...А ён жа, начальнік палітаддзела, — палкоўнік, шмат гадоў назад таксама вучыўся ў Новасібірскім... Тыя ж лекцыі, відаць, што і мы, слухаў. Ведае, як з «дзедаўшчынай», іншымі заганамі змагацца...

Калі хто не паверыў гэтай гісторыі, то раскажу сваю, з якой сутыкнуўся яшчэ на пачатку афіцэрскай службы. Служыў у друкарні салдацкай шматтыражкі сяржант. Сур'ёзны, жанаты хлопец. Удмурт. За плячыма — універсітэт. Жонка напісала, што хворае дзіця (малеча, толькі што нарадзілася). Не вытрымаў сяржант. Збег у горад. Выпіў шклянку віна ці куфаль піва. Вярнуўся. Угледзелі, пасадзілі на гаўптвахту. Адтуль, з гарнізоннай гаўптвахты, патэлефанавалі аператыўнаму дзяжурнаму ў дывізію. Як і павінна быць — даклад начальніку палітаддзела. Расхваляваўся той: друкарня ж у непасрэдным яго падпарадкаванні. Прылятае на гаўптвахту. У камеру — да сяржанта. І па сківіцы... Кулаком, зразумела. Начальнік палітаддзела — спартыўнага крою, майстар спорту па боксу. Удар, зразумела, і быў адпаведны. Добра, што сяржант той вытрымаў. Што тут дадаць... Хіба, як пасляслоўе да гэтай гісторыі, скажу, што сяржант той, якога і з друкарні выштурхнулі і ў радавыя разжалавалі, вяркуўся са службы дадому. Зараз ён — член Саюза пісьменнікаў СССР, аўтар трох кніжак. Напісаў аповесць пра армію. Пра што гэты твор? На жаль, не ведаю, не чытаў. Ды і піша той былы сяржант па-ўдмурцку, аповесць жа пакуль не перакладзена на рускую мову. А знаёмы начальнік палітаддзела — баксёр — стаў даўно ўжо палкоўнікам. І пасаду мае адпаведную — у адным з вайсковых вучылішчаў узначальвае таксама палітычны аддзел. Выхоўвае, адным словам...

А субяседнік наш усё даводзіў свае жахліва-жыццёва-практычныя ўрокі. Выснова адна — без мордабіцця нікуды. І слова не дапаможа, і выхаванне прыкладам, узорам — гэтаксама. А што і хто яшчэ нам прапануюць?... Так, я далёкі ад думкі, што старшы лейтэнант быў у вучылішчы выдатнікам вучобы, першым курсантам у сэнсе грамадска-палітычнай актыўнасці. Але дзе і ў чым гарантыя, што і лепшыя выпускнікі не стануць на просты шлях выхавальніцкай работы з дапамогай кулака? Тым больш, як у той «паўночнай» брыгадзе, там, дзе б'юць усе. І начальнік палітычнага аддзела, і камандзір брыгады... («Я тады яшчэ ў брыгадзе навічком быў. Толькі прыехаў з Каўказа»). Пазіраю неяк з канцылярыі ў акно і вачам сваім не веру... Камандзір брыгады вагой з цэнтнер скача на снежнай гурбе, што ля сцежкі-дарожкі. І што б гэта такое значыла? Не разабраўся, пакуль не ўгледзеў руку, нагу, што тырчалі са снегу — б'е, заганяе ў тую гурбу, аказваецца, салдата...»

Хіба ж не натуралізм вышэйшага гатунку? Зараз прычыны можна прыводзіць усялякія, як і высновы рабіць усялякія — можна таксама. Мне ж, як вайскоўцу, які лічыць, што «мордабіццё» — усё ж з'ява не суцэльная і не тыповая для ўсяго войска, закарцела спытаць у нампаліта, куды глядзелі-пазіралі... І калі не непасрэдныя начальнікі (кулакамі змагаліся за дысцыпліну і начальнік палітычнага аддзела, і камандзір брыгады), то куды глядзелі-пазіралі (і ці назіралі ўвогуле за гэтым?) работнікі органаў ваеннай пракуратуры?

— Не заўважалі... Ды я і сам на няштатнай аснове супрацоўнічаў з пракуратурай,—пачуў адказ старшага лейтэнанта, які, відаць, выконваў даручэнне няштатнага дазнаўцы ваеннай пракуратуры.

Як правіла, абставіны ў той ці іншай часці ў органах пракуратуры ведаюць. Могуць не ведаць пра асобныя факты, а ў цэлым жа... Значыць, палічылі патрэбным не заўважаць. Патрэбным каму? Начальнікам, якіх адзін пералік жахаў мог бы прывесці да неспакою, залішніх турбот, не даў бы магчымасці заявіць: «У нас «дзедаўшчыны» няма...» Вядома, хіба ж збіванне афіцэрамі салдат можна назваць дзедаўшчынай? То ўжо іншая графа ў пераліку магчымых праяў пазастатутных адносін.

Мо баялася мясцовая пракуратура сапсаваць адносіны з мясцовымі палкоўнікамі-гаспадарамі? Ад мірнага ж суіснавання з імі залежыць у некаторай ступені і дабрабыт...

Так, Юрый Палякоў сказаў праўду. Аўтары фільма «Рабі — раз!» сказалі праўду. Праўда — і ў апавяданні маладога беларускага празаіка Алеся Дзмітрыева «Замок». Праўду расказаў мне і наш зямляк — намеснік камандзіра роты па ваенна-палітычнай рабоце (так цяпер завецца пасада палітычнага работніка ротнага звяна). Чую жахлівыя словы нематы, словы, што можа сказаць толькі сэрца, калі чытаюць гэтыя радкі маці. Чую словы бацькоўскага здзіўлення: «На суд... У турму...» І многія асуджаны, паніжаны пасадай, званнем... Толькі, відаць, не ў той вайсковай часці, дзе служыў знаёмы нам старшы лейтэнант.

І ўсё ж, асуджаючы ў прамым сэнсе, і толькі завочна, маральна, трэба дбаць, клапаціцца пра пачатак дарогі, пра аснову, пра выхавальніка. Пра таго заўтрашняга нампаліта, які і сам руку не падніме, і спыніць, прысароміць камандзіра, сяржанта. Які створыць у падраздзяленні атмасферу добразычлівасці, здолее спыніць любы канфлікт, а яшчэ лепш — папярэдзіць яго.

Як гэтага дамагчыся? Як зрабіць так, каб чалавек, надзелены ўладай загадваць, трымаў сябе дастойна, з годнасцю, ніколі не пераходзіў на крык, а тым больш не пачынаў падмацоўваць загад кулаком?

Культура, асэнсаванне сябе як разумнейшай і справядлівейшай з істот зямных, выхаванне стрыманасці, навучанне добразычлівасці і паразуменню з самымі рознымі і складанымі характарамі — вось ісціна, што будзе вечнай, вось тая панацэя, што спыніць, стрымаць павінна найперш.

...Калі мы размаўлялі са старшым лейтэнантам, побач сядзелі курсанты. Двое са шматтысячнага войска. Двое з кагорты будучых выхавальнікаў. І я веру, што «ўрок» нампаліта-аўтамабіліста яны зразумелі правільна, бо асуджальна-здзіўляючы позірк, што скіравалі хлопцы да маладога афіцэра, гаварыў сам за сябе.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## Фотаракурс





**Фота І. МАКАЛОВІЧА.**



# СТРАСЦІ ВАКОЛ САФІІ



**Як немагчыма ўявіць Маскву без Спаскай вежы, Кіеў без Залатых варот, Егіпет без пірамід, так немагчыма ўявіць Полацк без Сафійскага сабора. З XI стагоддзя ўзвышаюцца над гарадской забудовай ды над Заходняй Дзвіной яго беласнежныя сцены. «Сафія плыве над Дзвіною, нібы карабель...», — пісаў У. Караткевіч. Гэта ў яго «галубніцы» займалася перапісваннем кніг асветніца Ефрасіння, гэта яго званы згадваюцца ў «Слове аб палку Ігаравым», гэта ён малінавым звонам паклікаў Усяслава Чарадзея з далёкага Кіева з Вяліка-Княскага прастола назад на радзіму.**

Шмат перанёс сабор за стагоддзі, якія праляцелі над ім. Быў ён не толькі праваслаўным, але і уніяцкім храмам, не раз гарэў. Але найбольшая бяда спасцігла яго ў часы Паўночнай вайны. Летам 1715 года цар Пётр I раззлаваўся на манахаў-базыліян, якія знаходзіліся ў саборы. У выніку манахаў пасеклі шаблямі, а храм... ператварылі ў парахавы склад. У 1710 годзе, незадоўга да таго, як руская армія пакінула Полацк, у будынку сабора адбыўся моцны выбух. Ён амаль цалкам разбурыў Сафію. Толькі праз 28 гадоў уніяты пачалі адбудоўваць на гэтым месцы храм, той самы, які мы бачым зараз.

Нялёгкія выпрабаванні выпалі на лёс Сафійскага сабора і ў нашым стагоддзі. Спачатку з яго «изъяли» каштоўнасці (у тым ліку і сусветнавядомы твор старажытнага ювелірнага мастацтва — крыж Лазара Богшы). Пасля наогул зачынілі. Апошнія службы вяліся ў ім у гады Вялікай Айчыннай вайны. Пасля ж будынак, ператварыўшыся ў бяздоглядны, разбураўся, гінуў на вачах. Не вытрымаўшы такога відовішча, за яго выратаванне ўзялося Міністэрства культуры. Для таго, каб адрэстаўрыраваць Сафію, дзяржава выдзеліла не толькі вялікія грошы — больш як мільён рублёў, але і яшчэ паўтара кілаграма сусальнага золата. Рэстаўрацыя працягвалася ажно 15 гадоў. Пасля гэтай сапраўды тытанічнай працы будынак сабора быў ператвораны ў лепшую ў нашай рэспубліцы і адну з лепшых у краіне залаў камернай і арганнай музыкі. Праводзімыя ў ім канцэрты карысталіся вялікай папулярнасцю як у жыхароў горада, так і ў яго гасцей. Што датычыць выканаўцаў, то выступленне ў ім лічаць гонарам для сябе не толькі вядучыя калектывы і арганісты нашай краіны, а і замежныя майстры.

У дадатак да ўсяго гэтага Сафійскі сабор — цэнтр першага ў рэспубліцы гісторыка-археалагічнага запаведніка. У ім праводзіцца велізарная навукова-асветніцкая і культурная работа. На працягу года яго наведвае больш як 340 тысяч экскурсантаў.

У мінулым годзе наведвальнікам Сафійскага сабора давodзілася ўсё часцей і часцей сутыкацца з гуртамі веруючых, якія прыходзілі пад гэтыя старажытныя сцены з мэтай задаволіць свае культавыя патрэбнасці. Прадстаўнікі розных веравызнанняў разам са сваімі святарамі з'яўляліся тут з псальнымі спевамі, пропаведзямі і абавязкова з патрабаваннямі аддаць будынак для патрэб іх абшчыны. Аб сваіх правах на Сафію заяўлялі праваслаўныя, уніяты і нават католікі. Іншы раз прадстаўнікі ўсіх трох канфесій сустракаліся ля сцен былога храма. У такіх выпадках пачыналіся спрэчкі, абразы, пералікі ўзаемных гістарычных крыўд. Падлілі масла ў агонь і шэраг дзеячаў культуры, якія звярнуліся да Полацкага гарсавета з прапановай перадаць Сафію прыхаджанам. Але якім? Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, кандыдат гістарычных навук А. А. Трусаў прапаноўваў перадаць усім тром канфесіям, маўляў, няхай яны па чарзе праводзяць у ёй сваё набажэнства, няхай складаюць графік і ўсталююць чаргу... Прапанова вельмі цікавая, але шаноўны Алег Анатольевіч не падумаў, напэўна, ні аб тым, што «належаць усім» азначае «не належаць нікому» і што гэты варыянт славутага лозунга «належыць народу» прывядзе з часам да неабходнасці новай рэстаўрацыі будынка, ні аб тым, што такі варыянт можа прывесці да канфліктаў паміж прадстаўнікамі розных веравызнанняў і нават да боек, як гэта адбываецца ў апошні час, напрыклад, на Украіне. І так ужо дзіўна, што, дзякуй Богу, у час «падсценных» набажэнстваў далей спрэчак справа не пайшла. Больш за ўсё ў гэтай сітуацыі здзіўляе тое, што пра свае правы на Сафійскі сабор заявіла каталіцкая абшчына. Прычынай для гэтага паслужылі словы доктара гістарычных навук Г. В. Штыхава аб тым, што сабор вельмі невялікі час выкарыстоўваўся як касцёл. Праўда, сам Георгій Васільевіч у размове з аўтарам гэтага артыкула так і не ўспомніў, калі ж гэта было. На яго думку, такая падзея адбылася ці то ў гады Вялікай Айчыннай вайны (але ж вядома, што ў той час храм належаў праваслаўным), ці то ў 20-м годзе, ці то калі-небудзь раней. Ён здзіўляецца: «Я ж у сваім заключэнні заявіў, што найбольш правоў на Сафію ва уніятаў, бо менавіта яны вымуравалі сучасны будынак».

Больш падрабязна пра гэтыя патрабаванні расказаў старшыня Полацкага гарвыканкома К. Хоміч. Ён успамінаў: «У 1990 годзе каталіцкая канцэсія актывізавала сваю дзейнасць у Беларусі. У нашу рэспубліку накіравана з Польшчы больш як 50 ксяндзоў. У выніку гэтага на нашай зямлі з'явілася мноства новых каталіцкіх абшчын. Адна з такіх абшчын была ўтворана ў Полацку. Амаль адразу пасля рэгістрацыі яны прыйшлі ў гарвыканком з патрабаваннем перадаць ім Сафійскі сабор, прычым ні на што іншае згоды не было. Біскуп Тадэвуш Кандрусевіч спрабаваў даказаць, што сабор каталіцкі. Ён перадаў петыцыю з тым жа патрабаваннем, на якой стаяла больш за тысячу (!!!) подпісаў. Але даследаванне паказала, што католікаў у горадзе ўсяго каля сотні, а астатнія подпісы жыхароў Наваполацка і іншых месцаў. Я адказаў, што Сафія ім ніколі не належала, і што гэта пытанне без праваслаўных разглядаць нельга. Восенню ў маім кабінеце сабраліся кіраўнікі праваслаўнай, каталіцкай і уніяцкай абшчын. На гэтым сходзе была дасягнута дамоўленасць: у сувязі з тым, што на храм прэтэндуюць тры канфесіі, Сафійскі сабор так і застанецца канцэртнай залай, а пытанне з памяшканнямі будзе вырашана іншым шляхам. Праваслаўныя да апошняга часу карысталіся храмамі манастырскага комплексу. Але настаяцель патрабаваў аддаць гэтыя будынкі толькі на патрэбу манастыра і не праводзіць у іх ні вянчанняў, ні хрышчэнняў. У сувязі з гэтым узнікла неабходнасць адшукаць іншыя будынкі. Яны ёсць — гэта Багаяўленскі сабор і лютэранская царква. Першы плануецца перадаць праваслаўным, а другую — католікам. Але паколькі ў іх у нашы дні размешчаны адпаведна карцінная галерэя і краязнаўчы музей, то справа перадачы крыху адкладваецца. У музеях жа экспазіцыі — гэта не толькі праца людзей, але і велізарная колькасць культурных каштоўнасцей. Іх некуды трэба перанесці. Мы плануем стварыць музей у былым кадэцкім корпусе (зараз — шпіталь), у якім шмат пустых памяшканняў. Намеснікам Старшыні Саўміна Н. М. Мазай напісана хадайніцтва кіраўніцтву Беларускай ваеннай акругі. Такую ж паперу накіраваў і аблвыканком. Для таго, каб аднавіць корпус, у нас ёсць і сродкі, і сілы (свой філіял Віцебскай Белрэстаўрацыі). Зараз вырашаецца пытанне аб будаўніцтве новага шпіталя, а гэты будынак перададзены Міністэрству культуры.

Разглядаюцца зараз пытанні і аб перадачы праваслаўным зямлі для будаўніцтва новага храма ў горадзе і аб аднаўленні часткова ацалелых будынкаў бернардзінскага кляштара.

Епіскап Полацкі і Віцебскі Дзмітрый ахарактарызаваў гэта становішча крыху інакш. У горадзе зарэгістравана пяць абшчын, а службу весці няма дзе. Не аддаюць ні Сафійскі сабор, ні епархіяльнае ўпраўленне. У Багаяўленскім манастыры два храмы — Ефрасіньеўскі і Екацярынінскі, а ад царквы Іаана Багаслова засталіся адны руіны. І наогул да нядаўніх часоў у манастыры збіраліся зрабіць рабочы інтэрнат.

Успомніў ён і аб сустрэчы ў гарвыканкоме. Размова была доўгая і вельмі цікавая. Біскуп Тадэвуш Кандрусевіч заявіў, што ім патрэбна хоць якое памяшканне для правядзення службы. Гэта вельмі ўсхвалявала прысутных тут уніятаў. Яны накінуліся на яго: «Вы што, Тадэвуш, на Сафію не прэтэндуеце? Але ж мы дамаўляліся, мы ж адно цэлае, у нас жа папа рымскі». Мяне наогул здзівілі і іх паводзіны, і патрабаванні, бо уніяцкая абшчына з-за сваёй малой колькасці нават не зарэгістравана, а таму ніякіх юрыдычных правоў на Сафійскі сабор не мае. Мы ж звярталіся з просьбай аддаць нам Сафію і да абласнога кіраўніцтва. Атрымалі адказ ад старшыні Віцебскага абласнога Савета народных дэпутатаў У. В. Грыгор'ева. Сярод доказаў аб немэтазгоднасці перадачы Сафіі праваслаўным былі такія: «З перадачай сабора практычна скончыць сваё існаванне гісторыка-археалагічны запаведнік. Колькасць наведвальнікаў і экскурсантаў нязмерна большая, чым колькасць вернікаў. Царкоўная служба з выкарыстаннем запаленых свечак можа прывесці да знішчэння фрагментаў цудам захаванага унікальнага фрэскавага жывапісу канца XI стагоддзя».

Пракаменціравала ж усе гэтыя меркаванні намеснік дырэктара гісторыка-культурнага (бо ў апошні час ён пачаў звацца менавіта так) запаведніка Т. Друмантава:

— Мы, работнікі запаведніка, увесь час займалі нейтральную пазіцыю, бо ўся гэта барацьба за Сафійскі сабор мае не столькі рэлігійны, колькі палітычны характар. Калі ўзяць чыста гістарычны аспект, то найбольш правоў на сабор маюць праваслаўныя. Патрабаванні ж католікаў проста смехатворныя. Я асабіста займалася гэтым пытаннем і знайшла толькі адзін факт, які іграе ім на руку — Стэфан Баторый у свой час выдаў указ аб перадачы ўсіх праваслаўных храмаў католікам, але ж ці ўсе ўказы ў той час (як, дарэчы, і зараз) выконваліся?

Я ўпэўнена, што ні адна канфесія не зможа ўтрымліваць сабор у патрэбным стане. Згадзіцеся самі, сучасная культавая служба і роспіс XI стагоддзя—неспалучальныя. Прычым, я далёка не ўпэўнена, што пасля перадачы храма вернікам колькасць наведвальнікаў захаваецца. Канцэрты, праводзімыя ў саборы, ніякай абразы нанесці не могуць, бо ў час іх не выконваецца нічога лёгкага, некласічнага. Мы стараемся «трымаць марку» ў плане выхавання. Прапанова ж А. Трусава, на мой погляд, зроблена з жаданнем сутыкнуць прыхільнікаў розных канфесій. У такіх умовах яны абавязкова пераб'юцца. А якая можа быць барацьба, бойка, калі ты хрысціянін? Мы, супрацоўнікі запаведніка, вельмі ўзрадаваліся, калі ў нас аднавіўся епіскапат, але аказалася, што з ім прыйшла русіфікацыя. Усё стала на ўзроўні Масквы ды Загорска. Я наогул лічу, што закон аб перадачы культавых будынкаў людзі зразумелі надта прамалінейна, маўляў, усё аддавай вернікам! Закон жа прадугледжвае якіясьці кампрамісы, перагаворы. Мы ўвесь час кідаемся з адной крайнасці ў другую. У тым жа Полацку вернікаў не так і шмат. 5 праваслаўных абшчын — гэта гучыць. Але ж у большасці гэтых абшчын па 20 чалавек і не больш (гэтай колькасці дастаткова, каб зарэгістраваць новую грамадскую арганізацыю, у тым ліку і абшчыну. Нават у абшчыне пры Сафійскім саборы толькі 42 чалавекі. З іх двое «служачых», некалькі «навучэнак», (не зразумела, можа школьніцы, можа ў тэхнікуме ці ПТВ вучацца), а большасць — пенсіянеркі. Дык навошта ж для 100—120 чалавек пяць храмаў у горадзе? У горадзе павінны быць 1-2 царквы абавязкова. І вельмі добра б было, каб вернікі пабудавалі новую. А месца ў горадзе для гэтага ёсць.

**Мікола БАГАДЗЯЖ.**

*Нашы рэцэнзіі*



# Адраджэнне мінулага

Бацькаўшчына... Прыгожае слова, шматвобразнае. Кожны з нас знаходзіць у ім свой уласны сэнс і падтэкст; хтосьці сягае ў думках у недалёкія гады, хтосьці вяртаецца ў сівыя стагоддзі, калі толькі зараджалася беларуская народнасць, а хтосьці адчувае за ім непаўторныя народныя паданні і легенды, гісторыі і апавяданні пра крывавыя бітвы ды паўстанні, якія засталіся нам у спадчыну аб светлай памяці нашых гордых і вольналюбівых продкаў...

«Бацькаўшчына» — менавіта так названы новы штогоднік гістарычнай літаратуры, першая кніга якога выйшла ў 1990 годзе ў выдавецтве «Юнацтва» (складальнік С. Панізнік). Творы, што склалі яе, ужо вядомыя шырокаму колу чытачоў, — гэта «На шляху з варагаў у грэкі», «У імя дзяцей», «Падуанскі універсітэт» Я. Дылы, «Сівая легенда» і «Ладдзя роспачы» Ул. Караткевіча, «Урокі Скарыны» В. Шматава. Усе яны яднаюцца тым, што сюжэты іх непасрэдна звязаны з далёкай мінуўшчынай Беларусі, з тымі часамі, калі на кон ставілася пытанне не толькі аб існаванні нацыі, але ўвогуле ўсяго жывога ў нашай старонцы...

Бясспрэчна, яны і адрозніваюцца, бо ў кожнага з аўтараў быў свой падыход да мінулага, да людзей, кожны з іх па-свойму ўяўляў «залаты век беларускага Сярэднявечча», болей таго, не заўсёды можна было і напісаць гэтак як хацелася (асабліва Я. Дылу, ды і Ул. Караткевічу таксама).

Персанажы Я. Дылы вельмі лёгка, без натугі і цяжкіх перажыванняў, пераадольваюць жыццёвыя перашкоды. Нават смерць блізкіх людзей не можа выбіць іх з каляіны, яна засмучае, але ненадоўга. Героі ўвесь час у дарозе і асноўныя падзеі, за выключэннем аповесці «У імя дзяцей», развіваюцца на чужой тэрыторыі, за сотні і тысячы кіламетраў ад родных мясцін, можа таму адчуваецца нейкая ненатуральная лёгкасць у адносінах да іншаземцаў, да гандлярскай справы. Па-іншаму можна сказаць коратка: «Атрымліваецца, нібы ў казцы». Злая бітва за старадаўні горад Случаск і тая вельмі нагадвае вуснапаэтычную апрацоўку. Вядома, зыходзячы з гэтага «павярхоўнага» адлюстравання гісторыі, вельмі лёгка абвінаваціць аўтара ў недасканаласці ці няпраўдзівым апісанні таго, што было даўнымдаўно. Можна. Толькі ўлічым два асабліва значныя аспекты, якія аказалі важкі ўплыў на творчасць Я. Дылы: ён быў адным з першых, хто спрабаваў распрацаваць гістарычную тэматыку ў беларускай літаратуры, а гэта заўсёды цяжка, і, тое, што мы ўжо згадвалі — цяжкі ўласны лёс і тыя трагічныя акалічнасці, якія не дазвалялі пісаць так, як думаў.

Іх абодвух (Дылу і Караткевіча) называюць рамантыкамі. Сапраўды гэта так, але розніца ў тым, што Я. Дыла — рамантык, у якога гістарычныя падзеі не ўздзейнічаюць на псіхалогію герояў, яны нібы адасоблены, а Ул. Караткевіч — рамантык, які ўсё засноўвае на пэўным гістарычным факце, вакол якога паступова, крок за крокам, «здзяйсняе» ўчынкі сваіх персанажаў. У чым яны падобны? Напэўна, перш за ўсё, у любові да Беларусі і ў жыццесцвярджальнасці сваіх герояў, у тым, што яны (і аўтары, і героі), нягледзячы ні на што, ніколі не гублялі веры ў жыццё. Няхай сабе гэта было апошняе перадсмяротнае імгненне, калі трэба было развітвацца з жыццём, яны яго віталі, ці пакутлівае існаванне сярод ворагаў, сярод тых, хто прынёс шмат гора Беларусі і яе народу.

Два творы Ул. Караткевіча ўдала падабраны складальнікам. Яны дапаўняюць адзін аднаго, а дакладней, мабыць, будзе — з двух галоўных персанажаў гэтых аповесцей — Рамана Ракутовіча і Гервасія Вылівахі арганічна «сплятаецца» вобраз нашага далёкага продка, які ўмеў ваяваць і пастаяць за сябе і ўмеў весела адпачыць: магутны, смелы, адчайны, разумны — з аднаго боку і «хобаль, залётнік, піяка, задзіра, біток, баб-здыр несамавіты» — з другога. Такі чалавек аднолькава смела трымаўся і перад ворагам у крывавай бітве, і перад каралевай Бонай з роду Сфорцаў, і перад самой Смерцю. Ён смелы і адчайны таму, што ведае, дзеля чаго жыве, дзеля чаго змагаецца, таму нават у Смерці узнікла дзіўнае пытанне: «— Выліваха, дзе сэнс тваіх учынкаў?» Адказ знойдзем у іншым месцы аповесці: «— Наўрад ці сустрэча апошняга майго нашчадка і яе (Смерці — **А. Н.**) адбудзецца скора...» Выліваха лічыў уласным не толькі сваё жыццё, але і жыцці сваіх сяброў, нашчадкаў, дзеля якіх ён і яго паплечнікі ніколі не падалі духам. Вось чаму словы песні:

Любяць нас неба, віно і кабеты.
Сонцам чырвоным, сонцам прарочым
Люд наш упарта ўстае над светам
Нават пасля найцямнейшай ночы,
гучаць як гімн самаму галоўнаму на зямлі — Жыццю...

У зборнік уключаны і артыкул В. Шматава «Урокі Скарыны», дзе даследчык паказвае ўплыў, які аказвалі пражскія і віленскія выданні вялікага беларускага першадрукара Францыска Скарыны на ягоных паслядоўнікаў: Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, на кнігадрукаванне беларускіх брацтваў, на творы, якія выходзілі ў тыя часы на Украіне і ў Расіі. Тут упершыню, шляхам карпатлівага параўнання, вызначаецца сапраўдная роля Ф. Скарыны ў традыцыях усходнеславянскага кнігадрукавання.

Штогоднік таксама добра ілюстраваны і афармлены, а своеасаблівыя ўступ і заключэнне С. Панізніка, якія грунтуюцца на шматлікіх прыкладах з твораў беларускіх паэтаў, аздабляюць яго ў прыгожы паэтычны вянок. Таму нам толькі застаецца чакаць, што ў хуткім часе на кніжных паліцах зноў з'явіцца «Бацькаўшчына» ўжо за 1991 год.

**Аляксей НЕНАДАВЕЦ,**
**кандыдат філалагічных навук.**

---



Ніна ЗАГАРЭЎСКАЯ

## ПАЭЗІІ

Заблукала ты нячутна ў мой пакой
І знайшла сабе, знямоглая прытулак.
Не падумала: мо не прытуліць...
І адхланне паплыло ракой.

Не спяшалася пра ўсё тлумачыць,
Не казала яркіх многа слоў,
Я адчула рэўнасць і любоў,
Я старалася сябе прадбачыць.

Ты мне снілася. І бачыла цябе
Сіняю валошкаю ў палёх.
То была ты шэраю, як мох,
І спявала нешта у журбе.

Ты мяне будзіла, не давала спаць,
Сэрца напаўняла горам-сумам,
Не хапала месца бедным думам —
Іх прыйшлося з болем нараджаць.

Твой прыход, заручыны твае...
Без цябе ўжо болей не магу.
Не пакінь, малю, маю тугу,
Памажы пранесці ў свет яе...

## МІНУЛАСЦЬ

Болем сэрца глухім адгукнецца.
У напружанні струны душы,
Думак цэлая плойма кішыць.
Заўтра мілае дзіка смяецца.

Даўніна адгукаецца рэхам,
Мяккі снег растае ў руках,
У пакоі ялінавы пах.
Лёгкі трэск ад лускання арэхаў.

Дыму чад, смольны корч ў стаяку.
Песня сумная слёзнай завеі.
Дровы ціха, таемна датлеюць,
Памагчы б дагарэць вугальку.

Дотык вуснаў і словы маўчання,
Далягляд — ружа дзіўнага дня.
Я — сляпое, дурное ягня.
Горыч часу і слодыч кахання.

Кругагляд. Першы іспыт. Дарога.
Мары-мары. Юначы адчай.
Міг чароўны, чакай, не ўцякай.
І надзея на вечнага Бога.

Адплыло, уцякло, адышло...
Не настане, не ўбачу, не ўчую,
Не сустрэну і больш не адчую.
Ні цябе, слоў тваіх, ні цяпло...

***

Лятае, цемнатвары, па пакоі сон.
У цішыні дрыготкім змрочным ценем.
Не дасць спакою яго ціхі стогн,
Пакуль не аддасі сябе яго хаценням.

***

Імгліцца снежань. Ён не першы
ўжо коле мне здранцвелы твар.
Праз сэрца межы рвуцца вершы.
ад запусцелых дум і мар.

***

Ён падаў—і плакалі дрэвы,
зрываючы ўбранне з галля.
Вятрыска крычаў ашалела,
вар'ят вар'янятаў люляў.
Стамлёны, успомніў нябёсы,
пайшоў па пуціне Хрыста.
Ад слёз набрынялі пакосы,
на ростані вораг паўстаў.
Знямоглы, ён лёг у даліне,
дзе месяц святло рассыпаў.
Чырвонымі сталі каліны...
Вар'ят вар'янятаў люляў.

***

Адзіны шлях і зоры ў небе цёмным,
Цудоўныя пачуцці, дзіўны страх.
Ты помніш там, на мосце пераходным,
Патух агмень у мройлівых вачах.
Не запаліць святло, якое ўжо не свеціць,
Не будаваць на камені свой дах.
Юначы змрок. Няхай ён думы песціць
І прывіды прыносіць па начах.

***

Дзе б ты ні быў
і каго б ні любіў
(Жанну ці Іну),
сніў бы, як сын,
цёплыя сны:
маці сваю
і Радзіму.
Кім бы ні стаў,
каб адно памятаў:
што ты пакінуў?
Дом, сенажаць,
песню і жаль
маці свае
і Радзімы.
Што б ні было —
цемра, святло
там, на чужыне,
хлеб, а ці верш —
дзякуй найперш
маці сваёй
і Радзіме.

***

Не прыходзь да мяне аніколі,
ці то радасць са мной, ці бяда.
Мой каханы, цябе мне да болю шкада.
Сам сябе не трымай у няволі:
як мне вынесці гэтакі боль?
Горды будзь — станавіся паволі сабой!

***

Змоўкла ліра.
Яе гукі разляцеліся ў розныя бакі і зніклі.
Загойдаўся Сусвет.
Адны падумалі: свету канец.
Другія: пачатак.



**У горадзе маім.** **Фота БЕЛТА.**

А трэція — засталіся такімі ж, як і былі.
І ў той час, калі дзякуючы аднаму музыку
ліра зноў зайграла,
першыя — з палёгкай уздыхнулі,
другія — выразілі на тварах незадаволенасць,
а трэція — так і засталіся
такімі ж, як і былі.

***

Ты заплакаў...
Дрэвы ганялі вецер. Ён галасіў з дзікім крыкам, просячы літасці і спакою.
Сонца збірала хмары і ліло слёзы разам з імі.
Дзень уступіў месца ночы і замест месяца
на небе з'явілася бледная пляма.
Усё крычала і стагнала.
Я не ведала, куды дзецца, дзе знайсці цябе,
каб ахінуць, прыкрыць ад гэтых жахаў.
Мне было невядома, што слёзы твае
могуць перавярнуць свет!


Юры ГУМЯНЮК

## ПРАЦЯТЫЯ НАСКРОЗЬ

Нас няма... Ці мы ёсць?
Мы працяты наскрозь.
мы блукаем у вежах шкляных.

Перакручаны сэнс
з перарэзаных вен
не трапляе ў рачныя віры.

Раз і два. 2 на 2.
Не баліць галава,
бо няма галавы на плячах.

Ёсць абшар, як ангар.
Або брыдкі кашмар,
нібы плямы на хворых вачах.

Ці наступіць працяг,
калі спаліцца сцяг,
калі рухне фігура з гары?

А пакуль што мы ёсць,
хоць працяты наскрозь,
хоць блукаем у вежах шкляных.

## САМ САБЕ

Можна быць падобным на
Адама
і спазнаць усе спакусы
самастойна,
а на захадзе жыцця памерці
ў храме
нечакана, ціха і спакойна.
Можна быць падобным
да сабакі
і брахаць на хрысціянства, калі
кажуць.
Павіншуюць дзікім выем
ваўкалакі,
прыйдзе час — і зробішся,
як сажа.
Можна быць зусім
і не падобным
да сучаснікаў, нашчадкаў
і да продкаў.
Мо таму, што лепей быць
галодным,
адчуваць сябе выключным
самародкам.

## СОН ВАМПІРА

Сэрца калоціцца.
Сон пад магнітам.
Подых — не вецер.
Сякера — не крыж.
Сёння сябе адчуваеш забітым,
кроку не зробіш,
але прамаўчыш.
Пафарбаваны, нібыта цыстэрна.
Гарызантальны, як хуткі
цягнік.
Той, што ляціць ад Варшавы да
Берна
і вырывае сярэбраны клык.
Сёння халодны, як твар
Антарктыды,
і небяспечны сярод дываноў.
Спі ў саркафагу сваёй піраміды,
ноччу прачнешся, шукаючы
кроў.

## СПАТКАННЕ

Гэты сад, гэты дом,
новы дзень...
І віхор нерэальны насустрач
у твар...
Дзесьці там неабсяжны пажар.
і жанчыны бягуць паміж дрэў.
Хтосьці ў небе хвілёва згарэў,
нарадзіў недарэчны цень.
у міфічнай Дзяржаве Знічоў.
Ты знайшоў
ззелянелы пацір
і спаліў непатрэбны мундзір,
і распранутым хлопцам
пайшоў,
каб спаткаць
гэты сад, гэты дом, новы
дзень...
І віхор нерэальны насустрач
у твар...

## РУЖАВОКІ ДРАКОН

Ружавокі дракон мяне вабіць.
Мае ён аксамітную скуру.
Я яго прытулю, як кабету.
Гэта будзе сапраўднае шчасце.
Ружавокі дракон стане добрым
І схавае драпежныя зубы.
Ён адчуе нястомнае сэрца,
войдзе ў транс, як індыйскія
ёгі.

Ружавокі дракон адыходзіць,
дзе нічога няма. Толькі мары
ў галаве, нібы піва ў куфэрку,
робяць шэра-зялёную пену.

Ружавокі дракон, мой маленькі,
спі салодка да лепшай гадзіны,
спі, пакуль твой адбітак ссівелы
люстраное захоўвае цела.

## СМЕХ БЛАКІТНЫХ ГНОМАЎ

Чырвоны смех блакітных
гномаў
І белавокая зіма...
Няма нічога. Так, няма
табе ні абавязкаў, ні законаў.
Навошта гэта арганаўтам?
Мы праплывём праз сонмы
дзён,
сустрэўшы гвалт або палон.
Мы адмаўляем шыхт стагоддзяў,
згрызаем зморшчаны арэх,
ледзь-ледзь працуем у смуродзе.
Нам рэжа вушы брыдкі смех,
чырвоны смех блакітных
гномаў.

## ЛЕАПАРДАВАЯ СКУРА

Пад дзявочымі нагамі
леапардавая скура.
Ды сама дзяўчына, быццам
востразубая пантэра.
Я валодаю не толькі
паэтычнымі радкамі,
у якіх падман звычайны —
костка цукру ў кубку кавы.

Апельсінавая стужка на
грудзях у той дзяўчыны
прымушае спакусіцца
пакаранага паэта.
Вось камедыя дэль-артэ па-за
межамі Парыжа!
Вось табе хвіліна шчасця
ў незачыненай кватэры!

Абуджэнне затрымала
экзатычную забаву.
Лепей зараз, чым ніколі,
ад маны абараніцца.
Дзе пачатак ачмурэння?
Толькі мне ды ёй вядома,
бо абодвух прытуліла
леапардавая скура.


Валерый ПАЗНЯКЕВІЧ

**Я разаб'юся шклом**
**на шчасце і радасць людзям...**
**Я — весяльчак, я — гном,**
**мне топчуць нагамі грудзі.**
**Я — чалавечы лёс.**
**Я — кропля яго сумлення.**
**Я — жменя разбітых слёз..**
**І ў гэтым маё вяселле.**

***

**Нас прымушалі маўчаць**
**здраднікі мовы і веры.**
**Нам не давалі мяча.**
**З нас вырывалі нервы.**
**Нас прымушалі забыць**
**нашай гісторыі даты.**
**Мы — гэта толькі рабы**
**ў падначаленні катаў.**
**Сонца калоссем надзей**
**стогн і пакуты залечыць.**
**Вечны Ўсяслаў-чарадзей**
**выправіць мужныя плечы...**
**Толькі сіротчай слязой**
**насып магіл не сагрэеш.**
**О, несуцешны мой боль,**
**што ж ты сягоння нямееш?**

***

**Па-над рэчкаю туман**
**ўецца белай ружай.**
**Шэпча ёй на вуха зман,**
**апранае ў кужаль.**
**Баіць ёй да золку сны,**
**песціць хваляў косы..**
**У кахання —**
**шэпт вясны.**
**У расстання —**
**слёзы.**

***

**Шмат хацеў табе сказаць —**
**ды не сказаў.**

**Нас цягнік гудком трывожным**
**разлучыў.**
**Праляцеў састаў,**
**пакінуўшы вакзал,**
**і расстаннем нашы сэрцы**
**заручыў.**
**Дагарае ноч агеньчыкамі зор**
**і маўкліва пазірае на мяне.**
**А ў паветры развітальны**
**цемры звон**
**апаўзае белай поўняй па сцяне.**

***

**На разваленым замчышчы**
**парасла крапіва.**
**Дрэвы ценем акрэслілі**
**воблік даўніх часоў.**
**Беспрытульная спадчына...**
**Ды чыя тут віна?**
**Толькі гушкаюць дрэвы**
**цішыню галасоў.**
**Засмучоная сажалка**
**з серабрыстай вадой**
**вокам страчанай вечнасці**
**пазірае мне ў твар.**
**Цягне стоеным вобразам**
**мне насустрач далонь.**
**Запрашае прыветліва**
**ў палон даўніх мар.**

***

**Цесных вуліц калідоры**
**нас вядуць у безвыходнасць.**
**Ног людскіх гудуць маторы —**
**збіць пярэдняга гатова**
**наша брацтва, наша роўнасць.**
**Святлафор міргае вокам:**
**на крывавы знак спыніся!**
**А натоўп гудзе навокал —**
**давярае спрыту, зроку...**
**Не міргай, махляр, заткніся!**

***

**Сымону Блатуну,**
**паэту**

**Боскі выраз твару**
**Лашчыць фотаздымак...**
**А ля сэрца — мара**
**Туманом застыла.**
**У санлівым небе**
**Не хапае волі...**
**Уратуйце долю!**

***

**Халодны нож месяца**
**кроіць на часткі неба.**
**Выразае незразумелыя**
**выкрайкі,**
**ставіць кропкі.**
**Запальвае сузор'і...**
**Прачнешся раніцай —**
**і адразу ўсё разумееш:**
**месяц усю ноч кроіў світанак.**

АПАВЯДАННЕ

# САМАВАР

знаёмых, але тыя не прыйшлі; праз тое жонка была прыкметна пакрыўджаная.

Ён упершыню, уласна, зразумеў сваю бездапаможнасць. Раней і ўявіць не змог бы, што так бывае, няхай і з такімі... Ціха стаяў на крэсле і быў страшэнна вымучаны. Увесь ягоны выгляд, усё цяперашняе становішча былі чымсьці недарэчным, несапраўдным, быццам бы тое, што адбывалася зараз з ім, было не іншым, як толькі сном. Непраўдзівым сном. Так горка здавалася яму: ён сустракае гасцей, вітаецца з кожным за руку, гаворыць жанчынам нешта дасціпнае, смешнае, з мужчынамі заводзіць адразу цікавую размову і ходзіць паміж імі па-гаспадарску, паважна, стрымана...

Ён адчужана ўсхапіў ацяжараныя ад думак павекі — і сэрца забілася здушана і жаласліва. Усё зусім не так! І сон той — самая звычайная, бязлітасная ява! Людзі прыходзяць, вітаюцца, і бачна, як ім няёмка, як яны дзеля прыліку толькі звяртаюцца да яго, бо ён палохае іх, моцных, здаровых, і яны рупна адбягаюць ад яго, разглядаюць амаль пустыя яшчэ сцены, даўнія фотаздымкі, кнігі, люстру, чакаючы, каб пачалося, каб хутчэй адбыць павіннасць...

«Як я іх ненавіджу!..» — непадуладна зашыпела ў яго вушах, ён з узбуджанай раздражнёнай злосцю ўтарошчыўся ў шырокія мужчынскія спіны, у тоўстыя каркі, у патыліцы.

Вечар цягнуўся ўвачавідкі марудліва і нудна. Госці выпівалі, закусвалі, нядружна і нецікава размаўлялі, і было ясна, што ў кожнага з іх на душы стаілася асцярожная цярплівасць, нават абыякавасць да гэтага стала, сабранага шчодрай рукой гаспадароў, да саміх гаспадароў, да іхніх намаганняў, асабліва Лізы, каб ім было добра, утульна, весела. І найбольш непрыемнае было тое, што яны, напэўна, і не хацелі разняволіцца...

«Хамы, паршыўцы адныя, — думаў ён, азлоблена зыркаючы на іх. — Напляваць, што іх шэсць чалавек ажно — усіх к чорту і пашлю... І за людзей не палічу! І на якога хрэна мне такое свята? Чужыя — яны і ёсць чужыя».

— Ліза, — паклікаў ён. — Ліза...

Жонка падышла. Крыху ўжо знясіленая, але адкрыта ўсміхалася, прыгнулася да яго, і ў той жа момант ён пачуў, як ад яе густа пахла віном. Ён разгублена загледзеўся на яе, на яе прыемна расчырванелую ад цёплай крыві шчаку; на яго нечакана патыхнула тым нешчасліва-адзінокім днём, калі ён ляжаў у шпіталі і абдумваў сваё становішча, і ўсё перад вачыма было чорным і безвыходным, а потым прыехала яна, з ягонымі бацькамі, каб забраць да сябе ў інтэрнатаўскі пакойчык. І плакала несуцешна, палахлівая, сарамлівая. «О, Божа, яны ж скажуць, што я яе душу!.. Заядаю яе... Скажуць! Што яна, маладая, прыго... А ён такі слімак, гад, баязлівец, прыбраў да рук... — Ён здранцвела замёр, да болю сцяў сківіцы.— Здохнуць застаецца!»

Яшчэ пасля некалькіх чарак завялі музыку, паплыў нетаропкі, мякка-зманлівы танец, прытушылі люстру, пакінуўшы толькі настольную лямпу з туманна-сінім абажурам. Пачалі танцаваць. Ліза таксама знікла. Неўзабаве яна з'явілася ў пары з высокім шатэнам. Здаецца, Міша чакаў гэтай хвіліны, чакаў, нават не падазраючы, што ўвесь час сёння думкі ягоныя якраз аб тым. Па сутнасці, якое ўсё дробязнае ў нешчаслівым жыцці, негалоўнае, акрамя сваёй нікчэмнасці, усведамлення сваёй непатрэбнасці.

Ён быццам упершыню адчуў, які ўдар наносіць яму лёс. Нібы сам сябе прымусіў адкрыць вочы на свет і ўбачыць праўду. Божа, а ён жа так хацеў прымірыцца, аслепнуць перад тым, што ёсць! Дурненькі, як ён плакаў ад шчасця, што Ліза забірае яго са шпіталя, што ён будзе яшчэ жыць і жыць... А цяпер? Навошта чалавеку жыццё, калі і чалавека таго няма? Яго знервавана ўстрэсвала, яму здавалася, што яшчэ крыху — і ўвесь той боль, фізічны, душэўны, які набраўся ў ім і душыць, мучае бязлітасна, раптам схлыне з яго, затопіць, і ён памрэ. Міша напружана застыў. «Чаму, чаму мне паміраць?», — хацелася закрычаць на поўныя, здыханыя грудзі ў залу, да гэтых людзей, з надзеяй, аднак бестурботна доўжылася тая музыка, тое свята... Смяротны сум працяў кожны ягоны нерв.

— А нам сюрпрыз!.. — пачуўся голас Лізы. — З кім я танцавала — мой начальнік, і ён зараз прынясе падарунак. На рабоце скаліся... Ох, крыху не па сабе — дарыць сам будзе.

«Калі памру, яна доўга не паплача», — чамусьці непрыязна падумалася яму.

Мужчына ўвайшоў нячутна, усміхаючыся зморана і разам з тым ганарліва, і нёс перад сабой клунак, закручаны ў паперу. Усе дружна сабраліся вакол прыбранага Лізай месца на стале, незнарок засланілі ад Мішы падарунак, і толькі праз кароткі міг іхнія захопленыя ўздыхі і воклічы засведчылі, што там нешта прыстойнае чалавечай радасці. Гэта быў бліскучы і сапраўды мілы самавар... Ліза падхапіла яго за ручкі і пад агульную шумлівую ўхвалу патрэсла над галавой. Ёй запляскалі. Ураз узбудзіўся вясёлы настрой. Але ўжо спяшаліся — пачалі развітвацца, і незаўважна ў пакоі застаўся адзін Міша...

У вушах звінела нязвычная цішыня. Галасоў не было чуваць, Ліза пайшла праводзіць гасцей. Апусцеў стол, крэслы. Усе як выветрыліся, і ўжо наўрад ці вернуцца яшчэ хоць раз. Вядома ж, не. І дарэмна ён крыўдаваў на іх. Што яны значаць у ягоным жыцці? З'явіліся — і адразу зніклі. Так і ён нічога не значыць для іх. Як усё проста і, выходзіць, узаемазвязана ў гэтым свеце. І ніякага абсурду. Звычайна і проста.

«Як думаць не хочацца, Божа! — прастагнаў ён. — Я ж ненавіджу цяпер сябе! Каму верыць?.. У што верыць яшчэ?»

Увайшла Ліза. Ап'янела крывячыся, прысела перад ім, прыткнула галаву да яго і маўчала, прыгадваючы, мабыць, падзеі вечара. Потым рэзка і рашуча ўсхапілася, узяла на рукі і панесла яго ў спальню.

— Не... Пастой, Ліза! — спалохана, настойліва завалтузіўся ён, адчуваючы спінаю яе круглыя, вялікія і яшчэ такія пругкія грудзі. — Хачу на балкон. Не магу — кружыцца ўсё...

Яна разгубілася і ад гэтага тону, і ад такой просьбы прыкметна завагалася, растрывожаная, але зрабіла без лішніх слоў, што ён прасіў: вынесла яго на балкон і пасадзіла на крэсла.

Ён нерухома глядзеў у ноч. Горад глыбока спаў, і толькі сям-там былі запаленыя агеньчыкі ў вокнах. Навяваў вецер, мяккі і свежы. Неба было цёмнае, разлегла-неабсяжнае, на ім яркімі кроплямі мігцелі зоркі. Стаяла чуйная, далёкая цішыня, не парушаная нічым. Яму вольна дыхалася, спакойна было на душы; ён наогул нібы забыўся на ўсе цяжкасці і беды свайго існавання, і ці не ўпершыню за доўгія вымучаныя месяцы не адчуў калецтва свайго цела. Усё ў ім дыхала асалодай і прыгажосцю свету, які даверліва, таямніча і ўладна, прыцягальна абкружаў яго. Якая моц, бясконцасць, неразгаданасць і якая нечаканая радасць! Колькі слоў, парыванняў хочацца кінуць туды! Як самога незразумела падштурхоўвае туды, дзе, можа, так шчасліва, лёгка, што ніколі няма неадчэпных думак аб праклятай смерці!..

«Божа, я здурэю!» — жахнуўся ён, заскрыпеў зубамі, але замест стогну слабавольна закрычаў:

— Ліза!..

«Што я?.. Не, не!.. Не трэба!» — супраціўляўся ён, але думка, адухоўленая чымсьці незвычайна зманлівым, агромністым, прыемным раптам скавала ўсю яго волю.

— Ты, як самавар, — узяўшы яго за падпашша і перасунуўшы бліжэй да парэнчаў — як і папрасіў ён— засмяялася Ліза. — Вы падобныя..

— Які самавар?

— А што нам падарылі...

Ён успыхнуў. Памкнуўся накрычаць што-небудзь злое, але яна ўжо выйшла. Толькі помсліва пагразіў: «Я — самавар... Здорава! Посуд!.. Бяры і цягай за вушы... Ну-ну, паглядзім, што ты без гэтага самавара зробіш...» Ён зварухнуўся з адчаем у мышцах, увесь заходзячыся ад ускіпелай нервовай дрыготкі, аж напружыўся на сваіх нагах-куксах, прыткнуўся грудзьмі да парэнчаў і раптам злякана адхіснуўся назад. Ад убачанае вышыні кроў прыліла яму ў скроні, ускружылася галава. Апамятаўшыся, аддыхаўшыся, ён зноў схіліўся і загледзеўся ўніз. Цёмна слалася трава, чарнелі кусты, з пад'езда выбівалася слабаватае святло... «Хочацца, чорт! — узрадавана — ад яснасці думкі — засвярбела ўнутры. — Хоць плюнь адразу на ўсё і... Не, страшна, баюся... Мне страшна?.. Гад я! А потым... Рашайся... Дзе лепей? Мо яшчэ і памаліцца... Ай, памалюся, не цяпер. Рана...» І ён не вытрымаў, на хвіліну страціў увагу, адчуванне страху, сквапна заглынуўшы на поўныя грудзі летняга зямнога паветра, у апошні раз зыркнуўшы на блізка навіслае неба, налёг на парэнчы, з шалёным жаданнем прыўзняўся і адпіхнуўся ад крэсла, укладаючы ў гэты скачок усе астатнія намаганні, сілу, волю...

## Гасцёўня



Газель — літаратурная форма ўсходняй лірычнай паэзіі, вядомая на працягу многіх стагоддзяў да Алішэра Наваі (1441—1501). Паэт быў прыхільнікам тасавуфа — аднаго з напрамкаў суфізму, найбольш распаўсюджанай містычнай плыні ісламу, якая ўзнікла ў XIII — IX стагоддзях.

Канечная мэта суфістаў — спасціжэнне абсалютнай ісціны шляхам самаадрачэння і паступовага духоўнага самаўдасканалення, у выніку чаго сутнасць чалавека павінна была зліцца з сутнасцю Бога. У адрозненне ад рэлігій (як ісламу, так і хрысціянства), якія за ўсе пакуты на зямлі абяцалі чалавеку вечны рай, гэтае вучэнне было бескарыслівае.

У цюркскіх мовах адсутнічае паняцце роду, і калі Наваі пісаў «любая», «адзіная», гэта адначасова азначала і «Любы», «Адзіны», а так звярталіся толькі да Бога, у асобе якога ўвасаблялася абсалютная ісціна. Пакуты кахання — гэта, зразумела, і выпрабаванні на шляху самаадрачэння і спасціжэння сутнасці Бога.

Карчма ва ўсходняй паэзіі — не толькі дом, у якім можна выпіць кубак віна і забыць свае беды, гэта — свет, а віно, якое прыносіць чалавеку радасць і забыццё,— любоў, і выраз «пі віно» азначаў «любі сваіх блізкіх» у імя справядлівасці і спасціжэння ісціны.

Такая сэнсавая шматслойнасць газелей Наваі і блізкіх яму па светапогляду паэтаў Бліжэйшага і Сярэдняга Усходу робіць іх унікальным па глыбіні думкі і ўсеабдымнасці ў паказе духоўнага жыцця чалавека жанрам сусветнай лірычнай паэзіі. Газелі Алішэра Наваі — не столькі любоўная, колькі духоўная паэзія.

### Алішэр НАВАІ

***

Спакой сыходзіць на людзей, я перапоўнены журбой:
Па той пакутую, што ў сне знайшла да раніцы спакой.
З нямога плачу вечароў і смеху ранку знаю я:
Яна заб'е мяне ўначы, але ажывіць раніцой.
Аднак для ранішніх сустрэч вячэрніх ростаняў няма.
А калі вечара няма, няма і дня ў расстанні з ёй.
І сну спакойнага ў мяне не будзе ні ўначы, і ўдзень,
Не адлюструецца яна ў люстэрку поўні маладой.
І ў водбліску кахання ты не ўбачыш атамаў святла.
А ў промнях, што струменіць твар, няма пяшчоты поўні той.
Не можаш ацаніць свой час, хоць хвілі ўцехі беражы
І не праводзь усё жыццё з ранейшай скрухай і бядой.
Таўро на целе, Наваі,— знак рабства вечнага твайго.
А ёсць адзнака пачуцця — каханне ў любай ёсць тваёй.

***

Катуй мяне, не прызнавай, ды ты ўсё роўна ўцеха мне,
І загубі ці ўваскрасі, мая душа больш не засне.
Хоць адыдзі ты ад мяне, хоць падыдзі на міг бліжэй,
Ты—любая ўсё роўна мне, няхай хоць век, хоць два міне.
Як мне пра стан сваёй душы — як пра каханне расказаць?
У Бога большых таямніц ніхто выпрошваць не пачне.
Хоць зрэдку ты ўсміхайся мне, за горкі ўздых не асуджай,
Бо толькі з-за цябе крадком заплача сэрца ці ўздыхне.
О разбуральніца надзей, хоць слова мне скажы адно,
І ўцеха хоць на міг адзін да сэрца ў госці зазірне.
Хоць ты, нібы шаленцу, мне зусім адмовіла, аднак
Сярод красунь адну цябе я выбраў, як у вешчым сне.
Табе адданы Наваі памрэ, ды ведай ты, што ён —
Сумленне з кволасцю сцябла, што першы лісцік расхіне.

***

Ідэя тасавуф прызначана таму,
Хто сутнасцю сваёй адданы аднаму.
Прыхільнасць да дабра і згоды — тасавуф.
Мы выбралі — яго, а ўрэшце... што каму.
Не, ён не аскетызм і не набожнасць ён,
Бо крывадушша іх — пярэчанне яму.
Дзе крывадушша ёсць — набожнасці няма.
Пакорлівасць — карысць і літасць усяму.
Учынкі, думкі... Ён не будзе высвятляць,
Чужому Богу адданы ты ці свайму.
А незалежны стаў ад волі ты сваёй,
Хіба спытае хто: «Разгублены чаму?»
Як сутнасць Бога зліў ты з сутнасцю сваёй,
Дык толькі тасавуф спрыяў жыццю твайму.

Прадмова і пераклад Яўгена МІКЛАШЭЎСКАГА.



Мікола ГІЛЕВІЧ

### ЖАРТ

З узнятай ганарліва галавой,
апрануты ў нязвычнае адзенне,
з паходкаю выразнай і прамой,
ён — прыгажун, ну проста заглядзенне.
Паглядвае з пагардай, як кароль,
і холадна вітаецца з сябрамі...
Ён спакушае ўвесь жаночы пол
магутным целам, сцягнутым рамнямі.
Ён дужы, спрытны, ды і джэнтльмен:
старога і малога не зачэпіць,
а п'яных дурняў, быццам палісмен,
правучыць нат не даўшы запярэчыць.
А ты, чытач, не думай наўздагад,
каго я апісаў з такой пашанай.
Скажу табе: яго імя — Магнат.
Сабака ён. І сябар мой адданы.

### ПОМСТА

Нашы вочы — пабітыя шыбы —
засланіў-пахаваў чорны крыж.
Нашым сэрцам сляпую пагібель
завяшчае магільная ціш.
І пакутных вачэй скрып хаўтурны
пад зласліваю Юды нагой
адгукнецца ім спевам бравурным,
а для нас — безгалосай слязой.
Распаўзаецца страшная воспа,
нішчыць сэрцы злавесны сіндром.
І як вынік — стаў знак Макракосму
нашых чыстых святыняў кляймом.
А мы церпім... Ды лёс наш пракляты
большыць сілу душэўных муроў.
З лютым ворагам к сечы зацятай
нас пакліча гарачая кроў.

***

Вось і пайшоў дзевятнаццаты год
майго жыцця...
З кілішкам віна,
якое імкнецца патрапіць у рот,
у маёй душы пачнецца вайна.
Ва мне даўно прыжыліся яны—
нахабны чорт ды забыты Бог.
І зараз счапіліся, як груганы,
на ростані складаных дарог.
І цераз скрыгат і енкі гітар
святкуе трыумф сатана:
«Цяпер — нарэшце! — я — цар-уладар,
а Бог памёр, памерла й мана...
Ды неяк раптам успомніцца Бог
нібыта зноў прачнецца вайна...
Ды ўжо не адпусціць чортавы рог...
Я вып'ю з гора келіх віна

***

Няўмольна час сцірае фарбы,
што некалі так ярка ззялі.
Душы мілованыя скарбы
даўно ўжо лёгкім пылам сталі
і недзе ў глыбіню запалі,
каб не будзіць успамінання...
Ды помніцца ўсё ж так трывала
адна слязінка развітання.

***

Такія розныя дзве рэчы,
бы Капернаум і Садом...
Трупярня і радзільны дом
заўсёды разам, недарэчы
сыходзяцца ў адной бальніцы,
дзе сведкі — шэрыя паліцы
прыроды запаведзі вечнай:
адны ідуць у небыццё,
а іншых — першы раз жыццё
спакусіць прывідам-далечай...
Забытая сваім гаспадаром
мая душа — маўклівая пустэча.
Усё, што мроілася, стацца вечным,
я знішчыў, смерці прагнучы агнём
Навобмац варушу шчэ не астылы тлен
з надзеяй адшукаць вугольчык скрухі...
Агню — не апячы нямыя рукі,
сляпым вачам — не ўзрэць кахання сцень...
Павольна, нібыта не хочучы,
знікае маўклівы і сумны снег...
А помніш,
які ён быў тады?
З ім разам смяяліся і мы...
Учора красуня-цырульніца
пастрыгла мяне
зусім коратка,
і смеццем ляжалі валасы,
якімі захаплялася ты...
Нядаўна зрабіў новыя запісы
на тую касету, што даваў табе...
Цяпер старых тых у мяне няма.
Няма больш у сэрцы цябе...
Няма?..
Не скора трэ будзе мне стрыгчыся.
Тым болей даўжэй чакаць новы снег...
Ды вельмі падобны новыя запісы
на тыя, што колісь слухала ты—
падобчы
сваімі пахавальнымі матывамі.





Алесь ПАЛЫНСКІ

***

Не дзялі мяне з Беларуссю,
я прашу цябе, не дзялі!
Не раўнуй, бо тады сарвуся
на зялёны дзірван зямлі.
Не дзялі мяне з гэтым людам,
я прашу цябе, не дзялі —
бо ў моры вялікім цудам
сустракаюцца караблі.
Не дзялі мяне з тым, штоісна—
з песняй, з вогнішчамі ў лясах,
з глыбінёй, што зараз і прысна
ў менестрэлевых галасах.
Не раўнуй і да гэтай мовы,
не сусветнай, але маёй...
Не банальнасць, не пошук змовы,
а пасведчанае крывёй...
І калі надыдзе спакуса
вылучэння ў каралі, —
не дзялі мяне з Беларуссю,
я прашу цябе, не дзялі.

***

Я дзякую Богу за ўсё, што ён даў,
Я дзякую Богу за яго непазбежнасць,
За тое, што з Боскай патрэбы ўзгадаў
З мінулых стагоддзяў сваю незалежнасць.
Я дзякую, дзякую Богу свайму,
Маўкліваму і неўміручаму Богу,
За тое, што Ён аб'явіў мне вайну,
За тое, што Ён мне прынёс перамогу.
Я дзякую шчыра і безліч разоў
Свайму непахіснаму, змрочнаму Богу
За веліч натхнення, за процьму часоў,
За тое, што ёсць да вяршыні дарога.

***

А. П.

...І жыць там так, як толькі варта жыць,
жыццю вучыцца у самой Прыроды...
Бруд чалавечы досыць варушыць,
Стаміўся я шукаць у багне броды...
Шчаслівы я, калі мае сябры
мне дзякуюць і ціснуць мне далоні...
О, Божа мой, мяне ты забяры
ад мітусьні, што так сціскае скроні...
Я выкінуў бы ў смецце ўсе масты
да славы, да багацця і да ўлады,
калі б мне гэта загадала ты...
І толькі Боскай я шукаў бы рады.
Нічога мне не трэба на зямлі,
І разам з тым патрэбна надта многа...
Хай ідалы сядзяць у сваім Крамлі —
Зямля, Вада і Неба прагнуць Бога...
...І стаў анёл. Без німба і прыкмет
Ён на зямлі, ён не шукае раю,
яму абрэзаць крылы мкнецца свет,
а Ён у чалавецка-воўчай зграі
Спявае! Барабаны кожны раз
б'юць, кабы спевы не дайшлі да вуха...
А Ён пяе! Спявае ў кожным з нас,
у цябе, ува мне... Спыніся, сябр, паслухай —
І снегапад сцяжынку не кране,
і безвыходнасць пазабудуць людзі,
калі дзяцей іх у цынкавай труне
ўнясуць у іх хату... Бо й труны ня будзе!
І стане бессмяротнасць на зямлі,
і жах згарыць у вогненнай завеі!
Хай я памру, як зерне на раллі,
сваёй любоўю шар зямны сагрэю!
Так, здолю я, да слёз, да крыві з воч,
усё, чым я жыў, у нябыт, у цемру збегла...
Так, сёння, можа быць, святая ноч —
а заўтра — дзень, як усе імгненні пекла...
Усход у агні. Мы змерзлі між ільдзін.
Да вогнішча спяшаемся пагрэцца...
Ніколі не пазбаўлюся хвілін,
калі мы ні грашылі супраць сэрца.
Маўчанне — золата, а слова — проста медзь,
упэўніўся і я ў гэтым хутка...
Спыніўся, каб да веку не згарэць
агнём кахання і паняццяў гнуткіх...
...І адгарнуўся ад мяне анёл —
каму ж яшчэ спатрэбіцца няўдзячны!..
І толькі цемру бачу я наўкол,
і не шукаю шлях. Яго не бачна.
Руку прыемна кліча пісталет...
І я рашыўся б... Але ў гэтым свеце
ёсць і другі, пакуль не бачны свет,
і выйсце ёсць. Яно не ў пісталеце!
А далей — проста. Маці ёсць, і ты,
бабуля... Вось і свет мой, вось надзея...
У смецці нашай цёмнай прастаты
шкада мне, хто таго не разумее.
Калі кахаю я — дык буду жыць,
дом пабудую, каб у ім сагрэцца...
Так, ты змагла мяне заваражыць,
змагла прымусіць сэрца разгарэцца —
І, значыць, я патрэбны на зямлі!
На гэтым можна і паставіць кропку...
Як баразну на вечнае раллі,
радок апошні я пішу таропка.
Калі памерлі — устанем з дамавін,
падставім твар пад вольныя павевы
Каханне не пакрыўдзіць часу млын,
калі памерлі — устанем з дамавін нашых,
каб зноў пачуць анёлаў спевы!



Вольга ВЕЧАР

## Другога верасня

**(З ДЗЁННІКА)**

Усё пачалося з таго, што пад час пераходу вуліцы ён узяў мяне за руку. Вуліца знаходзілася на ўскрайку горада. Уздоўж яе цягнуліся прыватныя катэджы, цяністыя палісаднікі, якія аддзяляла ад шашы і вузкага ходніка металічная сетка. Дзень быў гарачы. Нядзеля, другога верасня...

— Ты ўжо, мабыць, галодная? — На процілеглым баку вуліцы віднелася нейкая закусачная. — Пайшлі, давай руку!

На шашы — ні машыны, а на вуліцы — ніводнага чалавека.

Гарачыня... Мне часам здаецца, што гэты дзень, гэтае другога верасня, быў патрэбны толькі мне адной. А можа, і яму таксама? Рука яго была прыемна халаднаватая і нейкая надта ж надзейная — такой надзейнай мужчынскай рукой! І разам з тым яна не была нахабнай, хутчэй — нясмелай: лёгкі, амаль непрыкметны поціск.

Закусачная, вядома ж, аказалася зачыненай: нядзеля. Другога верасня. Ён сказаў, што гэта — дробязь. Можна паесці дома. Твар яго пры гэтым засвяціўся пяшчотнай усмешкай, якая ніяк не ўпісвалася ў рамкі нашых з ім чыста сяброўскіх, я сказала б, нават падкрэслена сяброўскіх адносін.

Жыў ён у самым цэнтры горада ў прахалоднай кватэры старой забудовы з высокай столлю і цяжкімі падвойнымі аконнымі рамамі. Пасля вулічнай спякоты прыемна было стаяць басаног на халоднай падлозе і піць ваду з вялізнай празрыстай шклянкі. Вада была вельмі смачная: з нейкім грушавым, здаецца, сіропам і кавалкамі коўзкага лёду.

Пра што мы гаварылі ўвесь гэты час, я ўжо амаль не памятаю — пра колеры машын, мне здаецца, музыку, варажбу. Але добра памятаю, што калі мне даводзілася кідаць пагляды ў яго бок — бачыла, ён усміхаўся мне дзіўнай усмешкай, той, што так збліжае людзей. І толькі. Ён, відаць, як і я, не хацеў псаваць добрага сяброўства.

Сяброўства, здаецца мне, патрабуе ад чалавека менш ладатных рысаў характару, чым каханне. Альбо яны павінны быць нейкімі іншымі... Так, напрыклад, сябру зусім неабавязкова падабацца знешне ці ўтойваць ад яго наяўнасць у цябе сяброў процілеглага полу — сяброўства не дапускае рэўнасці.

Сябра з яго быў добры. Цудоўны сябра — разумны, з пачуццём гумару. Сябраваць з ім было так лёгка і прыемна, што за нашыя доўгія — з раніцы да вечара — сустрэчы мы так і не маглі надакучыць адно аднаму. Мяне ён, ва ўсякім разе, не стамляў сваёй прысутнасцю. Больш таго, побач з ім я адчувала сябе надзіва спакойна. Ад яго дыхала надзейнасцю. Здавалася, што тут цябе зразумеюць, сагрэюць і падтрымаюць у цяжкую хвіліну! Уражанне гэтае, магчыма, было падманным і зусім не адпавядала рэчаіснасці, але гэта ўжо было неістотна. Важна, што яно было і стала для мяне сапраўднай пасткай!

Дагэтуль сяброўскія, без усялякіх абавязкаў адносіны цалкам задавальнялі абодвух. Ён, мне здавалася, нават і не дапускаў, што нашы адносіны могуць быць нейкімі іншымі. Да таго моманту, калі ўзяў мяне за руку... Не, мы не сапсавалі нашага добрага сяброўства.

Неўзабаве я з'ехала. І не таму, што мне гэтага так хацелася.

І вось — я зноў дома. Зусім адна. Вакол мяне гара кніжак: я ўжо прызвычаілася знаходзіць у іх адказы на самыя розныя пытанні. Ад асаблівасцей рускай філасофіі да праблем вырошчвання сабак. Але зараз мяне хвалюе іншае. Мне хочацца ведаць, што трэба рабіць, калі адчуваеш патрэбу ў тым, каб хто-небудзь працягнуў табе сваю моцную надзейную руку? І калі гэты «нехта» — зусім канкрэтны і безнадзейна далёкі. Пра гэта, на жаль, не напісана ў кнігах.

Літаратурны выпуск «Крыніцы» вядзе пісьменнік Алесь Масарэнка. Тэл. 32-65-46.

*Падзея*

# Цэнтр духоўнага адраджэння

**Мы ўсё часцей здзіўляемся: прыняты закон аб мовах, ніхто не выступае супраць нацыянальнага адраджэння і г. д. А родная мова па-ранейшаму знаходзіцца ў крытычным стане, беларускамоўныя выданні на датацыях, выкладчыкаў літаратуры, мовы і астатніх дысцыплін, якія б вяліся на беларускай, не хапае. Беларуская гісторыя, філасофія і філалогія наперад рухаюцца так марудна, што ўзнікае ўражанне поўнага застою. Але гэта не так. Справа крочыць. Праўда, не так хутка, як хацелася б, але ўсё ж...**

**У Гродзенскім універсітэце адкрыўся новы факультэт — беларускай філалогіі і культуры. З гэтай нагоды я і сустрэўся з прарэктарам Гродзенскага універсітэта, старшынёй абласнога фонду культуры Сяргеем Аляксандравічам ГАБРУСЕВІЧАМ.**

**— Сяргей Аляксандравіч, першае пытанне да вас, як да старшыні фонду культуры: якую ролю адыграў фонд у справе стварэння новага факультэта і якое ўвогуле месца займае ён у жыцці горада і вобласці?**

— Мне крыху няёмка вызначаць ролю фонду культуры, з'яўляючыся яго старшынёю. Лепш гэта рабіць збоку. Але ўсё ж, мне падаецца, я маю рэальнае права сцвярджаць, што ўклад наш у справу нацыянальнага адраджэння немалы. І гэта тычыцца не толькі факультэта беларускай філалогіі і культуры, які быў створаны і пры дапамозе нашых намаганняў. Я магу прывесці іншыя прыклады нашай актыўнасці. Гэта і садзейнічае стварэнню польскага культурна-асветніцкага таварыства імя Міцкевіча і татарска-яўрэйскага культурнага таварыства. Займаемся мы акрамя таго і рэстаўрацыйнай дзейнасцю. Карацей кажучы, робім шмат карыснага (па магчымасці).

**— Некалькі разоў у сваім адказе вы ўпамянулі нацыянальнае адраджэнне. Але тэрмін гэты такі размыты... У чым для вас увасобілася нацыянальнае адраджэнне і які ўклад уносіць у яго факультэт беларускай філалогіі і культуры?**

— І, на мой погляд, гаварыць аб адраджэнні трэба часцей. Для мяне адраджэнне пачынаецца з беларускамоўных садкоў і класаў. А далей — гэта і поўны пераход ВНУ на беларускае выкладанне. Бо ўсе нашы беларускія універсітэты не з'яўляюцца беларускімі па сваёй сутнасці. Стварэнне факультэта беларускай філалогіі і культуры неабходна, каб мець калектыў выкладчыкаў, навукоўцаў і студэнтаў аб'яднаных адзінствам поглядаў на шлях адраджэння як мовы, так і культуры. Гэта дапаможа Гродзенскаму універсітэту стаць сапраўды беларускім. На факультэце будуць рыхтавацца спецыялісты беларускай мовы і літаратуры, тыя, хто будзе вывучаць айчынную культуру — прадмет, які ўключаны ў праграму сярэдняй школы. А выкладаць сусветную культуру нельга, не ведаючы беларускай мовы і культуры.

У апошнія гады рабілася ўсё, каб беларус не жыў так, як жылі яго продкі, забыў сваю мову і культуру. Быў парушаны нацыянальны лад жыцця. Мы павінны зрабіць усё, каб вярнуць нацыі яе сэрца, яе душу, яе мову. І менавіта таму ў вобласці распрацавана і выконваецца праграма «Родная мова», рыхтуецца да выдання краязнаўчы альманах «Гродзеншчына», у падрыхтоўцы якога актыўны ўдзел бяруць выкладчыкі і студэнты новага факультэта. На сённяшні дзень ужо шмат людзей зразумелі, што без нацыянальнага культурнага адраджэння ў беларусаў як нацыі няма будучыні.

**— Давайце, Сяргей Аляксандравіч, у рэшце рэшт звернемся непасрэдна да новага факультэта. Што ён з сябе ўяўляе ў плане арганізацыйнай пабудовы?**

— Павінен шчыра прызнацца, што я, як старшыня абласнога фонду культуры, на факультэт беларускай філалогіі і культуры ўскладаю асаблівыя надзеі: гэта тая база, на якую мы зможам апірацца ў сваёй далейшай працы па адраджэнню нацыянальнай свядомасці. І ў будучым гэты факультэт бачыцца мне як навукова-метадычны цэнтр беларускай мовы і культуры, як цэнтр духоўнага нацыянальнага адраджэння на Гродзеншчыне. У гэтым сэнсе наш факультэт — вялікая сіла, нягледзячы на сваю малую колькасць — усяго 100 чалавек. А што датычыць складу новага факультэта — у яго ўваходзіць чатыры кафедры: кафедра беларускай мовы, беларускай літаратуры і беларускай культуры, кафедры агульнага мовазнаўства.

**— І кім будуць працаваць вашы студэнты пасля заканчэння універсітэта?**

— Гэта зразумела са зместу назваў факультэтаў — там рыхтуюцца выкладчыкі беларускай мовы, літаратуры і культуры. Сёння ў сярэдніх школах не так шмат выкладчыкаў, якія могуць і жадаюць весці заняткі па-беларуску. І неабходна, каб школы зацікаўлена паставіліся да выпускнікоў нашага факультэта. Па вялікаму рахунку я бачу нашых студэнтаў не толькі як людзей, што ведаюць беларускую гісторыю і культуру і здольны весці заняткі па-беларуску. Але і якія маюць навыкі практычнай навукова-культурнай дзейнасці. Што я маю на ўвазе? Нашы выпускнікі павінны праявіць сябе як шматгранныя творчыя асобы. А для гэтага ў студэнтаў павінны быць умовы для заняткаў дзейнасцю, да якой у іх яшчэ ляжыць сэрца, акрамя асноўнай сваёй спецыяльнасці. Гэта можа быць і захапленне мастацтвам — жывапісам або скульптурай, тэатрам, хорам, народнымі промысламі, рэстаўрацыяй.

Неабходна гэта для таго, каб выпускнік, прыйшоўшы працаваць у школу, мог не толькі на высокім узроўні выкладаць сваю дысцыпліну, але і стварыць нейкі гурток, ансамбль, клуб і г. д. І такім чынам прапагандаваць і ажыццяўляць ідэю нацыянальнага адраджэння.

**— Ці да культуры, калі ў страўніку пуста?**

— Тое, што мы маем сёння, утварылася з той простай нагоды, што былі парушаны асновы эканамічнага нацыянальнага жыцця. І сёння нам у першую чаргу неабходна пазбавіцца ад ярма таталітарызму. А ўсё ўпіраецца ў эканоміку. І немагчыма атрымаць свабоду і палітычную, і нацыянальную свядомасць пакуль мы звязаны эканамічна дзяржавай па руках і нагах. Неабходна прыватная маёмасць на сродкі вытворчасці. Але ж і на культуру нельга забывацца...

**— Гаворачы аб рухах нацыянальнага духоўнага адраджэння, афіцыйнымі ўладамі выкарыстоўваюцца выразы накшталт: нацыяналісты, шавіністы і г. д. Ці не аднясуць да нацыянал-шавіністаў і вашых студэнтаў?**

— І моцна памыляцца. Нацыянальная культура не мае нічога агульнага з шавінізмам. Наш факультэт закліканы адрадзіць любоў народа да сваёй зямлі, мовы, гісторыі і культуры. І мы выканаем свае абавязкі.

**Зміцер ЛУКАШУК.**

# Парк будзе жыць!

Гэты помнік прыроды гісторыі і культуры мала хто ведае ў нашай рэспубліцы. Знаходзіцца ён у вёсцы Жылічы, што на Кіраўшчыне. Характэрным для яго з'яўляецца тое, што тут нічога не ўпрыгожвалася чалавекам. Проста ў адно месца збіраліся розныя раслінныя групы з усяго свету. У парку «Жылічы» на 20 гектарах зямлі расце больш як 50 парод дрэў. Вы можаце ўбачыць тут калі не цуды, то настолькі прыгожыя куткі прыроды, што раўнадушнымі не застаняцеся.

Заснаваны парк у пачатку мінулага стагоддзя, якраз у той час, калі вядомы памешчык Ігнат Гаўрылавіч Булгак пачаў узводзіць свой палац па праекту вядомага архітэктара Падчашынскага, ураджэнца Гродзеншчыны. Палац і парк узводзіліся ў стылі класіцызму, таму яны маюць выразную і строга сіметрычную форму. Кіраваў вытворчымі работамі таленавіты архітэктар Клыбыкоўскі, выхаванец Пецярбургскай Акадэміі. Тое, што апякун школ Бабруйскага павета памешчык Булгак з'яўляўся прыхільнікам мастацтва, відаць па структуры і зместу афармлення палаца і парку. Акрамя таго, што палац — незвычайна прыгожае сіметрычнае збудаванне белага колеру, у ім яшчэ было шмат дэкаратыўных афармленняў, статуі з рымскай міфалогіі, карцінная галерэя, аранжарэя для развядзення кветак, працаваў прыдворны аркестр.

Прыгожыя алеі акружаюць парк з трох бакоў і пранізваюць яго нібы тыя моцныя жылы. Кожная з іх мае сваю адпаведную пароду дрэў: сасновая, яловая, ліпавая, каштанавая, грабавая, тапалёвая і іншыя. Гэтыя алеі, не кажучы пра сам парк, з'яўляюцца добрым маляўнічым месцам для адпачынку і прагулак. Тут і наша невялікая рачулка Добасна. Не толькі тры яе вадаёмы, але і астравы большага з іх афармлены па-рознаму, з вялікім густам. Перад фасадам палаца размешчана партэрная пляцоўка. Дзе вы яшчэ зможаце ўбачыць такое цудоўнае спалучэнне шэрага арэха, еўрапейскай лістоўніцы, вастралістага клёна Шведэра, еўрапейскай і амерыканскай ліп, пенсільванскага ясеня, веймутавай сасны і серабрыстага клёна, сабраных тут у адзіны карагод умелай рукой архітэктара. Другі партэр формы эліпса, размешчаны перад заходнім фасадам палаца, здзіўляе разнастайнасцю хваёвых парод дрэў. Са сцяжынак, праходзячых па ўскраінах палянак, паслядоўна адкрываюцца паркавыя малюнкі.

Не так даўно яшчэ мне здавалася, што парк стаміўся, пачаў станавіцца ўсё больш змораным і маўклівым. Але ў апошні час я пачаў адчуваць, што для мяне нешта тут змяняецца, напаўняецца нейкім новым сэнсам. Я доўга думаў і зразумеў: мы становімся іншымі, расце наша цікаўнасць да роднай гісторыі і культуры, пачынаюць мацнець нашы карані. А гэта значыць, што парк будзе жыць і яшчэ доўга дарыць радасць людзям.

**А. ГЕРАСІМАЎ,**
**студэнт факультэта журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна.**

*Рок-клуб*

# Памяці сябра



**У снежні мінулага года пасля доўгай страшнай хваробы памёр Алесь Жалдакоў, адзін з найбольш значных наваполацкіх музыкаў, — спявак, гітарыст, кампазітар. Яму было 29 гадоў. На фестывалі «Рока-кола-90» мы сядзелі побач за сталом журы, і ён упарта казаў, гледзячы на сцэну: «Гэта для мяне галоўнае ў жыцці, і я заўсёды буду гэтым займацца». Тады ён толькі што вярнуўся з Масквы, дзе шмат месяцаў адбыў у шпіталі і, здавалася, хвароба адступіла...**

**«Рока-кола-91» пройдзе 25-26 мая і будзе прысвечана памяці Аляксандра Жалдакова. У якасці гасцей запрошаны гурты «Магістр» (Віцебск), «Цячэнне» (Орша), «Мясцовы час» (Полацк). У Наваполацку 5 мая адбыўся канцэрт, мэтай якога быў збор сродкаў для фестывалю. Прымалі ўдзел мясцовыя каманды «Начны патруль», «Грамадзянскае насельніцтва», «Учора», «Аддзел кадраў».**

**Алесь ЛЕЙТМАН.**

г. Наваполацк.

**НА ЗДЫМКУ:** рэпетыцыя перад фестывалем.

Фота І. Супранёнка.

*Праблема*

# Трэба ратаваць пакаленне

**Г. ТАРНАЎСКІ, пракурор рэспублікі, народны дэпутат СССР**

ІМКЛІВАЕ падзенне маралі, бездухоўнасць, рэчавізм — вось асноўныя прычыны сацыяльнай паталогіі ў маладзёжным асяроддзі.

Аб сур'ёзнасці становішча можна меркаваць па даных аб росце злачыннасці. Калі ў 1986 годзе з агульнай колькасці выяўленых у рэспубліцы злачынцаў моладзь ва ўзросце з 14 па 29 гадоў складала 46 працэнтаў, то ў 1990 годзе паказчык узрос да 58 працэнтаў.

Трывожыць узмацненне агрэсіўнасці і жорсткасці сярод непаўналетніх. Летась яны ўдзельнічалі ў 7484 злачынствах. А гэта на 13,8 працэнта больш, чым у 1989 годзе. «На рахунку» падлеткаў у мінулым годзе 19 наўмысных забойстваў, 42 цяжкія цялесныя пашкоджанні, 133 разбойныя напады, 195 згвалтаванняў і каля 500 рабаванняў.

Крыміналізацыі асобы спрыяе сама эмацыянальная атмасфера, у якую пагружаны сучасны падлетак, малады чалавек. Так, шырокае распаўсюджванне ў рэспубліцы атрымаў незаконны відэапракат фільмаў замежнай вытворчасці. Гэтыя фільмы — а іх тысячы назваў — не закупляліся ва ўстаноўленым парадку для грамадскага пракату на тэрыторыі СССР, а завезены кантрабандным шляхам або ўзяты з прыватных калекцый. Яны нелегальна тыражуюцца і атрымліваюць усё большую аўдыторыю гледачоў. У многіх выпадках відэазалы розных ведамстваў карыстаюцца паслугамі «чорнага» рынку. Усё больш легалізуецца работа пунктаў пракату незакупленай заходняй відэапрадукцыі пры грамадскіх арганізацыях і прадпрыемствах бытавога абслугоўвання. Тут у спісах прапануемых відэапраграм фігуруюць нават такія парнафільмы, як «Кацярына», «Распуцін» і інш. Нядзіўна, што згвалтаванні адбываюцца часам прама ў відэасалонах, як, скажам, у Баранавічах у кастрычніку мінулага года. Між тым, па-ранейшаму работа відэасалонаў, па сутнасці, нікім не кантралюецца.

Шырокае распаўсюджанне ў апошнія гады атрымала розная парнаграфічная, псеўдамедыцынская літаратура, якая прыніжае чалавечую годнасць і наносіць урон маральным каштоўнасцям грамадства.

Праверка мінскіх кіёскаў ад кніжнага магазіна № 29 «Цэнтральны», ад кааператываў «Сталкер» і «Арыенцір», № 74 «Саюздрук», № 518 «Спортлато», магазіна «Падпісныя выданні» і іншых паказала, што ў продажы меўся даволі шырокі выбар псеўдамедыцынскіх, вульгарна-эратычных перыядычных выданняў, паштовак і літаратуры, аддрукаваных як у рэспубліканскіх друкарнях, так і за яе межамі, у прыватнасці, у прыбалтыйскіх рэспубліках.

Асабліва трывожыць тое, што галоўны глядач відэазалаў, дзе дэманструюцца парнаграфічныя і прапагандуючыя насілле фільмы,— дзеці і падлеткі. Падобныя відэапраграмы робяць больш жорсткімі награвы, калечаць няўстойлівую псіхіку непаўналетніх, прымушаюць іх да пераймання агрэсіўнасці відэаэкранных маньякаў і эратаманаў. Адсутнасць жыццёвага вопыту, дакладных маральных перакананняў становіцца прадпасылкай многіх правапарушэнняў. І думаецца, наспела неабходнасць прыняцця дадатковых норм, якія б рэгулявалі дзейнасць відэапракату, выдавецтваў, сродкаў масавай інфармацыі. Трэба, нарэшце, узмацніць адказнасць за распаўсюджванне відэафільмаў, літаратуры, іншых выданняў, якія прапагандуюць насілле, жорсткасць, парнаграфію.

Нядаўна Вярхоўны Савет СССР прыняў пастанову «Аб неадкладных мерах па спыненню прапаганды парнаграфіі, культу насілля і жорсткасці». Своечасовы і неабходны заканадаўчы акт. У сваю чаргу, з заканадаўчай ініцыятывай аб парадку выкарыстання відэапрадукцыі, упарадкавання дзейнасці відэазалаў, вырабу і распаўсюджвання друкаваных выданняў, якія наносяць шкоду грамадскаму парадку, маралі і здароўю грамадзян, пракуратура рэспублікі звярнулася ў Савет Міністраў БССР і Вярхоўны Савет БССР.

УВОГУЛЕ, перакананы, у раздзелах, якія датычаць маладога пакалення, заканадаўства наша патрабуе пэўнага ўдасканальвання.

Так, пракурорска-судовая практыка сведчыць: сямейныя нягоды адмоўна адбіваюцца на фарміраванні асобы непаўналетніх. Рызыка правапарушэнняў з боку падлеткаў, якія выхоўваюцца ў абстаноўцы пастаянных і вострых сямейных канфліктаў, у 4—5, а ў сем'ях, дзе пануе жорсткасць, нядобразычлівасць, у 9—10 разоў вышэй, чым у сем'ях з нармальнымі ўзаемаадносінамі. Сацыялагічныя даследаванні, праводзімыя ў рэспубліцы, паказваюць, што ў кожнай шостай сям'і сістэматычна наладжваюцца бойкі, сваркі, справа даходзіць да цялесных пашкоджанняў. У такіх умовах «выхавання» дзеці, падлеткі абсалютна не абаронены, поўнасцю залежаць ад бацькоў або асоб, якія іх выхоўваюць.

Між тым, існуючы прававы механізм абароны дзяцей ад фізічнага і псіхічнага насілля недасканалы, бо не забяспечвае ў поўнай меры гарантый спакойнага дзяцінства. Меры грамадзянска-прававой, адміністрацыйнай і крымінальнай адказнасці часта не спрацоўваюць. Вельмі рэдка прыцягваюцца да адказнасці за пабоі і здзекі з дзяцей, злачынныя адносіны да аховы іх жыцця і здароўя бацькі, апекуны, а таксама асобы, дзейнасць якіх звязана з выхаваннем непаўналетніх. Асабліва сацыяльна неабароненымі аказваюцца дзеці-сіроты з псіхічнымі і фізічнымі недахопамі.

У гэтай сувязі, на наш погляд, Крымінальны кодэкс БССР варта дапоўніць артыкулам аб адказнасці бацькоў, асоб, якія іх замяняюць, а таксама асоб, на якія ўскладзены абавязкі па навучанню, выхаванню і ўтрыманню дзяцей за жорсткія адносіны да іх, нанясенне пабояў, дрэннае выкананне абавязкаў па ахове жыцця і здароўя. Пакуль жа выхавальнікі, педагогі, малодшы абслуговы персанал дзіцячых устаноў, не з'яўляючыся службовымі асобамі, пры недапушчальных паводзінах не могуць быць прыцягнуты да адказнасці за абыякавасць і, як правіла, застаюцца беспакаранымі.

Як сведчыць вопыт іншых краін, умацаванню прававых гарантый дзяцей садзейнічае ўвядзенне адміністрацыйнай адказнасці педагагічных работнікаў, выхавальнікаў, іншых асоб, якія клапоцяцца пра дзіця, за непаведамленне аб дакладна вядомых ім фактах жорсткага абыходжання з дзецьмі, прымянення да іх рукапрыкладства, антыпедагагічных мер уздзеяння.

Неабходнасць увядзення дадатковых заканадаўчых гарантый супраць замахаў на жыццё, здароўе і годнасць дзіцяці абумоўлена міжнародна-прававымі абавязацельствамі СССР, узятымі на сябе ў выніку ратыфікацыі 13 чэрвеня 1990 года Канвенцыі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый аб правах дзіцяці.

Далей адкладваць нельга. Трэба нарэшце спыніць памнажэнне колькасці маленькіх вязняў нашай жорсткасці, раўнадушнасці, педагагічнай бясталентнасці.



## «Атручаны невядомымі ядамі...»—

**такое заключэнне аб прычыне смерці не раз за апошнія пяць гадоў давалі медыкі Светлагорска. Зло, забраўшае ўжо каля двух дзесяткаў чалавечых жыццяў, — таксічныя і наркапрэпараты. Толькі за некалькі месяцаў гэтага года аддзелам унутраных спраў горада прыцягнута да адміністрацыйнай адказнасці за ўжыванне наркотыкаў амаль ўтрая больш чалавек, чым за ўвесь папярэдні год. Факты трывожныя. Тым больш, што зімой, калі наркаманы гатавалі сваё ядавітае зелле ў дамах, іх было больш проста выяўляць. З надыходам жа цяпла яны перабраліся на «свежае паветра».**

**НА ЗДЫМКАХ:**

*** Сляды злачынства.**

*** За работай намеснік начальніка гарадскога АУС Уладзімір Асіпенка, які курыруе работу следчых па наркаманіі, і следчы Валерый Дудко.**

**Фота С. Халадзіліна (БЕЛТА).**



## Крымінальная хроніка

### НАШЧАДКІ ІУДЫ

**Як вядома, Іуда прадаў Хрыста за 30 срэбранікаў. Яго сучасныя нашчадкі з Мядзельскага раёна абышліся больш таннай цаной: вось ужо літаральна аддалі душу д'яблу за каўбасу, цукар, грудзінку, маргарын і іншыя прадукты харчавання, агульнай вагой 400 кілаграмаў. У ноч на 17 мая яны разбілі шыбу і праніклі ў касцёл, што ў вёсцы Будслаў Мядзельскага раёна, адкуль і выкралі груз гуманітарнай дапамогі з Заходняй Германіі.**

### АСАБЛІВА НЕБЯСПЕЧНЫ «ЧЫРВОНЫ СЦЯГ»

**Міліцыі яшчэ трэба будзе высветліць, чаму днём 17 мая ў вёсцы Лазовічы Клецкага раёна былі адкрыты і неагароджаны дзесяць калодзежаў сцёкавай каналізацыі, якія належаць калгасу «Чырвоны сцяг». І трагедыя не прымусіла сябе чакаць доўга. Каля 16 гадзін мясцовы жыхар, першакласнік Саша Р., у час гульні ўпаў у адзін з адкрытых калодзежаў і патануў.**

### «МАЛЕНЬКАЯ НАЧНАЯ МУЗЫКА»

**Невядома, ці любяць злачынцы, якія праніклі ў ноч на 18 мая ў сталовую вёскі Горкі Старадарожскага раёна, менавіта гэты твор Моцарта, аднак няма сумненняў, што музыцы яны «аддадзены ўсёй душой». Бо выкралі адтуль магнітафонную прыстаўку, электрапрайгравальнік вышэйшага класа і дзве колерамузычныя ўстаноўкі. Міліцыя вядзе іх пошук.**

**А тым часам яшчэ адзін аматар «начной музыкі» затрыманы ў Салігорску. 18 мая на пачатку чацвёртай гадзіны ночы спрацавала сігналізацыя ў мясцовым магазіне № 65 «Радыётэхніка». Відаць, злачынца не разлічваў на тое, што група затрымкі аддзела аховы прыбудзе на месца літаральна праз некалькі мінут і «накрые» яго разам з нарабаванымі магнітафонамі, а таксама высветліць, што 40-гадовы рабаўнік — мясцовы жыхар, раней неаднаразова судзімы за крадзяжы.**

### ТРЫ ПАРАСЯЦІ

**А гэта паведамленне пра «аматара казак». Ва ўсялякім выпадку, у ноч на 19 мая ў вёсцы Новая Лысіца Нясвіжскага раёна ўсё было як у казцы: невядомы пранік у будынак свінафермы калгаса «Гарадзейскі», які, заўважым, ахоўваўся, пасля чаго адтуль зніклі тры чатырохмесячныя парасяці.**

### ШКОЛА ВАШАЙ БЯСПЕКІ

**Зараз модна даваць парады, як дзейнічаць у той ці іншай экстрэмальнай сітуацыі. Вырашылі адкрыць такі раздзел і мы, тым больш, што для гэтага ёсць падставы — вопыт шматлікіх ахвяр з міліцэйскіх зводак. Не разгубілася, напрыклад, позна вечарам 17 мая пенсіянерка з Барысава, якая пражывае па вуліцы Панфілава. Каля 23 гадзін пачуўся трэск узломваемых дзвярэй у яе кватэры, пасля чаго трое невядомых мужчын спрабавалі выкрасці з хаты прадукты харчавання і рэчы. Як быць у такой сітуацыі? Гаспадыня вырашыла непрыкметна ўцячы. Можа, гэта і выратавала не толькі яе, але і кватэру, бо рабаўнікі таксама зніклі з месца злачынства, не ўзяўшы ніводнай рэчы. Ну, а далей добра спрацавала міліцыя, і хутка адзін з начных гасцей быў затрыманы. Ім аказаўся 26-гадовы мясцовы жыхар. Пошук астатніх вядзецца.**

### ТЭМПЫ — ЎДАРНЫЯ

**Раней так сказалі б пра «нашы сацыялістычныя поспехі». А сёння «набірае крок» негатыўнае ў нашым жыцці. Так, за студзень — красавік гэтага года злачыннасць у сталіцы Беларусі ўзрасла ў параўнанні з такім жа перыядам мінулага года амаль на чвэрць: усяго па Мінску зарэгістравана з пачатку года 3,5 тысячы злачынстваў. Ды і чаму здзіўляцца, калі, напрыклад, толькі мінскай абласнай міліцыі мінулыя выхадныя дні (18—19 мая) прынеслі «ўраджай» з 61 нецвярозага вадзіцеля і 77 дробных хуліганстваў.**

**У бюро дзяжурыў П. СІМАНАЎ.**



# Экалогія «рок-культуры»

У цікавы час мы жывём у СССР і ўсходне-еўрапейскіх краінах. Стваралі сабе куміраў, а цяпер іх звяргаем. Ставім велічныя помнікі правадырам і «героям», а потым іх знімаем з п'едэсталаў і праклінаем.

Тут я не буду паўтараць і пісаць пра тое, аб чым у апошнія гады гавораць усюды. Але менавіта гавораць і пішуць, не робячы нічога канкрэтнага. А лепшы ж від слова — гэта справа! Хачу асабліва падкрэсліць, што сацыяльная дэмагогія, сафістыка, дагматызм, бюракратызм, фармалізм, хабарніцтва арганізаваная злачыннасць, фарысейства і іншыя адмоўныя працэсы і з'явы не маглі не адбіцца на светапоглядзе маладых людзей. Чаму перш за ўсё на маладых? Па той жа прычыне, што псіхіка маладых людзей звышадчувальная і вельмі ранімая. Маладое пакаленне больш востра ўспрымае неадпаведнасць паміж словамі і справамі. Яна больш адчувальная да сацыяльнай несправядлівасці, да крывадушнасці і фальшу старэйшага пакалення.

У гэтай сувязі варта працытаваць разважанні Айвара — аднаго з герояў вядомага фільма «Ці лёгка быць маладым?». Яго словы звернуты менавіта да дарослых. «Хочаце вы таго або не — усё ідзе ад свету дарослых». Слепа прыняць яго законы я не магу, у мяне ўнутраны пратэст. Значыць, я павінен зыходзіць са свайго нутра і жыць як умею... Для кагосьці мы ўяўляем цікавае відовішча, для кагосьці жудаснае, але, на жаль, ні афіцыйныя асобы, ні проста дарослыя — ніхто так і не зразумеў, што з намі адбылося. Мы апранулі гэтыя скураныя курткі з заклёпкамі і назвалі сябе гучным словам «панкі», каб паказаць усім, што мы ёсць. Так, мы брудныя, абадраныя, жудасныя, але мы вашы дзеці, і вы нас такімі зрабілі. Сваімі двудушнасцю і хлуснёй. Сваёй правільнасцю на словах, у лозунгах, але не ў рэальным жыцці... Так, маё жыццё складаецца з памылак. А ў каго гэта не так? Але дарослыя не дазваляюць маладым людзям ісці па шляху пазнання праз памылкі. Тым самым не дазваляюць набываць уласны вопыт...»

Дык ці варта пасля гэтага здзіўляцца таму, што апытанне, праведзенае навукова-даследчым цэнтрам ВКШ пры ЦК ВЛКСМ сярод тысячы маладых людзей у пяці абласцях краіны, паказала: каля 50 працэнтаў апытанай працоўнай моладзі і 60 працэнтаў студэнтаў аддаюць перавагу капіталізму ў галіне эканомікі, у рашэнні сацыяльна-бытавых праблем, у развіцці асабістых якасцей і ініцыятывы людзей.

Паміж асноўнай часткай моладзі і камсамолам існуе не проста неразуменне, а сапраўдная і глыбокая прорва. Па аналагічнай схеме складваюцца ўзаемаадносіны паміж прадстаўнікамі старэйшага і сярэдняга пакаленняў і маладымі людзьмі. Апошнія вельмі часта задаюць (з ironіяй або сарказмам) наступнае пытанне: «Як вы адносіцеся да сучаснай музыкі, у прыватнасці, да рок-музыкі?» Гэта хітравата зададзенае пытанне з'яўляецца менавіта той лакмусавай паперкай, на якой юнакі і дзяўчаты «экзаменуюць» дарослых, іх густы і настрой, музычныя інтарэсы і перавагі.

Мы павінны адказваць шчыра і праўдзіва на гэтыя складаныя, часам і правакацыйныя пытанні. Не павінны крывіць душой, а сумленна і прама сказаць, што нам асабіста падабаецца ў рок-музыцы, а што і не падабаецца. І самае галоўнае. Неабходна паспрабаваць растлумачыць, што канкрэтна і чаму не падабаецца ў рок-музыцы. Пытанні могуць быць пастаўлены больш шырока: што пераважае — станоўчае або адмоўнае — у «рок-культуры» (больш дакладна, у «рок-субкультуры» або ў масавай «рок-культуры»).

Адразу агаваруся. У гэтым артыкуле я не збіраюся гаварыць і пісаць падрабязна пра музычныя і эстэтычныя аспекты «рок-культуры». Гэтыя важныя бакі рок-музыкі павінны стаць аб'ектам глыбокіх даследаванняў музыказнаўцаў, музычных крытыкаў і таленавітых, адораных ад бога кампазітараў; спецыялістаў эстэтыкі, агульнай і музычнай культуры. На жаль, мне здаецца, з эстэтычнага і музычнага пункту гледжання зроблена вельмі мала па аб'ёму, зусім павярхнева па якасці і не вельмі глыбока па зместу.

Я бяру сацыяльныя, маральныя, духоўныя, біяэнергетычныя (экстрасенсорныя), экалагічныя і эндамедыцынскія бакі так званай «рок-культуры». Менавіта яны і іх уздзеянне на арганізм і псіхіку чалавека, на індывід, асобу і індывідуальнасць, на цялеснае і духоўнае здароўе, будуць аб'ектам майго далейшага аналізу і сінтэзу.

Зараз у СССР і ў краінах Усходняй Еўропы (у былых краінах сацыялістычнай сістэмы) адбываецца з «рок-культурай» працэс, які можа быць названы як «вызваленнем», «разняволеннем», «афіцыйнай легалізацыяй» і г. д. Самай будзённай і звычайнай з'явай стала правядзенне ў гэтых краінах шматлікіх рок-канцэртаў і фестываляў рок-музыкі. Не толькі дзённыя, але і вячэрнія гадзіны радыё і тэлевізійных праграм гэтых краін аддадзены эстрадным канцэртам, пераважная частка якіх складае рок- і дыска-творы. Рок-музыка з'яўляецца дзяжурнай тэмай усіх маладзёжных газет і часопісаў, сустрэч і перадач.

Канцэрты і перадачы з удзелам вядомых рок-выканаўцаў збіраюць, напрыклад, ля тэлеэкранаў і радыёкропак значную частку насельніцтва гэтых краін, асабліва моладзі. Мяркуючы па водгуках, гэтыя перадачы, акрамя свайго спецыяльнага музычнага ўздзеяння, уяўляюць сабой ледзь не адзіную на сённяшні дзень праяву грамадскага інтарэсу і аптымізму. І вынікі, і сама працэдура падобных зборышчаў і рок-шоу вельмі ўражальная. Значыць, ва ўмовах так званай перабудовы знаўцы і ахвяры рок-музыкі могуць быць задаволены зменамі, якія адбываюцца. Яны ўяўляюць своеасаблівы «рок-бум» або «рок-вакханалію». У сувязі з гэтым нарастае пачуццё хвалявання і трывогі за вынікі масавага ўздзеяння «рок-культуры» на цялеснае і духоўнае, фізічнае і псіхічнае здароўе маладых людзей. Тут дарэчы ўспомніць словы і папярэджанні народнага артыста СССР М. Ульянава: «Нас душаць уяўныя каштоўнасці, нас душаць чужыя гукі... Мы душым сваіх дзяцей грукатам магнітафонаў, музыкай дзікай, вар'яцкай».

У чым жа тут небяспека? У тым, што свет чалавека пабудаваны на сіле музыкі і гармоніі, мовы і лічбаў, цела і душы, рацыянальнага і адчувальна-эмацыянальнага. Музыка і слова маюць магічную і дынамічную сілы!

Маральная пазіцыя многіх рок-выканаўцаў аднадушна і дакладна агаворваецца імі: любоў да людзей, дабрыня, добразычлівасць да ўсіх, асабліва да маладых людзей. Шмат разоў падкрэслівалася, што галоўная іх мэта не фізічнае, а духоўнае здароўе чалавека, яго адчувальна-эмацыянальных перажыванняў. Яны запэўніваюць, што сваімі спецыфічнымі музычнымі кампазіцыямі і сродкамі прымуць удзел у духоўным адраджэнні моладзі і народа, усяго свету, яго выхаванні і выратаванні, быццам бы з гэтай мэтай праводзіліся і фестывалі: «Рок у барацьбе за мір, «Рок супраць нацызму», «Рок супраць тэрору». Аднак, на мой погляд, пад гэтым флагам, сумесна з містыцызмам, сатанізмам і кашпіравізмам, са шматлікімі, але завуаліраванымі праявамі псіхафашызму ідзе не проста адурачванне моладзі, а яе разбэшчванне, духоўная і маральная дэградацыя.

Кожны чалавек пад уздзеяннем музыкі, якая яму падабаецца, становіцца залежным ад яе. Яна выклікае ў яго не толькі адчувальна-эмацыянальныя і душэўныя перажыванні, але і значны псіхічны і біяэнергетычны рэзананс. Даволі часта гэта прыводзіць да глыбокіх душэўных хваляванняў і звышадчувальных (экстрасенсорных) перажыванняў. Напрыклад, душэўныя ўзрушэнні, стрэсы і дыстрэсы; стан здранцвення, супакаення, абыякавасці, апатыі, або наадварот, агрэсіўнасць і нават негуманныя і антысацыяльныя праявы. Невыпадкова яшчэ старажытнагрэчаскі мудрэц Платон сцвярджаў, што законы музычнай гармоніі такія ж строгія як і законы дзяржавы (і тыя, і другія абазначаюцца ў грэчаскай мове адным і тым жа словам «номы»). «Ніхто, — піша Платон, — не павінен спяваць або скакаць неадпаведна са свяшчэннымі агульнанароднымі песнямі... Гэтага трэба засцерагацца больш, чым парушэння любога закона». Задумваўся аб гэтым і Л. Талстой: «Музыка — дзяржаўная справа». І гэта так і павінна быць. Хіба можна дапусціць, каб усялякі, хто хоча, гіпнатызаваў бы адзін аднаго або многіх і потым рабіў з імі, што хоча». І нават такі геній, быццам бы далёкі ад клопатаў мастацтва, як Цыялкоўскі, пісаў у сваіх дзённіках: «Музыка ёсць моцная, узбуджальная, магутная зброя, падобная медыкаментам. Яна можа і атручваць, і вылечваць. Як медыкаменты павінны быць ва ўладзе спецыялістаў, так і музыка». А ў наш час, калі свет літаральна насычаны музыкай, адказнасць мастака ўзрастае ў шмат разоў. Нездарма Радзівон Шчадрын з трывогай сказаў аб тым, што «калі музыка атрымлівае такую каласальную аўдыторыю, з ёй варта абыходзіцца, як з токам высокага напружання, — вельмі асцярожна».

Не можа не выклікаць самай сур'ёзнай заклапочанасці той факт, што дзесяткі мільёнаў людзей перыядычна адкрываюць для сябе зусім невядомае музычнае ўздзеянне, аб паходжанні і выніках якога яны не маюць нават прыблізнага ўяўлення. Слухаючы гадзінамі рок-музыку, людзі падвяргаюць сябе самым вытанчаным біяэнергетычным і псіхалагічным, містычным і акультным доследам, уплыву небяспечных сіл духоўнага, псіхічнага свету. Фактычна — гэта ўмелае маніпуліраванне пачуццямі і эмоцыямі, падсвядомасцю і свядомасцю людзей і ў канчатковым выпадку — дэградацыя іх як асоб.

Нягледзячы на рызыку і небяспеку, рок валодае асаблівым магнетызмам і прыцягальнасцю. У ім спалучаюцца розныя элементы блюза, негрыцянскіх народных і рэлігійных мелодый і новыя віды гуку. Яны звычайна шмат разоў паўтараюцца. Менавіта гэта дапамагае моладзі разняволіцца, выйсці са стану адлучанасці і апатыі, адчуць сябе свабодным. Разам з тым, рок-музыка стварае ілюзорнае ўражанне, бачнасць духоўнай роднасці, псіхічнай «саборнасці» і агульнасці натоўпу. У наш бурны і неспакойны час гэта вельмі неабходна і жыццёва важна для любога індывіда.

Разам з тым, «рок-музыка» і масавая «рок-субкультура» падмяняюць сабой штосьці вельмі істотнае ў жыцці. Уяўляючы нейкі сурагат мастацтва і дзейнасці, яна прыводзіць да бурных і неадэкватных рэакцый, да агрэсіўных і разбуральных дзеянняў, да выражаных антысацыяльных праяў. Усім вядома, што прафесіянальны ўзровень многіх рок-груп, здольных «запальваць» маладых людзей і давесці масавую аўдыторыю да экстазу, вельмі прымітыўны. Атрымліваецца, што прафесіянальнае ўменне — нязначнае, музычная культура — мінімальная, а ўздзеянне на маладзёжную аўдыторыю — вялікае, гіпнатычнае, магічнае. Значыць, яно ажыццяўляецца не на свядомым і мастацкім узроўні, а хутчэй за ўсё на падсвядомым і біяэнергетычным, на фізіялагічным і фізічным.

Рок-музыка будуецца на элементарных рытмах, якія паўтараюцца. Другая яе істотная складаемая — гэта гучнасць, даведзеная да абсурду, да вышэйшай мяжы, да «звышпоўнага» гуку. Сучасныя сінхранізатары, электронныя ўстройствы і магутныя танкалоны даюць магчымасць поўнасцю аглушыць слухачоў і гледачоў, дасягаючы «татальнага» эфекту і гвалтам авалодваючы ўвагай, падсвядомасцю і свядомасцю любога чалавека. Тут прывядзём як прыклад адзін з такіх эфектаў «...Рок-музыка па прыродзе сваёй гучная і рытмічная; між тым, даўно вядома, што гучная музыка, у аснове якой ляжыць жорсткі рытм, часам дзейнічае як наркотык, яна паралізуе волю, уводзіць у стан трансу. У свой час гэтым карысталіся шаманы: яны гучна і рытмічна білі ў бубен у час рытуальных дзеянняў. Такім чынам яны ўводзілі сваіх слухачоў у стан прастрацыі або, скажам, поўнага ўзбуджэння («Аргументы і факты», 1986 г., № 16).

У гэтым выпадку ўтвараецца так званае біяэнергетычнае або псіхаэмацыянальнае, інфармацыйна-музычнае або магічнае кола. Сёння мы можам увачавідкі пераканацца, што такое ж кола з поспехам утвараецца і з дапамогай, напрыклад, радыё, тэлебачання, на канцэртах «рокераў», «металістаў» або «брэйкераў».

Якім жа чынам утвараецца гэты дзіўны музычны і псіхаэмацыянальны, энергетычны і магнетычны ланцужок? Заўважце, рок-выканаўцам не трэба, здавалася б, нічога ад нас. Мы можам не слухаць іх сур'ёзна і ўважліва, не ўнікаць і нават не разумець. Напрыклад, вядомы выпадкі ўздзеяння рок-музыкі на немаўлят або на іншаземцаў, якія не ведаюць адпаведнай мовы. Дапускаецца, што вы можаце з недаверам або шчыра крытычна адносіцца да «рок-зорак» і «рок-груп». Але калі вы не выключаеце радыё або тэлевізар, бо аддаяце якраз тое, што неабходна, — вашу ўвагу! А астатняе возьмуць без вашай волі! Бо ідзе магутнае радыё- або тэлерокнаркатычнае, рэзанансн ае і псіхатэхналагічнае ўздзеянне, накіраванае на ўнутранае перараджэнне і карэннае разбурэнне самаго чалавека.

**Т. ДЗІЧАЎ,**
**доктар філасофскіх навук, псіхатэрапеўт.**

Балгарыя.

**[Працяг будзе].**



Фельетон

# Матэрыялізацыя перабудовы

УЯВІЦЕ САБЕ. Ньюпарт, Род Айленд. Стракаты натоўп пілігрымаў ужо на восемь гадзін запаланіў фальварак Румфарда. Ахова, сціскаючы зубы, стрымлівае шматтысячны натоўп, які імкнецца як найбліжэй убачыць дзіва: матэрыялізацыю Зорнага Вандроўніка. Людзі былі наэлектрызаваны дарэшты, бо настаў дзень з'яўлення з нічога Вялікага Румфарда, тварца новай сусветнай рэлігіі, і яго вернага сабакі. З нічога ён павінен быў з'явіцца, у нішто і знікнуць. («Сірэны Тытана» Курта Ванегута).

**Уявіце сабе**, што ў падобным стане цяпер знаходзіцца і наша грамадства. Яно ахоплена той самай матэрыялізацыяй. Ёсць і натоўп, які надта ахвочы ўбачыць сам працэс, але, як і ў першым выпадку, заўважае толькі яго вынікі: то ў адным месцы з'явіцца дача-будыніна, то ў другім — вяльможны фальварак, то ў трэцім— высачэзны храм. Як вось у Кобрыне, да прыкладу, калі былы першы сакратар РК КПБ М. А. Крывецкі атрымаў катэдж у прыпаркавай зоне, «вымураваны» з цэнтралізаваных фондаў калгасаў, а мясцовая абшчына Евангельскіх хрысціян-баптыстаў саматужна на забалочанай глебе з разабранай на прададзеным вайскоўцамі аб'екце цэглы вымуравала такі вялікі і прыгожы храм... Рознай яна бывае, матэрыялізацыя перабудовы. Прычым, пэўна, матэрыялізуюцца не толькі ўладныя паўнамоцтвы пэўных асоб, іх сувязі і блат, якія звычайна ўвасабляюцца ў катэджы, кватэры, дачы, матэрыялізуюцца і памкненні душ розных людзей, іх унутраны змест і патрэбнасці. Ці не таму адны будуюць катэджы, а другія — храмы...

І адным ой як лёгка ажыццявіць свае імкненні, а другім ой як складана! Што зробіш— такая ўжо дыялектыка перабудовы ў яе апошняй фазе —матэрыялізацыі.

Іншым жа як ні крычы, як ні пішы — нават драбніцы не выбіць. Свайго не выпрасіць. Як у тым жа Кобрыне...

**Уявіце сабе:**

Зала пасяджэнняў Кобрынскага райвыканкома. Аўкцыён у стылі пачатку 90-х гадоў. Адзін з супрацоўнікаў райвыканкома, ён жа аўкцыяніст, грукае малатком:

— ...Прададзена! Усе цэрквы, касцёлы і сінагогі прададзены. Застаецца толькі Дзівінская царква Святой Параскевы, але і яна прададзена. Прапануецца да продажу Званіца гэтай царквы. Пачатковая цана — 50 рублёў. Хто больш?

— 51 рубель, — рашуча сказаў грамадзянін А.

— 51 рубель — раз, пяцьдзесят адзін рубель — два... нагадваю, што званіца, як і ўся царква, — помнік XVIII стагоддзя пабудавана ў 1740 годзе, спалучае прыёмы мясцовага дойлідства з элементамі барока...

— 55 рублёў — выгукнуў грамадзянін Б.

— 55 рублёў —раз, пяцьдзесят пяць рублёў — два... Царква, дарэчы, пабудавана без адзінага цвіка, яна сапраўды унікальная...

— 60 рублёў! — У спрэчку ўступае грамадзянін В.

— О! Цэлых 60 рублёў за званіцу! Хто больш? Ад сябе я дадам, што пад час паходу А. Суворава з Нямірава, што на Падоллі, 3 верасня 1794 года ля Дзівіна быў разгромлены разведатрад генерала Серакоўскага, пасля чаго ў царкве Святой Параскевы адбыўся малебен, на якім прысутнічаў сам Сувораў!

— Я адмаўляюся ад званіцы, — рэзка заявіў грамадзянін В., прычым з польскім акцэнтам...

— А я даю за яе восемдзесят рублёў! Вось так! — выгукнуў грамадзянін А.

— О! О! Восемдзесят рублёў — раз! Восемдзесят рублёў — два! Восемдзесят рублёў — тры! Прададзена! Віншую, віншую! — Той жа гаспадар купіў і царкоўную старожку — за 142 рублі.

Вось такая фантастычная, амаль па Ванегуту, гісторыя магла адбыцца ў Кобрыне больш як 20 гадоў таму назад. Можа, яно было трохі інакш. Але ад гэтага веруючым 2-й Дзівінскай праваслаўнай абшчыны не лягчэй. І па сённяшні дзень у званіцы захоўваюцца дровы, жывуць куры і іншая жыўнасць грамадзяніна Калатовіча Я. Ф. Ну, тады з лёгкасцю аддзялялі царкву ад дзяржавы і ад школы, а званіцу — ад царквы... А зараз жа, калі культавыя збудаванні дарэшты асыпаліся і іх патроху вяртаюць вернікам?.. Ды ці ў Кобрыне заўпарціліся, ці мо гаспадару Калатовічу шкада маёмасці... Яму, паводле слоў старшыні прыходскага савета Г. К. Маразевіча, не патрэбны грошы, якія гатовы сабраць вернікі, каб вярнуць расходы, яму трэба, каб узамен паставілі цагляную пуню. Ні больш, ні менш. Складана сказаць, ці матэрыялізуецца ягонае нахабства ў тую пуню, аднак калі ўсё-такі яму гэта ўдасца, то мая парада: хай хутчэй застрахуе яе. А заадно і сваё сумленне. На ўсялякі выпадак.

А веруючыя ўсё просяць. Ні сельсавет, ні райвыканком ім не дапамагаюць, пакідаюць у сіле рашэнне № 69 ад 11 сакавіка 1970 года. А як жа — трэба мысліць прагрэсіўна і абараняць прыватную ўласнасць. Час такі. А то пра прыватызацыю толькі размовы...

Забыліся толькі ў райвыканкоме (відаць, празмерна загружаны ўласнай матэрыялізацыяй) на тое, што орган Савецкай улады павінен абараняць не толькі свяшчэнную прыватную ўласнасць, але і помнікі гісторыі і культуры Беларусі— царква ж Святой Параскевы ўключана ў «Звод помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Брэсцкая вобласць, Мн., 1990» пад нумарам 1003...

Вось веруючыя і дайшлі да народнага дэпутата БССР В. Ф. Кучынскага і яго актыўнага памочніка А. М. Сушчука, прынеслі да іх фатаграфіі, копію славутага рашэння Кобрынскага райвыканкома, опісы, ацэнкі, заяву на імя намесніка Кобрынскага РВК т. Бабея М. І., падпісаную 34 веруючымі і вернутую без належнага разгляду 20 кастрычніка 1990 года... Ніяк не матэрыялізуюцца іх намаганні ў царкоўную званіцу. Хоць запрашай усемагутнага Румфарда, хоць сам едзь у той далёкі Ньюпарт, дзе ўсё так проста і разумна ў параўнанні з Кобрынам.

Валер КАЛІНОЎСКІ.




У чаканні гаспадароў.

Фота А. ТАЛОЧКІ. (БЕЛТА).

## Кантрактам не прадугледжана...

На прадпрыемствах рэспублікі працуе нямала в'етнамцаў. Яны прыехалі ў нашу краіну згодна з міжурадавым пагадненнем. Але, на жаль, часта іх прываблівае не толькі праца. Часам яны скупляюць разнастайныя тавары і перасылаюць іх у В'етнам. Безумоўна, ёсць пэўны пералік вырабаў, якія можна вывозіць з краіны. Але, зразумела, такі тавар, як падшыпнікі або злiткі медзі кантрактам не прадугледжаны...

Ёсць такія ахвотнікі да нажывы і ў Гомелі. У выніку толькі аднаго рэйду работнікамі другога аддзялення міліцыі Чыгуначнага аддзела ўнутраных спраў горада ў в'етнамскіх рабочых канфіскавана больш як 12 тысяч штук падшыпнікаў на суму 100 тысяч рублёў, аўтамабільныя свечкі запальвання, цвёрдасплаўныя пласцінкі для рэжучага інструмента, маслаправоды высокага ціску і... зварачны апарат.

Вялізныя кантэйнеры, набітыя дэфіцытнымі таварамі, стаяць у дварах дамоў, дзе жывуць в'етнамскія рабочыя. Грузы ахоўваюць вартаўнікі з сабакамі, якіх наймаюць гаспадары. І так да адпраўкі рэйсам самалёта або па чыгунцы.








Фота і тэкст:
С. Халадзіліка, кар. Белта.

# Фонд уварванцаў

**ПРАПАНУЕ ПЕРШУЮ АГУЛЬНАНАЦЫЯНАЛЬНУЮ СЕТКУ ДАПАМОГІ ТЫМ, КАГО ЎКРАЛІ НЛА**

Калі вы лічыце, што былі ўкрадзены іншапланецянамі, вас можа адолець пачуццё ўзрушэння, знявагі і разам з тым — бездапаможнасці. Аднак з гэтага часу становішча можа карэнным чынам змяніцца. Фонд уварванцаў (ФУ), заснаваны нядаўна. уфолагам і аўтарам бестселераў Бадам Хопкінсам, прапаноўвае першую ў ЗША сетку дапамогі тым, каго ўкралі НЛА.

Хопкінс з'яўляецца апекуном украдзеных вось ужо на працягу дзесяцігоддзя. Пасля яго першай кнігі «Зніклы час», якая выйшла ў свет у 1981 годзе і ў якой расказваецца пра феномен крадзяжу, напалоханыя ахвяры кінуліся да яго па парады. Ён знайшоў кваліфікаваных гіпнатызёраў і псіхатэрапеўтаў, якія даследавалі гэтых людзей і нават гіпнатызавалі многіх, каб дапамагчы ім успомніць акалічнасці крадзяжу. Але пасля поспеху яго кнігі «Уварванне» ў 1986 г. Хопкінс ужо больш не мог займацца гэтым адзін. «Гэта было нешта неймавернае,—гаворыць ён.—Я атрымліваў сотні пісьмаў, на якія проста фізічна не мог адказаць».

Хопкінс верыць, што ФУ здольны справіцца са сваёй задачай. Гэта дабрачынная арганізацыя, заснаваная на ахвяраваннях і членскіх узносах, плануе аказаць дапамогу, і матэрыяльную ў тым ліку, тым, хто быў украдзены НЛА. Актывісты фонду, гаворыць яго стваральнік, змогуць хутка і кампетэнтна адказваць на пісьмы, а імёны новых членаў і паведамленая ім інфармацыя будуць уводзіцца ў камп'ютэрны банк даных, які ўвесь час павялічваецца. Людзі, якім патрэбна псіхалагічная дапамога, знойдуць яе ў камп'ютэрных спецыялістаў, знаёмых з праблемамі выкрадзеных і часцяком гатовых працаваць бясплатна. ФУ нават сам будзе ўдасканальваць падрыхтоўку такіх экспертаў, праводзячы спецыяльныя канферэнцыі, індывідуальныя заняткі, выкарыстоўваючы пры гэтым адпаведныя відэа- і гуказапісы. Члены суполкі будуць таксама атрымліваць часопіс ФУ. Паводле слоў рэдактара Пенелопы Франклін, асноўным зместам гэтага выдання будуць расказы саміх выкрадзеных. Многія з іх знаходзяцца ў псіхалагічнай ізаляцыі,— гаворыць яна.— Наш часопіс дапаможа ім знайсці людзей, якія прайшлі праз тое самае».

Джэрам Кларк, віцэ-прэзідэнт Цэнтра па вывучэнню НЛА, згодны, што ФУ будзе адыгрываць вялікую ролю. «Некаторыя з гэтых людзей знаходзяцца ў цяжкім стане, як і ахвяры гвалтавання,— сцвярджае ён. Чым больш інфармацыі будзе ў нас, тым больш эфектыўна мы зможам дапамагчы».

Калі вы хочаце падзяліцца сваімі думкамі або інфармацыяй аб прышэльцах і крадзяжах, вы зможаце звярнуцца да Беларускага аддзялення гэтай арганізацыі, якое дапамагае амерыканскім даследчыкам, па адрасу: 220002, г. Мінск, вул. Варвашэні, 80, Адашкевічу А. П.

**Пераклад Антона АДАШКЕВІЧА.**

# Што ў свеце чутно?

## З усяго свету

**Пасля таго, як два месяцы таму назад кітайскія ўлады распачалі барацьбу супраць парнаграфіі і знішчылі пры гэтым каля 30000 парнаграфічных выданняў, многія бацькі апынуліся перад цяжкасцямі. Школьнае кіраўніцтва не засталося ў баку ад гэтай барацьбы і абвясціла: «Кожны добры вучань прыносіць «жоўтую кнігу» (так называюцца парнаграфічныя выданні ў Кітаі). І бацькі цяпер з усіх сіл стараюцца дастаць гэтыя кнігі на чорным рынку, плацяць за іх вялізныя грошы, толькі каб іхнія дзеці трапілі ў разрад «добрых вучняў». Як піша газета «Лонг Хіміао», «бацькі не ведаюць, плакаць ім або радавацца».**

**«Штэрн».**

***

**Дэльфіны — смелыя, дружалюбныя, разумныя жывёліны. Але яны валодаюць яшчэ і іншымі якасцямі, пра якія гаворка раней і не заходзіла. Яны настолькі тэмпераментныя, што спрабуюць нават уступіць у палавую сувязь з людзьмі.**

**У спецыяльных водных парках Фларыды і на Гаваях наведвальнікі плацяць 50 доляраў за тое, каб паўгадзіны паплаваць з дэльфінамі, якія трымаюцца ў няволі. Джорджыя Крэнмар, эколаг службы рыбнай гаспадаркі Нацыяльнага ўпраўлення па акіяналогіі, расказвае, што іх забаўкі вельмі часта носяць сексуальны характар. «Дэльфіны вельмі сексуальныя жывёліны, — гаворыць яна, — секс з'яўляецца неад'емнай часткай іх зносін». Яны вельмі часта займаюцца ім на волі.**

**Крэнмар не зусім упэўнена ў тым, якая сіла падштурхоўвае дэльфінаў да некаторых плыўчых, але лічыць, што ў гэтым няма нічога містычнага. «Дэльфіны не вылучаюцца асаблівай патрабавальнасцю да сваіх палавых партнёраў. Яны могуць рэалізоўваць сваё жаданне практычна з усім навакольным, і гэта неабавязкова павінна быць жывая істота.**

## Небяспечныя прафесіі

«Я не дажыву, у мяне работа шкодная»,— сцвярджала рухавая сакратарка ў вядомай кінакамедыі «Службовы раман». Яна, вядома, перабольшвала. Яе прафесія — так сабе, сярэдняя. Нічым не горшая, чым у бухгалтара, інжынера, цырульніка, адваката. Інтэнсіўнасць узнікнення стрэсавых сітуацый у іх дзейнасці—4,3 бала па дзесяцібальнай шкале.

Вось шахцёр мог бы так выказацца (мо таму ён і бастуе?). Яго праца не мае сабе роўных па стрэсах—8,3 бала. Нават работнік аховы правапарадку рухаецца за ім са значным адрывам (7,7).

Журналіст, аказваецца, нервуецца гэтак жа, як пілот (7,5), абышоўшы ў гэтым напрамку акцёра (7,2) і стаматолага (7,3).

Вадзіцель таксі (6,8) падвержаны стрэсу куды больш, чым яго калега, які працуе на аўтобусе (5,5).

Хто б мог падумаць, што кінарэжысёр надрывае свае нервы не менш за акушэрку (6,5), музыкант не ўступае ў гэтым плане пажарнаму (6,3), а дыпламат знаходзіцца ў роўных умовах з селянінам (4,8). І ўсе яны апярэджваюць прафесійнага ваеннага (4,7).

Да дастаткова бяспечных можна аднесці прафесіі мастака (4,2), архітэктара (4,0), супрацоўніка банка (3,7), праграміста (3,7). Ну, а тым, хто хоча спакою, лепш за ўсё пайсці працаваць у музей (2,8) ці бібліятэку (2,0).

Гэтыя вынікі псіхалагічных даследаванняў надрукавала лонданская газета «Сандзі таймс». Відаць таму, занятак прадаўца (5,7), настаўніка (6,2), работніка сферы абслугоўвання (4,4) не адносіцца да вельмі напружаных. У нас, вядома, такія прафесіі прэтэндавалі б на больш высокае месца.

## «Добры дзень!»— па-іншаземнаму

**Як вітаюцца ў розных краінах? Некаторыя ўжо не раз задавалі, напэўна, сабе такое пытанне. Дык давайце ж адарвёмся на хвіліну ад заняткаў і павандруем па нашай планеце. Самай распаўсюджанай формай прывітання з'яўляецца, бадай, поціск рукі. Гэты жэст ужываўся яшчэ ў глыбокай старажытнасці—траянцамі. Сёння ён найбольш распаўсюджаны на планеце. Аднак у некаторых народаў ёсць і свае звычаі.**

**Калі б было магчыма збіраць формы прывітання, як матылёў або іншых насякомых, тады б капітан Кук, які першы з еўрапейцаў наведаў шматлікія астравы Акіяніі, прывёз бы адтуль цэлы музей прывітанняў. Бадай, кожны востраў мае свой уласны цырыманіял прывітання. На некаторых астравах просты поціск рукі ператвараецца ў невялікае практыкаванне ў сіле, адначасова сустрэўшыся прыцягваюць адзін аднаго рукой да сябе, моцна трымаючыся пры гэтым сярэднім пальцам рукі.**

**Жыхары ўсходніх астравоў выконваюць пры сустрэчах наступныя рухі: яны сціскаюць руку ў кулак, выцягваюць яго ўперад, падымаюць затым над галавой і, нарэшце, расціскаюць кулак, свабодна апускаючы руку. Гэтым самым яны паказваюць адзін аднаму, што ў руцэ няма ніякай зброі. Але найбольшае здзіўленне выклікаў у капітана Кука той звычай, які ён убачыў у новазеландцаў. Пры прывітанні яны труцца насамі адзін з адным.**

**У некаторых краінах схіленне галавы пры прывітанні суправаджаецца якімі-небудзь жэстамі, каб выказаць узаемную павагу. У Індыі адначасова складваюць далоні лодачкай на грудзях. Асобныя малайскія народы пры прывітанні закладваюць палец за палец і стукаюць адзін аднаго з аднаго боку рук, а затым з другога. Пасля падносяць рукі да губ або лба.**



**Як паведаміла агенцтва Франс Прэс, Мішэль Бадэт выкладчык фізікі Страсбургскага універсітэта, устанавіў новы сусветны рэкорд па працягласці знаходжання пад вадой. У Страсбургскім басейне ён пратрымаўся пад вадой 6,4 мінуты. Папярэдняе дасягненне 6,3 мінуты належала італьянскаму ныральшчыку.**

**На здымку: Мішэль БАДЭ ў час устанаўлення рэкорда.**

**Фота АФП — ТАСС.**




**Усё, гавораць, пазнаецца ў параўнанні. Тым больш, калі гаворка ідзе пра чалавечы рост. Нядаўна японскія тэлегледачы, якія глядзелі забаўляльнае шоу, мелі магчымасць убачыць самага высокага і самага маленькага чалавека на Зямлі. Абодва дзякуючы сваім унікальным прыродным даным, — і пакістанец Алам Чана, чый рост роўны 2 метрам 47 сантыметрам, і дамініканец Нельсан Дэ Ла Роса, чый рост усяго 71 сантыметр, — з'яўляюцца рэкардсменамі вядомай кнігі Гінеса. Яны сустрэліся «жыўцом» упершыню на тэлеперадачы (на здымку).**

**Фотахроніка ТАСС.**



**«Неймаверны рэкорд» — пад такім дэвізам у Цюрыху адбыўся традыцыйны конкурс аматараў экзатычных відаў спорту. У спаборніцтвах прынялі ўдзел прадстаўнікі многіх заходнееўрапейскіх краін. Тут жа прысутнічалі прадстаўнікі «Кнігі рэкордаў Гінеса», гатовыя неадкладна зарэгістраваць «неймаверныя рэкорды».**

**На здымку: швейцарац Джо АЛЕКСАНДЭР устанаўлівае рэкорд па разбурэнню слупка з 13 цаглін ударам локця.**

**Фота Кейстан — ТАСС.**



FIVE YEARS OF PROTECTION

In the procedure, six matchstick-size flexible tubes are inserted under the skin in a fan-shaped pattern. The tubes contain a synthetic hormone called progestin, which is released at a slow, even rate. The drug prevents pregnancy through a combination of mechanisms. It inhibits ovulation, so that eggs are not released regularly, and it thickens cervical mucus, preventing sperm from reaching the eggs that are produced.

**Паводле паведамлення часопіса «Тайм», амерыканскія вучоныя распрацавалі новы эфектыўны сродак па папярэджванню непажаданай цяжарнасці. Прэпарат уяўляе сабой шэсць мініяцюрных, памерам з запалку, тубаў, якія ўтрымліваюць сінтэтычны гармон — прагестын. Яго імплантуюць ва ўнутраны бок перадплечча ў выглядзе разведзеных пальцаў далоні (паказана на малюнку). Трапляючы ў арганізм жанчыны, прагестын перашкаджае зачаццю шляхам скарачэння колькасці спелых яйцаклетак і патаўшчэнню іх знешняй абалонкі, што замаруджвае пранікненне сперматазоідаў. Прэпарат гарантуе жанчынам «бяспеку» на працягу пяці гадоў.**

**Фотахроніка ТАСС.**

# Па старонках «Полацака»




О, Божа, Ўсеўладны, о, Божа,
Магутны,
Пазбаў Беларусь ад напасці,
Дай волю краіне і нам шматпакутным,
Дай сілу, надзею і шчасце.
Цябе, Божа, молім у спеве сугучным:
З'яві сваю добрую волю.
О, Божа, Ўсеўладны, о, Божа,
Магутны,
Пашлі нам шчаслівую долю.
Мы, дзеці твае, мы з пакораю просім,
Пазбаў нас ад цяжкае мукі.
Мы лёс Беларусі і наш лёс прыносім,
Табе ў справядлівыя рукі...

**Я. Золак.**

Пры фінансавай дапамозе царквы Жыровіцкае Божае Маці, Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы сёлета ў Злучаных Штатах Амерыкі (г. Клiўленд, штат Агаё) пачаў друкавацца часопіс «Полацак», два нумары якога выйшлі ў свет.

Ужо сімвалічная назва часопіса шмат аб чым гаворыць: старажытны Полацк быў сталіцай нашых продкаў — крывічоў, найбольшага племені, якое ў даўнія часы асела ля рэк Дзвіны, Вялікае, а таксама ў верхнім цячэнні Дняпра і заснавала Полацкае княства. Адсюль пачалося доблеснае змаганне за незалежнасць нашай Бацькаўшчыны. Дзякуй Богу, гісторыя захавала для нас яе гераічныя імёны: Рагвалод, Рагнеда, Ізяслаў, Брачыслаў, Усяслаў Чарадзей... Аднак святая зямля наша нарадзіла не толькі славутую дынастыю князёў-змагароў, але яшчэ й шматлікіх асветнікаў, пачынальнікаў нашай культуры: Еўфрасінню Полацкую, Францішка Скарыну, Сімяона Полацкага, Лазара Богшу...

У прадмове да часопіса яго заснавальнікі пішуць: «Полаччына, як і ўся зямля беларуская, пакінула вялікую спадчыну. І нам, нашчадкам, нельга забываць пра гэта. Ашчадна зберагаць, вывучаць і перадаць духоўнае багацце нашых продкаў тым, хто прыйдзе нам на змену, — вось мэта часопіса «Полацак». Мы таксама спадзяёмся, што ён паслужыць справе ўзмацнення сувязей беларускай эміграцыі з Бацькаўшчынай».

З прывітальным словам да «Полацака» звярнуліся мінскі клуб «Спадчына», часопісы «Полымя», «Спадчына»; сваю ўдзячнасць і пашану выказалі Васіль Быкаў і гісторык, намеснік старшыні Сойму Беларускага Народнага Фронту «Адраджэнне» Міхась Ткачоў.

Нязведаны шляхі Гасподні. У розныя часы, па розных прычынах пакідалі беларусы Бацькаўшчыну. Ад'язджалі ў грамадзянскую, у трыццатыя гады, ад'язджалі пасля другой сусветнай вайны... Расставанне з роднай зямлёй заўсёды трагедыя: перарываюцца моўныя і сваяцкія сувязі, і, вядома, тыя, аб якіх кажуць «сэрцам адчуваю». Асабліва вялікі наплыў беларускіх эмігрантаў на Захад быў пасля другой сусветнай вайны. Тыя беларусы, якіх занадта абавязковыя саюзнікі не паспелі вярнуць у абдымкі рэпрэсіўнага монстра (рэпатрыіраваць), адплывалі за акіян — у ЗША — у пошуках лепшай долі. Там, больш як 40 год назад на агульным сходзе беларускіх эмігрантаў, у Кліўлендзе быў закладзены аддзел Беларуска-Амерыканскага Задзіночання (БАЗА). Кліўлендская моладзь таксама мела сваю арганізацыю — Згуртаванне Беларускай Моладзі (ЗБМ), — якую ўзначаліў Міхась Белямук. У сваіх успамінах «Пачатак» (№1,2) ён расказвае, як прыплыў на параходзе «Лонгфэлаў» з іншымі землякамі з Нямеччыны ў Нью-Йорк; як сустрэўся з прадстаўнікамі старой эміграцыі, якая «размаўляла паміж сабой прыгожай, чыстай беларускай мовай»; як «спаткаў тых асобаў, што беларусамі сябе называлі, але былі камуністычна настроеныя і папракалі за тое, што я застаўся на Захадзе, не вярнуўся дамоў»...

Вось і айцец Міхась Страпко ўспамінае свой прыезд у Кліўленд у 1950 годзе (№ 1. «Захаваць песню»). Ці трэба казаць, што ў першыя гады беларускай эміграцыі, адарванай ад роднай зямлі, было цяжка. Але, нягледзячы на цяжкасці, беларускай калоніі ўжо праз 10 год (у 1960 г.) удалося пабудаваць на свае сродкі і сваімі рукамі царкву Жыровіцкае Божае Маці, а яшчэ праз год арганізаваць пастарска-рэгенцкія курсы, якія скончыў і айцец М. Страпко. На працягу 10 гадоў а. М. Страпко служыў настаяцелем прыходу царквы Жыровіцкае Божае Маці. Са шчырасцю і павагай перадаў ён у «Полацак» тэкст і ноты песні-малітвы, якую ў пасляваенныя гады спявалі беларусы-эмігранты. Тэкст яе мы вынеслі ў эпіграф дадзенага артыкула.

Аб тым, як у некалькіх мілях ад Кліўленда, у невялікім прыгарадзе Стронгсвіл прыдбалі беларусы прыгожую дзялянку зямлі і стварылі на ёй свой «Полацак» — культурна-грамадзянскі, асветніцкі цэнтр — піша ў сваім артыкуле «Жыві, ідэя паяднання!» Святлана Белая (№ 1). З 1 па 3 верасня 1990 г. тут, на «Полацкай зямлі», адбылася XIX сустрэча беларускіх эмігрантаў, якую можна назваць сусветнай, бо з усяго свету з'ехаліся на яе беларусы: з ЗША, Нямеччыны, Англіі, Францыі, Канады; упершыню — з Беларусі, Літвы, Ленінграда, Беласточчыны. Адкуль бы ні прыехалі ў амерыканскі «Полацак» беларусы, іх яднала адзіная думка пра лёс Бацькаўшчыны, пра тое, што народ наш не можа жыць без культуры, без пэўнага духоўнага асяроддзя.

На XIX сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі яе ўдзельнікамі была прынята рэзалюцыя, некалькі пунктаў з якой трэба прывесці тут:

— Рабіць захады, каб дзяржаўныя і прыватныя сектары заходніх краін аказалі гуманітарную дапамогу пацярпеўшым ад чарнобыльскай радыяцыі на Беларусі, як гэта звычайна робіцца ў выпадках вялікіх катастроф. Імкнуцца адраджаць нацыянальную культуру, хрысціянскую мараль і агульначалавечыя вартасці.

— Звярнуцца з просьбай ад імя беларускіх грамадоў у ЗША і Канадзе да кангрэса ЗША, парламента Канады, каб у Амерыку і Канаду былі прыняты квоты эмігрантаў з ліку жыхароў найбольш заражаных мясцовасцей чарнобыльскай зоны.

— Мы зварочваемся з просьбай да ўладаў Беларускай ССР, каб было спынена накладанне мыта на дазіметры, якія жыхары рэспублікі дастаюць ад сваіх суродзічаў за-за мяжы.

Як бачым, суайчыннікі за мяжой не забылі аб трагічным становішчы нашай шматпакутнай Бацькаўшчыны. Памятаюць. Вераць. Спрабуюць дапамагчы. А што робіцца з намі? Мы нібыта і не на роднай зямлі жывём.

Народ знямеў? Не. Выйшаў жа ён баставаць пасля злашчаснага 2 красавіка. Вось толькі ці не позна выйшаў? Ці не адышоў той дарагі час, калі страты маглі б быць менш значнымі. А калі б не было павышэння цэн, дык што —не выйшлі б, не забаставалі б? Мяркуючы па ўсім, не, не выйшлі б і не забаставалі б. Вось гэта і палохае. Больш за ўсё. Дарэчы, менавіта на гэтую тэму падборка вершаў Яўгена Гучка «Здаровай быць Радзіма можа» (№ 1). Найбольш характэрным вершам з дадзенай падборкі мы і скончым агляд эмігранцкага беларускага часопіса «Полацак»:

**Здаровай быць Радзіма можа,**
**Калі ў ёй магутны Божа**
**Яе дзяцей яднае ўсіх**
**Па ўласнай светлай волі іх.**

**Калі ж не выйдзецца такога,**
**Тады любы служыцель Бога —**
**Хай Адамовіч, хай Скарына —**
**У чужую выгнаны краіну.**

**А дома часам тым і гэтым**
**Гаўляйтаруюць прайдзісветы.**
**Хатынь... Чарнобыль... Курапаты... —**
**То за бязбожжа нам расплата.**

А. КРЫВАНОС.




# Навіны кніжнага гандлю



**У Мінску па вуліцы Прытыцкага адкрыты новы кніжны магазін. Тут упершыню ў рэспубліцы будзе арганізаваны цэнтралізаваны продаж праваслаўнай літаратуры, якую рэгулярна пачне пастаўляць Мінскае епархіяльнае ўпраўленне. Асвяшчэнне новага кніжнага магазіна праводзіў свяшчэннік Мінскага кафедральнага Свята-Духава сабора айцец Ігар, які прысутнічаў на яго адкрыцці.**



**НА ЗДЫМКАХ:**
**● Першыя наведвальнікі магазіна.**
**● Шырокі выбар праваслаўнай літаратуры прапануе пакупнікам новы магазін.**
**Фота У. ВІТЧАНКІ (БЕЛТА).**

# З пакутнага крыжа

М. Кузняцоў

**Маладосць — заўжды бунтарская, інакш яна не маладосць. Моладзь — заўсёды няўрымслівая, іначай гэта не моладзь...**

**Бунтарства і няўрымслівасць, такім чынам, заўсёды ёсць у свеце і ў гэтым — выратаванне чалавецтва. Маладая кроў, што плешча цераз край, абуджае яго, ад спячкі руціннасці, абывацельшчыны, балотнай цішыні. Моладзь празорліва бачыць новы дзень, смела ідзе ў яго, разганяючы цёмную ноч.**

Маладосць заўсёды была, ёсць і будзе рухаючай, дынамічнай сілай грамадства. Маладосць не церпіць спакою. Рух — вось дзе пачатак прагрэсу. Хто не загараўся, у каго не білася прагай дзеяння сэрца ад вечна маладых Купалавых слоў: «Душой я вольны чалавек, і гэткім буду цэлы век!..».

Дык хіба мог быць іншым — у дзяцінстве — Сева, у юнацтве — Усевалад, у сталыя гады—Усевалад Макаравіч Ігнатоўскі, вядомы беларускі гісторык — акадэмік, грамадскі і палітычны дзеяч, чые жыццёвыя гады выспявалі на вольных вятрах трох рэвалюцый, гартаваліся ў віхурах дзвюх войнаў, граніліся ў абстаноўцы сталінскай варожасці і жорсткасці, калі па-маладому ўздымна і натхнёна гучаў коласаўскі заклік: «Устань ты, старонка, родная маці!»

А пачаліся яны 19 красавіка 1881 года ў вёсцы Такары Брэсцкага павета Гродзенскай губерні. Бацька настаўнічаў, пасля стаў свяшчэннікам. Маці займалася хатняй гаспадаркай, атуляла сям'ю клопатам і пяшчотай. Сардэчнасць і цеплыня бацькоўскай хаты, спагада і дабрыня спрыялі духоўнаму станаўленню Усевалада, чулліваму ўспрыняццю рэчаіснасці, дапамагалі разбірацца ў складанасцях жыцця. Пад уплывам бацькі юнак ідзе вучыцца ў царкоўнапрыходскую, затым у сярэднюю духоўную школу, затым працягвае навучанне ў Віленскім духоўным вучылішчы, у духоўнай семінарыі. Пэўна ж, гэта зрабіла прыкметны адбітак на яго погляды, сфарміравала яго першапачатковае ўсведамленне аб грамадстве, суадносінах у ім, жыццёвых каштоўнасцях і недахопах.

Мы дакладна не ведаем прычын, па якіх Усевалад неўзабаве быў выключаны з семінарыі, але, думаецца, не памылімся, калі скажам, што перадумовай гэтага з'явіўся рэвалюцыйны настрой сярод навучэнцаў, якія блізка да сэрца ўспрымалі народныя беды, не хацелі мірыцца з багаццем адных і гаротнасцю другіх членаў грамадства.

Захаваліся звесткі, што навучэнцы семінарыі слушна ставіліся да рэвалюцыйных падзей у краіне, выказвалі свае сімпатыі тагачасным палітычным з'явам. Відаць, Усевалад не стаяў у баку ад гэтых падзей, што і выклікала незадаволенасць кіраўніцтва семінарыі.

Але без пэўных ведаў уліцца ў жыццё грамадства было немагчыма. Усвядоміўшы ўсё гэта, юнак уладкоўваецца ў Магілёўскую семінарыю, дзе не ведаюць пра яго рэвалюцыйныя настроі і спачуванні. У 1902 г. ён заканчвае вучобу, канчаткова зразумеўшы, што набытыя веды — не што іншае, як учарашні багаж, што грамадства сёння заклікаць ўзрушыць новыя сілы, з новым светапоглядам і псіхалогіяй.

Трэба меркаваць, Усеваладу ўдалося пераканаць бацькоў у сваім адметным выбары, бо без іх дапамогі ісці ў далейшае жыццё было цяжка. Атрымаўшы іх благаславенне, юнак становіцца ў 1902 г. студэнтам гісторыка-філалагічнага факультэта Пецярбургскага універсітэта. Паўночная сталіца літаральна ўзяла беларускага хлопца ў палон. Лекцыі вядомых прафесараў, новыя кніжкі, спрэчкі і гутаркі, студэнцкая дружная сям'я з самымі разнастайнымі палітычнымі вартасцямі, афарбоўкамі і прыярытэтамі кружылі галаву, у той жа час узбагачалі ведамі, адкрывалі вочы на тое, што раней не хвалявала і не натхняла.

Усевалад далучаецца да партыі эсэраў з іх народніцкімі поглядамі, што яму было ў той час бліжэй, адпавядала яго, сялянскага, увогуле, хлопца, меркаванням на вырашэнне спрадвечнага пытання пра зямлю.

Пратэст супраць прыгнёту царскага ўрада выспявае. Студэнцтва выходзіць на вуліцы, наладжвае дэманстрацыі. У адной з іх у 1904 г. удзельнічае і Усевалад, за што на два месяцы трапляе за краты. У гэтым жа годзе ўступае ў партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў, эсэраў. Удзел у рабоце партыі пашыраецца. Паліцыя бярэ маладога актывіста на заметку і неўзабаве арыштоўвае за друкаванне і распаўсюджванне лістовак. Студзень 1905 года. Яму пагражае ссылка. Пакуль што недалёкая і непрацяглая — Гродзенская губерня, некалькі месяцаў. І ўсё ж шкада. Даводзілася развітацца з універсітэтам, Пецярбургам, сябрамі. Але ў маладосці жыццёвыя скрухі пераносяцца значна лягчэй, тым больш, калі яны звязаны з тваімі палітычнымі перакананнямі.

Сядзець у ссылцы маркотна, хочацца вырвацца на волю, туды, дзе ідзе на ўсю моц барацьба. Але ў Пецярбург забаронена. Вільня. Гэта амаль побач, рукой падаць. А там — сябры, воля.

Усевалад едзе ў Вільню, уключаецца ў работу мясцовай эсэраўскай арганізацыі, спрабуючы ў той жа час вярнуцца ў Пецярбург для далейшай вучобы. У 1906 г. гэта ўдаецца. Перакананні ў яго цвёрдыя, Усевалад зноў разам з таварышамі, яго дні напоўнены не толькі лекцыямі, але і выкананнем партыйных абавязкаў. На гэты раз паліцыя адразу ж узяла яго пад нагляд і восенню 1907 г. высылае неўтаймаванага эсэра ў Аланецкую губерню, туды, як у той час гаварылі, куды Макар цялят не ганяў. Месцам жыхарства яму вылучылі невялікі гарадок Ладзейнае Поле.

Ад'язджаў Усевалад сумны: недавучыўся, ды зноў у ссылку трапіў. Але на месцы высветлілася, што ў гэтым суровым краі ён не адзін. Адлягло ад сэрца, калі сустрэў аднадумцаў, паплечнікаў па пакутах. З першага дня і вока, і сэрца прыцягнула красуня і весялуха Марыя, Маша Арэф'ева, таксама змушаная паліцыяй гібець у Ладзейным Полі.

Так, па наканаванню лёсу ссылка дапамагла сустрэцца двум маладым людзям, якія пакахалі адзін аднаго і пакляліся быць разам да скону...

Удваіх пачалі абдумваць сваё далейшае жыццё-быццё. Усевалад марыў працягваць вучобу. Паспрабаваць яшчэ раз. Здзейсніць намер было няпроста. Патрабавалася пасведчанне аб палітычнай лаяльнасці. Такі дакумент дапамаглі выправіць таварышы, ён і адкрыў у 1908 г. для яго дзверы Юр'еўскага, сёння Тартускага, універсітэта.

Атрыманы ў 1911 г. дыплом даваў магчымасць добра ўладкавацца на працу і ўтрымліваць сям'ю. Цяпер іх было трое: іх першынец, названы Мішам, нарадзіўся 4 ліпеня 1909 г. І, так бы мовіць, быў напамінкам іх светлага кахання і духоўнай еднасці. Пасля заканчэння вучобы вырашылі асесці ў Вільні, так хацелася Усеваладу Макаравічу: «Усё ж, не чужая старана!»

З 1911 г. ён пачаў працаваць выкладчыкам у прыватнай гімназіі Вінаградавай. Тут абжыліся пасля блуканняў па пакутах, акрыялі душой. У 1912 г. у іх нарадзіўся сын Юрый, а ў 1914 г.—яшчэ адзін сын, названы Валянцінам.

Выкладчыцкія справы ў гімназіі ішлі добра. І абумоўлівалася гэта, несумненна, шырокім кругаглядам выкладчыка-гісторыка, які не абмяжоўваўся зацверджанай праграмай, цікавіўся творчасцю В. В. Ключэўскага, С. М. Салаўёва, праблемамі развіцця ўзаемаадносін Украіны і Беларусі ў творах А. С. Лапно-Данілеўскага, М. К. Любаўскага.

Гэта станоўча адбівалася на выкладанні прадмета, абуджала ўласную думку, закладваючы перадумовы для будучай навуковай працы. Інстытут, які ўвогуле з'яўляўся сярэдняй навучальнай установай і рыхтаваў народных настаўнікаў, стаў для Ігнатоўскага, можна без перабольшвання сказаць, першай, але надзвычай важнай прыступкай на шляху асэнсавання і паглыбленага даследавання гісторыі Беларусі.

Калегі небеспадстаўна былі высокай думкі аб яго педагагічных і літаратурных здольнасцях, уменні «облекать мысли в прочувствованные слова». І, вядома, як гэта звычайна здараецца, яго і вылучылі ў сакавіку 1913 г. ад гімназіі ў састаў камісіі па падрыхтоўцы зборніка, прысвечанага святкаванню ў Віленскай вучэбнай акрузе 21 лютага 1913 г.

300-годдзе Дома Раманавых. Камісія складалася з 17 прадстаўнікоў гарадской адміністрацыі, духоўных асоб, выкладчыкаў сярэдніх навучальных устаноў Вільні. Адмовіцца ад удзелу ў ёй не было аніякай мажлівасці — выданне зборніка знаходзілася пад строгім наглядам губернатара, папячыцеля Віленскай навучальнай акругі, які дзейнічаў па загаду самога міністра народнай асветы.

Усевалад Макаравіч разумеў, вядома, што трапіў у пікантнае становішча. Ён, сацыяліст-рэвалюцыянер, складае нейкі сумніцельны панегірык усерасійскаму самадзержцу, трон якога раскачваў па меры сіл сваіх... Але пасля пэўнае развагі і гутаркі з жонкаю Марыяй Севасцьянаўнай Ігнатоўскі прыйшоў да высновы, што ягоная рэвалюцыйная нявіннасць не пацерпіць страты, калі ён увойдзе ў камісію.

Камісія адабрала найбольш цікавыя апісанні ўрачыстасцей сярэдніх устаноў Вільні і Віленскай акругі, салодка-прытарныя прамовы выкладчыкаў, недаспелыя вучнёўскія вершы і выдала ў 1913 г. зборнік «1613—1913. Юбилейные торжества в Виленском округе», які быў падобны на сотні іншых грувасцкіх казённых выданняў тых далёкіх гадоў, прасякнутых алілуйшчынай у адрас царуючага дома, суб'ектыўнымі падыходамі да гісторыі. Лібералізмам, міязмамі якога была напоўнена тагачасная інтэлігенцыя, у зборніку, вядома, і не пахла, бо лібералізм ніколі не ішоў далей дазволенага і таму цярпліва прымаўся самадзяржаўем. Трэба думаць, і грамадска-палітычныя погляды У. М. Ігнатоўскага ў гэты час не выходзілі з ліберальна-крытычных рамак.

Ён не прыцягнуў бы нашае ўвагі, каб у саставе камісіі, пералічаным у пачатку зборніка, не было прозвішча Ігнатоўскага. Гэта ж нагода прымушала яго пагартаць, паразважаць, вярнуцца думкамі ў далёкую мінуўшчыну.

Можна было б і не ўдзяляць такой увагі таму зборніку, каб асобныя нашы сучаснікі не ўбачылі ва ўдзеле Усевалада Макаравіча ў яго выданні страшэннай крамолы, расцаніўшы гэты звычайны факт як «верноподданничество», несумяшчальнае з сапраўднай рэвалюцыйнасцю. Дзіва, ды й толькі... У такім разе, як «не паўшчуваць» нам Пушкіна, што стаў камер-юнкерам царскага двара? Як «не абурыцца» тым, што Дзяржавін, Ламаносаў, іншыя вялікія складалі оды ў гонар імператараў? Якім кляймом пазначыць тых, хто наогул знаходзіўся на царскай службе, так сказаць, стаяў ля падножжа трона?

Ці не з такой бязглуздзіцы і лухты пачынаецца паляванне на «ведзьмаў»?

Пры жыцці Ігнатоўскага такіх пытанняў не ўзнікла, хоць амаль кожны абвострана крытычна ўспрымаў рэчаіснасць, кожны быў вальтэр'янец і «рэвалюцыонэр», усе служылі Айчыне і бацюхну-цару, рабілі працу свайго жыцця. І здаралася, што іх узнагароджвалі, давалі новыя пасады і чыны — звычайная справа бюракратычнай сістэмы. Праўда, павышэнні і ўзнагароды былі рознымі. Як у той прымаўцы: каму абаранак, а каму і дзірка ад абаранка. Нешта падобнае было і з Ігнатоўскім...

Першая сусветная вайна, што пачалася ў чэрвені 1914 г., прымусіла Усевалада Макаравіча пакінуць з сям'ёю Вільню і пераехаць у Мінск. Неяк уладкаваліся, хоць адчувалі сябе няўпэўнена. Але, прыцярпеўшыся, жылі. Усевалада Макаравіча прызначылі выкладчыкам Мінскага настаўніцкага інстытута. І, відаць, каб трохі падахвоціць, узнагародзілі, бадай што, адным з самых апошніх па значнасці ордэнам Святога Станіслава III ступені.

Некаторых сучасных нядобразычліўцаў Ігнатоўскага з гэтай нагоды аж у дрыжыкі кідае, во што зайздрасць з людзьмі робіць. А ардэнок той быў, ну самы нікчэмны... Зацверджаны ў Польшчы яшчэ ў 1705 г. ордэн стаў з 1831 г. расійскім і з'яўляўся, паводле даных аб рангу ордэнаў, адной з самых нязначных узнагарод, якія толькі прысуджаліся за дзяржаўную службу.

У кнізе **«Первые русские социалисты». Воспоминания участников кружков петрашевцев в Петербурге». (Л., 1984)** чытаем пра разважанні чыноўніка, які ганіць свайго калегу і ўзвышае сябе, маўляў, я — член следчай камісіі, добранадзейны, заслугоўваю 25 рублёў узнагароды ці, у рэшце рэшт, Анны трэцяй ступені, ці хоць бы ўжо Станіслава.

Кпяць нядобрай славы ліхвяры Ігнатоўскага і за пасаду старшыні педагагічнага савета інстытута, і за тое, што атрымаў чын калежскага асэсара...

Так, сапраўды, было такое. 22 лістапада 1916 г. старшы саветнік **Д. М. Даўгяла прадставіў** Усевалада Макаравіча да гэтага чына, даўшы аб'ектыўную характарыстыку выкладчыку, які «к своим обязанностям относится с полным усердием, в чем-либо предосудительном не замечен...».

Паводле «Табеля аб рангах», чын калежскага асэсара адносіўся да восьмага класа і, пачынаючы з 1856 г., даваў права на ўласнае дваранства. Што ж, звычайная з'ява па тым часе. Нашым жа асобным, асабліва «пільным» навукоўцам гэта здалося неверагодным: эсэр, быў у ссылцы, знаходзіўся на відавоку жандармаў і потым атрымлівае чын і асабістае дваранства. Як тут не падумаць прыдзірліва падазроным пра нячысціка... Маўляў, ці не было тут жандарскае спагады за пэўныя «паслугі...». Доказаў няма? Ці ж гэта бяда? Затое ёсць цень, ёсць пляма... Мне здаецца, менавіта так «шыліся» справы, выкрываліся «ворагі народа», лілася бязвінная кроў...

А чаму б не дапусціць «заступнікам» чужой маральнасці, што маладое франдзёрства і сталы лібералізм, якім нярэдка «гарэлі» і царственныя асобы ў свае гады, успрымаліся грамадствам як не надта ўжо вялікі грэх, ці грэх, які даруецца.

Упэўнены, для такога меркавання ёсць усе падставы, інакш жандарам давялося б перасаджаць па турмах значную частку Расіі...

А яшчэ б я параіў шукальнікам «чорнае кошкі» ў цёмным пакоі, дзе яе няма, задумацца, што гэта за паслугі жандарскаму ўпраўленню, за якія даецца толькі асабістае дваранства, што не перадаецца ў спадчыну. І ці былі яны? Разважанне падказвае—не.

Можа нехта лічыць несумяшчальным чын асэсара з чысцінёй рэвалюцыянера, таму сверб бярэ? Дык як нам ставіцца тады да царскіх генералаў, дыпламатаў, юрыстаў, якія ў той жа час былі бальшавікамі...

Кінем дробязнае, ганьбуючае нас капанне, хцівыя выдумкі і падазрэнні, узнімем сапраўдныя пласты жыцця Усевалада Макаравіча.

Між тым фронт наблізіўся да Мінска. Разам з інстытутам Ігнатоўскі эвакуіруецца ў Яраслаўль. У горадзе на Волзе, аказалася, нямала беларусаў, якія пільна сочаць за грамадскімі падзеямі, асэнсоўваюць праграмныя дакументы партый па нацыянальнаму пытанню: найбольш цікавіць, як яны ставяцца да пытанняў самаўладкавання нацый, далейшага эканамічнага і культурнага развіцця. Пытанні адраджэння роднай беларускай спадчыны на гэтай усеагульнай хвалі ставяцца ў інстытуце, дзе ўсе скрозь выкладчыкі-беларусы. У асяроддзі інстытута і нараджаецца культурна-асветніцкае таварыства «Наш край», увабраўшае ў сябе абвостраную скруху і тугу па родных мясцінах, апынуўшыхся пад германцам, і надзею на хуткія перамены. У лютым 1917 г. яны спраўдзіліся — грымнула рэвалюцыя. Яна з'явілася каталізатарам аб'яднання «яраслаўскіх» беларусаў культурна - асветніцкага таварыства «Наш край» у арганізацыю «Маладая Беларусь» з арыентацыяй на Беларускую сацыялістычную грамаду, у кіраўніцтва якой уваходзілі У. М. Ігнатоўскі, М. Кудзелька (Міхась Чарот), С. Г. Булат, іншыя беларусы.

У той жа час У. М. Ігнатоўскі падзяляе пэўныя праграмныя ўстаноўкі правых, а крыху пазней — левых эсэраў. Восенню 1917 г. ён нават уступіў у партыю левых эсэраў.

У гэтым нічога заганнага няма. У паводцы Лютаўскай рэвалюцыі, што шырока разлілася па ўсёй Расіі, разабрацца ў палітычных адценнях было няпроста, ды ніхто асабліва і не падзяляў па колерах.

**(Працяг будзе).**

## Тэлебачанне

### 25, СУБОТА

**Праграма Беларускага тэлебачання**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** «Усе супраць аднаго». Мастацкі фільм. 1-я серыя.
**9.55.** «Георге Мусця. Адкрыцці». Фільм-канцэрт.
**10.35.** «Ход канём». Міжнародны дзіцячы шахматны турнір у Мінску.
**11.00.** Тыдзень планеты.
**11.15.** Вучымся бізнесу. Вопыт станаўлення рыначных інфраструктур.
**11.55.** Дак. фільм «Падводны пошук».
**12.05.** «Хочаце — верце, хочаце — не!» Вяшчунка Клара. Прадстаўляе Карэльскае тэлебачанне.
**13.00.** Р. Фрыд. Монаопера «Пісьмы Ван Гога».
**14.25.** Імя, выкрасленае з энцыклапедыі. Аляксандра Ізмайловіч.
**15.05.** Тэлевізійны дзіцячы дзень і Літаратурныя сустрэчы. Пісьменнік П. Місько ў вучняў СШ № 156 г. Мінска. 2. Вітаем вас! Выступленне ўдзельнікаў заключнага канцэрта Рэспубліканскага агляду самадзейнасці школ-інтэрнатаў.
**16.30.** Я і мы. Мастацка-публіцыстычная праграма.
**17.30.** «Каменная кветка». Мультфільм.
**18.00.** Адраджэнне. Культурна-асветная праграма.
**19.00.** Панарама.
**19.30.** Тэлевізійны дзіцячы дзень. 1. Студыя лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР І. Я. Міско. 2. Спявае хор «Кантылена».
**20.45.** Калыханка.
**21.05** У час выпрабаванняў. Арэнднае прадпрыемства «Беларусьгуматэхніка» (г. Бабруйск).
**21.45.** На сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

**Першая агульнасаюзная праграма**

**6.30.** Дак. фільмы «Каслі», «У Макса ў Кактэбелі».
**7.00.** «Царэўна-жаба». Мультфільм.
**7.30.** Рытмічная гімнастыка.
**8.00.** ТСН.
**8.15.** Дак. фільм «На зямлі Бібліі» (Венгерскае тэлебачанне).
**8.50.** Ранішняя забаўляльная праграма.
**9.20.** Наш сад.
**9.50.** Ранішняя зорка.
**10.50.** А. М. Астроўскі. «Жаніцьба Бялугіна». Фільм-спектакль тэатра імя К. С. Станіслаўскага.
**13.30.** «Бурда модэн» прапануе...
**14.00.** «Вобраз». Літаратурная перадача для старшакласнікаў.
**15.00.** ТСН.
**15.15.** Палітычныя дыялогі. «Хто ёсць хто».
**16.30.** «Каралеўства Крывых Люстэркаў».
**18.00.** Міжнародная панарама.
**18.45.** «Наследніца «пярэваратняў». 1-я і 2-я серыі.
**21.00.** Час.
**21.45.** «Шчаслівы выпадак». Сямейная тэлевіктарына.
**22.45.** «Не люба — не слухай». Гумарыстычна-забаўляльная праграма.
**23.45.** Прэзентацыя новай пласцінкі А. Сярова на музыку І. Крутога «Ты мяне кахаеш».
**0.45.** ТСН.

**Другая агульнасаюзная праграма**

**8.00.** Ранішняя гімнастыка.
**8.20.** Мультфільмы «Ішоў трамвай дзесяты нумар», «Тры мядзведзі».
**8.45.** Руская мова.
**9.15.** Фільмы рэжысёра М. Сяркова. «Дзе знайсці нявесту». «Першы рух душы», «Горкая рабіна», «Восень. Празрыстая раніца».
**10.30.** Відэаканал «Садружнасць» прадстаўляе: Дзень тэлебачання Грузіі; Сацыяльна-грамадскія, эканамічныя і палітычныя праблемы ў матэрыялах з Малдовы, Кіргізіі, Казахстана і Эстоніі.

**Праграма тэлебачання Расіі**

**11.30.** Відэаканал «Плюс адзінаццаць».
**13.15.** Весткі.
**13.30.** Відэаканал «Садружнасць».
**15.00.** «Дапамажы сабе сам». Аб іплікатарах Кузняцова.
**15.45.** «У гасцях у гномаў». Мультфільм.
**16.00.** «ТБ аб ЦіВі».

**Праграма тэлебачання Расіі**

**17.00.** Дзённік з'езда.
**17.15.** «Місіс СССР — місіс Амерыка». Конкурс.
**18.45.** Дзіцячы сад.
**19.00.** Валейбол. Першынство сусветнай лігі. Зборная СССР — зборная Італіі.
**20.00.** Весткі.
**20.15.** Добрай ночы, малышы!
**20.30.** П. І. Чайкоўскі. Рамансы.
**21.00.** Час (з сурдаперакладам).

**Праграма тэлебачання Расіі**

**21.45.** На IV З'ездзе народных дэпутатаў РСФСР. У перапынку (23.00) — Весткі.
**23.45.** «Выпадак з газетнай практыкі». Мастацкі фільм.

### 26, НЯДЗЕЛЯ

**Праграма Беларускага тэлебачання**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** «Усе супраць аднаго». Мастацкі фільм. 2-я серыя.
**9.50.** «Карнавал у Венецыі». Тэлефільм.
**10.05.** «Будзьце здаровымі». Фізкультурна - аздараўленчая праграма.
**11.00.** Футбол. «Днепр» (Магілёў) — КІМ (Віцебск).
**11.50.** Запрашальны білет. Выступленне ўзорнага ансамбля танца «Рытмы дзяцінства» г. Роўна.
**12.50.** Час пісьма.
**13.50.** Лабірынт. Праграма для тых, хто выбірае прафесію.
**14.50.** «На сонца вяслую...» Да 80-годдзя паэта В. Віткі.
**16.00.** Гандбол. СКА (Мінск)—ЦСКА.
**17.20.** «Прыгоды маленькіх сяброў». Мультфільм.
**17.40.** Дак. фільм «А дзе мне ўзяць такую песню...»
**18.00.** Грамадская думка. Праблемы развіцця аэрафлоту рэспублікі. Прымае ўдзел начальнік Беларускага ўпраўлення грамадзянскай авіяцыі Р. К. Фёдараў. Прамая лінія.
**19.00.** Панарама.
**19.30.** «А гармонік грае, грае...» Фестываль народных музыкаў Мінскай вобласці.
**20.05.** Мультфільмы для дарослых «Шчаслівчык», «Парк культуры», «Як Ваня жонку выбіраў».
**20.45.** Калыханка.
**21.00.** «Загадка рукі», «Фізікі ў зялёным лабірынце». Навукова-папулярныя фільмы.
**21.40.** Кантакт. Інфармацыя. Рэклама.
**21.55.** Крок.

## Дзяўчына тыдня



Фота. В. Хрыстафорава.

## Кінаафіша

### «РАБЫ САБАКА, ЯКІ БЯЖЫЦЬ КРАЕМ МОРА»

Творчасць Чынгіза Айтматава добра вядома ўсім. Яго называюць адным з самых чытаемых пісьменнікаў сучаснасці, і таму можна спадзявацца, што новая каляровая двухсерыйная мастацкая кінастужка «Рабы сабака, які бяжыць краем мора», знятая па аднайменнай аповесці, выкліча глядацкі інтарэс. Фільм-прытча прысвечаны жыццю, быту, традыцыям маленькага паўночнага народа ніўхаў, чые характар і волю загартавала суровая прырода Сахаліна.

Карціна створана кінематаграфістамі Кіеўскай кінастудыі імя А. П. Даўжэнкі пры ўдзеле фірм «Альянс фільмапрадукцыён» і «Рэгіна Цыглер фільмапрадукцыён» (Заходні Берлін), «ЦДФ» (ФРГ).

Для рэжысёра Карэна Геваркяна гэта другая работа ў ігравым кіно — у 1987 годзе ён паставіў фільм «Ведаю толькі я».

У адной з галоўных роляў (Эмрайн) — Дасхан Жалжаксынаў, знаёмы гледачам па карцінах «Нашчадак Белага Барса» (Мундузбай), «Чалавечы фактар» (следчы Ніязаў).



### «САКРЭТНЫ УКАЗ ІМПЕРАТАРА»

Таямнічае XVII стагоддзе — час дзеяння гэтай новай каляровай кітайскай мастацкай кінастужкі: у дарогу, поўную небяспечных пастак і нечаканасцей, адпраўляецца сын скінутага імператара, які атрымаў ад бацькі сакрэтнае заданне.

Вось ён ужо ў Нанкіне, але і тут яго чакае здрада. Намеснік імператара ў гэтым горадзе, забыўшы аб вернасці манарху, сам марыць аб прастоле. Для гэтага ён ідзе на змову з маньчжурскай імператрыцай і да апошніх сваіх мінут не разумее, што ён толькі марыянетка ў яе руках, зброя для знішчэння нашчадка дынастыі Ман. Позна ўцямлівае і прынц, які давяраўся Мечанаму. І гэта каштуе яму дорага: у апошняй сутычцы з памагатымі Мечанага ён страчвае самага лепшага і блізкага сябра — Ван Чжыміна.

Аўтар сцэнарыя — Му Шэн, рэжысёр — Яо Шаукан.

### «ПЕРШАПРАХОДЦЫ ПУСТЫНІ»

Так называецца новая каляровая мастацкая кінастужка, створаная сумесна кінематаграфістамі Туніса і Францыі. Пастаноўку карціны па свайму сцэнарыю ажыццявіў рэжысёр Насер Хемір.

Сэнс фільма-прытчы варта шукаць у складаным сімвалічным адлюстраванні пустыні — таямнічай часткі зямлі, дзе людзі жывуць па сваіх, часам загадкавых для іншых законах. Гэта работа ўдастоена Спецыяльнага прыза журы Карфагенскага кінаагляду, «Гран-пры» фестывалю ў Нанце, «Залатой пальмавай галінкі» і прыза ФІПРЭСІ на кінафоруме ў Валенсіі.

### «ПЕРАКЛЮЧАЮЧЫ КАНАЛЫ»

Багатая шматлікімі камічнымі паваротамі каляровая амерыканская мастацкая кінастужка «Пераключаючы каналы» знята рэжысёрам Тэдам Котчэфам па сцэнарыю Джанатана Рэйнальдса.

...Рэжысёр Саліван развёўся з тэлежурналісткай Крысці, якая збіраецца кінуць работу і паехаць да свайго новага закаханага.

Аднак у час іх апошняй сустрэчы Саліван разумее, што без Крысці не змогуць абысціся ні тэлебачанне, ні ён сам. Што толькі не прыдумвае Саліван, каб утрымаць Крысці. І вось былой жонцы прапануецца зняць рэпартаж, які можа выратаваць жыццё чалавеку, прыгаворанаму да смяротнага пакарання. Прафесіянальнае самалюбства не дазваляе Крысці адмовіцца ад такой заманлівай прапановы...

Наступныя неверагодныя падзеі дапамагаюць Крысці зразумець, што і ў яе жыцці галоўнае — гэта яе работа і, вядома ж, Саліван.

НА ЗДЫМКАХ: кадры з фільмаў «Рабы сабака, які бяжыць краем мора», «Пераключаючы каналы».



*Тыдзень парламента*

# Не трэба падганяць гісторыю

Гадавіну свайго існавання цяперашні Вярхоўны Савет БССР сустрэў у вельмі неспрыяльных умовах. Паглыбляецца крызіс у эканоміцы, разбалансаваны бюджэт рэспублікі, дэфіцыт якога зараз складае 4 мільярды рублёў, працягваецца зніжэнне ўзроўню жыцця насельніцтва, расце сацыяльная напружанасць у грамадстве, пікам якой сталі красавіцкія забастоўкі рабочых. У самім парламенце да палітычнай згоды гэтак жа далёка, як да лепшых часоў увогуле.

Першы і другі дні работы чацвёртай сесіі паказалі, што розныя палітычныя плыні прытрымліваюцца супрацьлеглых пунктаў погляду на шляхі выйсця са становішча. Менавіта таму доўгімі і вострымі былі дэбаты вакол парадку дня. Большасць дэпутатаў не падтрымала канцэпцыю апазіцыі, якая прапаноўвала асноўную ўвагу скіраваць на палітычныя пытанні. У выніку па-за работай чацвёртай сесіі засталіся такія пункты, вылучаныя апазіцыяй: аб наданні дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР статуса канстытуцыйнага закона, аб праекце закона аб выбарах народных дэпутатаў БССР, аб фарміраванні кааліцыйнага ўрада народнага даверу, аб асноўных прынцыпах раздзяржаўлівання ўласнасці ў БССР і інш. Нягледзячы на, здавалася б, непахіснае жаданне большасці не пашыраць і без таго груваскі парадак дня ніводным дадатковым пытаннем, адно з іх усё ж удалося працягнуць камісіі па справах моладзі. І магчыма неўзабаве рэспубліка будзе мець закон «Аб дзяржаўнай маладзёжнай палітыцы ў Беларускай ССР».

Напружанасць у зале амаль дасягнула мяжы, калі, ужо ў які раз Сяргей Антончык заклікаў дэпутатаў выслухаць прадстаўнікоў стачачных камітэтаў. Згода не была дадзена. Аргументацыя такая: «Хопіць палітычных амбіцый», «Нельга ператвараць парламент у мітынг», «Час засяродзіцца на важнейшых дзяржаўных пытаннях, ад якіх залежыць жыццё рэспублікі». Галоўным з такіх пытанняў, відавочна, стане абмеркаванне і прыняцце Дзяржаўнай праграмы Беларускай ССР па стабілізацыі эканомікі і сацыяльнай абароне насельніцтва, з якой выступіў Старшыня Савета Міністраў БССР В. Ф. Кебіч. Яе аналіз працягваўся ў пастаянных камісіях, а сёння дэпутаты на пленарным пасяджэнні зноў адкрыюць дэбаты наводле важнейшага дакумента чацвёртай сесіі.

Парламенцкі тыдзень быў насычаны вострымі момантамі, крытычнымі сітуацыямі, да якіх кожны з парламентарыяў ставіўся па-свойму. Мы папрасілі аднаго з іх, старшыню камісіі па пытаннях працы, цэн, занятасці і сацыяльнай абароненасці насельніцтва А. В. Саснова пракаменціраваць падзеі, якія выклікалі найбольш моцную рэакцыю залы.

**— Аляксандр Віктаравіч, як на Вашу думку, ці трэба было дэпутатам выслухаць прадстаўнікоў стачкомаў?**

— Я б не стаў хавацца за нейкія фармальныя прычыны, каб не выслухаць прадстаўнікоў рабочых. Гэта б забрала не так шмат часу, але, магчыма, дапамагло б зняць напружанасць. Гавораць, што яна існуе толькі ў Мінску. Магчыма. Але ж тут таксама людзі. Хаця, можа, не заўсёды і не зусім яны разумеюць свае патрабаванні да канца. Я асабіста сутыкаўся з гэтым, калі бываў на прадпрыемствах. На рабочых месцах размова, напрыклад, ішла толькі аб цэнах. Калі ж вядзеш гутарку са стачкомам завода, у наяўнасці і цэны і палітыка. Выходзіш на ўзровень горада — толькі палітыка. Я думаю, трэба было б праявіць увагу і ўнікнуць у сутнасць патрабаванняў.

**— Як Вы ставіцеся да такіх патрабаванняў стачкомаў, як адстаўка ўрада, перавыбары існуючага Вярхоўнага Савета?**

— Я ўвогуле прыхільнік канстытуцыйнага рашэння ўсіх праблем. Мы прывыклі да думкі, што калі аднаго кіраўніка замяніць на другога, то справы адразу палепшацца. Гэта малаверагодна. Канстытуцыйны ж працэс працяглы. Прыклад таму — краіны, якія не пайшлі ў 1917 годзе за бальшавікамі, а працягвалі павольна, канстытуцыйным шляхам удасканальваць свае адносіны ў грамадстве: сацыяльныя, эканамічныя, палітычныя. Яны зараз жывуць нармальна.

Не трэба забягаць наперад. Калі пайсці на повадзе ў стачкомаў і распусціць Вярхоўны Савет, прыняўшы закон аб выбарах, які прапануе апазіцыя, правесці новыя выбары, то, я думаю, мы можам атрымаць яшчэ больш кансерватыўны парламент. Хаця я не магу сказаць, што поўнасцю задаволены цяперашнім складам Вярхоўнага Савета, аднак ён больш прагрэсіўны, чым ранейшы. А калі так, значыць прагрэс ёсць і не трэба падганяць гісторыю, бо яна мае ўласцівасць даваць выспятка тым, хто спяшаецца...

**— Якія Вашы агульныя ўражанні ад прапанаванай дэпутатам Дзяржаўнай праграмы па стабілізацыі эканомікі і сацыяльнай абароне насельніцтва? Ці ўпэўнены, што яна дапаможа нам скрануцца з мёртвай кропкі?**

— Пэўную ацэнку пакуль даць не магу, праграма будзе прапрацоўвацца ў камісіях. У цэлым жа яна працягвае, развівае асноўныя палажэнні восеньскай праграмы пераходу да рынку. Дэкларыруе асобныя элементы больш сур'ёзнага ўмяшання выканаўчай улады ў работу. Але ў мяне ўсё ж ёсць пэўныя сумненні. Думаю, што некаторых мер адміністрацыйнага ціску можна было б пазбегнуць. Напрыклад, не падабаецца палажэнне, згодна з якім будуць правярацца дагаворныя цэны на прадмет іх мэтазгоднасці. Умяшанне мае на мэце санкцыі: адабранне прыбытку, атрыманага ад рэалізацыі тавараў. Тут зноў пэўны дыктат. Калі ж гэта толькі на перыяд выхаду з крызісу, то трэба дакладна агаварыць тэрміны.

Тым не менш, на маю думку, праграма дае шанц. Непакоіць другое: яе трэба выконваць. Калі ўзяць восеньскую праграму, то многае не пачыналі рабіць, хаця і тэрміны былі вызначаны. Тут многае ўпіраецца ў саюзны дагавор. Нявырашанасць гэтага пытання дастаўляе шмат праблем.

Чарговая сесія Вярхоўнага Савета не абяцае быць хуткай. Больш за трыццаць пытанняў у парадку дня. Можна сказаць з упэўненасцю, што па многіх з іх са скрыпам будзе дасягнута згода, па некаторых і яна пад сумненнем. Праз якія рыфы яшчэ прыйдзецца прайсці парламенцкаму караблю, прадбачыць цяжка. Але як ні круці, без палітычнай згоды спрыяльных умоў для руху чакаць не выпадае. У чарговы раз хочацца пажадаць дэпутатам разважлівасці і мудрасці, бо гісторыю і сапраўды не трэба падганяць.

**В. ШАЎКО.**
Фота **С. Брушко.**





## Тэлетайп

### Што не падзялілі?

**ПАДЗЕІ НА БЕЛАРУСКА-ЛІТОЎСКАЙ ГРАНІЦЫ**

Тут не сціхае хваля канфліктаў. 18 мая 1991 года на кантрольна-прапускным пункце паміж Шальчынінкайскім і Воранаўскім раёнамі супрацоўнік дэпартамента па ахове краю Літвы А. Стасайціс забіў капітана міліцыі з Воранаўскага РАУС А. Фіяся. Наступнай ноччу на граніцы з Іўеўскім раёнам знойдзены труп аднаго з супрацоўнікаў аховы краю Літвы Г. Жабунаса, а праз паўтара сутак невядомымі асобамі на дарозе Вільнюс—Ліда падпалены два вагончыкі літоўскага мытнага паста і дэпартамента па ахове краю. Прэм'ер-міністр Літвы Г. Вагнорус вядзе актыўны дыялог з В. Кебічам. У іх тэлефоннай размове была падкрэслена рашучасць зрабіць усё магчымае, каб спыніць эскалацыю канфлікту. Атрымана паведамленне, што арыштаваны А. Стасайціс, а ў Ашмянах затрыманы тры чалавекі, якіх падазраюць у забойстве супрацоўніка літоўскай службы па ахове граніцы.

***

На гэтым тыдні ў рэдакцыю «Чырвонай змены» завітала кіраўнік турысцкай групы з Ерэвана Э. В. Аруцюнян. Яе меркаванні, меркаванні чалавека, які значна бліжэй да тамтэйшых праблем, чым мы, чытайце ў наступным выпуску «Факта».

***

Паводле паведамленняў нашых уласных карэспандэнтаў, у Беларусі пакуль што даволі ціха. Вобласці прыслалі ў Мінск сваіх прадстаўнікоў, а таксама прадстаўнікоў працоўных калектываў, каб выказаць Вярхоўнаму Савету свае меркаванні і прэтэнзіі да яго дзейнасці.

21 мая на плошчы Леніна сабралася больш як сто чалавек — прадстаўнікі салігорскіх шахцёраў, магілёўскія аўтазаводчане, мінскія трактарабудаўнікі. Увесь час адбываліся самыя розныя палітычныя акцыі — пікеты, стыхійныя мітынгі, вёўся збор подпісаў пад зваротамі. Адбылася нават галадоўка — Ларыса Перцава, былы галоўны бухгалтар мінскай гарадской калегіі адвакатаў, такім чынам ужо ў каторы раз дабіваецца аднаўлення на былым месцы работы.

### Цэнтру Скарыны—жыць!

Здаецца, мы патроху выкараскваемся з нашай духоўнай нацыянальнай беднасці. Менавіта такое меркаванне вынікае з аднае падзеі апошняга часу. У рэспубліцы ствараецца нацыянальны навукова-асветніцкі культурны цэнтр імя Францыска Скарыны. Ужо прынята і ўрадавая пастанова. Ужо працуе і часовы камітэт па стварэнню скарынаўскага цэнтра. На чале шматграннай, шматпланавай дзейнасці яго стаіць вядомы грамадскасці рэспублікі, навуковаму савету краіны, замежных дзяржаў доктар філалагічных навук Адам Іосіфавіч Мальдзіс.

Аб клопатах будучага цэнтра і ішла гаворка на адным з пасяджэнняў супрацоўнікаў часовага камітэта.

— Мне бачыцца, што цэнтр наш убярэ ў сябе, прадоўжыць традыцыі 20-х гадоў, традыцыі Інбелкульта, — зазначыў у сваім выступленні А. І. Мальдзіс.

Калі ўгледзецца ў кагорту людзей, якія прыйшлі ўжо на працу ў цэнтр, то няма ніякіх сумненняў: ствараецца калектыў клапатлівых аднадумцаў, што рупяцца аб беларускай культуры. Пытанні гісторыі беларускай культуры будуць весці вядомыя філосафы І. Конан, А. Бембель. Культуралогія — прадмет зацікаўленняў маладога навукоўца, празаіка Ігара Бабкова. Шмат што чалавеку цікаўнаму могуць сказаць ужо самі імёны Захара Шыбекі, Генадзя Кахаsucceed ўскага, Аляксандра Лозкі, Сяргея Шупы, Вячаслава Рагойшы...

Шмат работы ў будучага цэнтра. Вучоныя мяркуюць, што скарынаўскі цэнтр стане галоўным акумулятарам, галоўнай энергазабяспечваючай крыніцай у справе зберажэння, захавання і шырокай прапаганды ўсяго беларускага.

**К. СМЕЯНОВІЧ.**

### Загучала

**ЛІТОЎСКАЕ РАДЫЁ НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ**

Нягледзячы на тое, што будынак літоўскага радыё і тэлебачання да гэтага часу заняты вайскоўцамі, яно знайшло магчымасць транслíраваць перадачы на беларускай мове. З 25-га сакавіка 1991 года па першай праграме літоўскага радыё на частотах: 666 кГц (450,5 метра) і 1557 кГц (192,7 метра) у дыяпазоне сярэдніх хваль, адразу пасля навін на літоўскай мове, каля 22.20 кожны дзень трансліруюцца інфармацыйныя перадачы на беларускай мове.

А з 6-га красавіка па другой праграме літоўскага радыё на частаце 1107 кГц (271 метр) у дыяпазоне сярэдніх хваль перадачы на беларускай мове зноў можна слухаць кожную другую і чацвёртую суботу месяца ў 11.30 (час усюды маскоўскі).

Арунас **СІЛІЦКАС**, г. Вільнюс.

### Свята ў Ялце

**З Ялтай, з гасціннай крымскай зямлёй, развіталіся ўдзельнікі Дзён беларускай культуры, што праходзілі тут. Яны сталі пачаткам урачыстасцей, прысвечаных 100-годдзю з дня нараджэння класіка нацыянальнай культуры Беларусі Максіма Багдановіча. Паэт некалькі разоў прыязджаў у Ялту. Тут правёў ён апошнія месяцы свайго кароткага, як імгненне, жыцця і на гэтай зямлі знайшоў апошні прытулак. З Чарнаморскага ўзбярэжжа свята пяройдзе ў Мінск, тут у бліжэйшыя дні адкрыецца Міжнародны сімпозіум беларусістаў, таксама прысвечаны аб'яўленаму ЮНЕСКО Году Багдановіча.**

## Беларуская ордэна Дружбы народаў Дзяржаўная кансерваторыя імя А. В. ЛУНАЧАРСКАГА

**АБ'ЯУЛЯЕ ПРЫЁМ СТУДЭНТАЎ У 1991 ГОДЗЕ НА НАВУЧАННЕ З АДРЫВАМ АД ВЫТВОРЧАСЦІ ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦЯХ:** фартэпіяна, скрыпка, альт, віяланчэль, кантрабас, арфа, флейта, габой, кларнет, саксафон, фагот, валторна, труба, трамбон, туба, ударныя інструменты, цымбалы, баян, акардэон; домра, балалайка, гітара, спеў, харавое дырыжыраванне, народны харавы спеў (спецыялізацыя), кампазіцыя, музыказнаўства; **БЕЗ АДРЫВУ АД ВЫТВОРЧАСЦІ** — скрыпка, альт, віяланчэль, кантрабас, духавыя інструменты, ударныя інструменты, цымбалы, баян, домра, балалайка, харавое дырыжыраванне, музыказнаўства.

У Белдзяржкансерваторыю прымаюцца асобы, якія маюць сярэднюю адукацыю, праявілі творчыя здольнасці і паспяхова вытрымалі іспыты: 1—па профілю вышэйшай навучальнай установы (спецыяльнасць); 2—па беларускай мове і літаратуры (сачыненне) або рускай мове (сачыненне) і беларускай літаратуры (вусна). Для асоб, якія будуць пісаць сачыненне па рускай мове і літаратуры, іспыт па беларускай літаратуры (вусна) з'яўляецца абавязковым.

Іспыт па спецыяльнасці складаецца з 4—6 раздзелаў (у залежнасці ад абранай спецыяльнасці, кожны з якіх ацэньваецца асобным балам: выкананне праграмы (выканаўчыя спецыяльнасці), выкананне ўласных твораў (кампазіцыя), музычная літаратура (рэферат, музыказнаўства); калёквіум (усе спецыяльнасці); гармонія пісьмова; вусна (усе спецыяльнасці, акрамя спеву), элементарная тэорыя музыкі пісьмова і вусна (спеў); сальфеджыо пісьмова і вусна (усе спецыяльнасці, акрамя кампазіцыі); фартэпіяна (харавое дырыжыраванне, музыказнаўства, кампазіцыя); музычная літаратура вусна (музыказнаўства); работа з хорам (народны харавы спеў, харавое дырыжыраванне).

У суму конкурсных балаў уключаюцца толькі балы, атрыманыя па іспыце па профілю вышэйшай навучальнай установы. Абітурыенты могуць трымаць іспыты на беларускай або рускай мове.

Заява аб допуску да ўступных іспытаў падаецца на імя рэктара па адзінай форме. Да заявы прыкладаюцца: дакумент аб сярэдняй адукацыі ў арыгінале; выпіска з працоўнай кніжкі, завераная начальнікам (інспектарам) аддзела кадраў (для тых, хто працуе); медыцынская даведка па форме № 086-у (№ 286), даведка ўрача-фаніятра (спецыяльнасці спеў, харавое дырыжыраванне, народны харавы спеў); шэсць фотакартак памерам 3x4. Пашпарт і дакумент аб дачыненні да воінскай павіннасці прад'яўляюцца асабіста пасля прыбыцця ў кансерваторыю.

Кансультацыі для абітурыентаў—з 2 па 5 ліпеня. Уступныя іспыты на дзённае і завочнае навучанне—з 6 па 25 ліпеня. На час уступных іспытаў абітурыенты забяспечваюцца інтэрнатам (з 2 ліпеня).

Заявы прымаюцца з 16 чэрвеня па 5 ліпеня з 10 да 16 гадзін па адрасу: 220600, Мінск, вул. Інтэрнацыянальная, 30, Белдзяржкансерваторыя.

Тэл. для даведак 26-11-76 (з 16 чэрвеня).

ПРЫЁМНАЯ КАМІСІЯ.

## Нёманскае ПТВ-116

**АБ'ЯУЛЯЕ ПРЫЁМ НАВУЧЭНЦАЎ**

Запрашаюцца юнакі і дзяўчаты без уступных экзаменаў па субяседаванню.

На базе няпоўнай сярэдняй школы, тэрмін навучання 3 гады з атрыманнем сярэдняй адукацыі, на дзяржаўным забеспячэнні па спецыяльнасці выдзімальшчык - шліфоўшчык шкловырабаў.

На базе сярэдняй школы, тэрмін навучання 10 месяцаў, стыпендыя 120—126 рублёў па спецыяльнасцях:

выдзімальшчык шкловырабаў, выдзільмашчык - шліфоўшчык шкловырабаў, выдзімальшчык - прасаўшчык шкловырабаў, размалёўшчык па шкле, кантралёр шкляной вытворчасці.

Усе навучэнцы забяспечваюцца добраўпарадкаваным інтэрнатам, у вучылішчы працуюць тэхнічныя гурткі, спартыўныя секцыі, гурткі мастацкай самадзейнасці, відэасалон. Выпускнікі, якія скончылі вучылішча з адзнакай, пры паступленні ў ВНУ здаюць толькі адзін экзамен або маюць права паступаць у тэхнікумы без экзаменаў па атрыманай спецыяльнасці.

Вытворчае навучанне навучэнцы праходзяць у вучэбна-вытворчым корпусе па вырабу шкловырабаў з выплатай зарплаты навучэнцам за выкананы аб'ём работы. Час навучання ў вучылішчы залічваецца ў няспынны льготны працоўны стаж. Выпускнікі вучылішча накіроўваюцца на работу на ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга шклозавод «Нёман», Барысаўскі крыштальны завод імя Дзяржынскага, Гродзенскі шкляны завод.

Для паступлення неабходна прадставіць: заяву на імя дырэктара вучылішча з указаннем выбранай спецыяльнасці; дакумент аб адукацыі (арыгінал); медыцынскую даведку формы № 086-у; даведку аб складзе сям'і; 6 фотакартак размерам 3×4 см.

Адрас вучылішча: 231306, Гродзенская вобл., Лідскі раён, г. Бярозаўка, Нёманскае ПТВ-116, тэл. 61-8-12, 61-8-20, 61-0-18.

## Віцебскае ПТВ № 29 лёгкай прамысловасці

**АБ'ЯЎЛЯЕ ПРЫЁМ НА ВУЧОБУ МОЛАДЗІ З СЯРЭДНЯЙ АДУКАЦЫЯЙ ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ:**

**ТЭРМІН НАВУЧАННЯ 1 ГОД**

аператар, швачка па вырабу мужчынскага верхняга адзення і жаночай лёгкай сукенкі з навыкамі раскрою; швачка, раскройшчык мужчынскага верхняга адзення; швачка, кантралёр мужчынскага верхняга адзення; швачка, кушнер-раскройшчык футравых вырабаў; слесар-рамонтнік; кравец па вырабу жаночай лёгкай сукенкі з уменнем раскрою — тэрмін навучання 2 гады.

**З АДУКАЦЫЯЙ 8—9 КЛАСАЎ ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦІ: ТЭРМІН НАВУЧАННЯ 2 ГАДЫ**

швачка па вырабу мужчынскага верхняга адзення і жаночай лёгкай сукенкі з уменнем раскрою; швачка, кушнер-раскройшчык мехавых вырабаў.

У вучылішча прымаецца моладзь без экзаменаў.

Стыпендыя 150—170 рублёў. У час вытворчага навучання і вытворчай практыкі навучэнцы атрымліваюць 50 працэнтаў ад заробленай сумы. Скончыўшыя вучылішча з адзнакай маюць перавагі пры паступленні ў сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы па спецыяльнасці. Усе іншагароднія забяспечваюцца жылой плошчай.

Паступаючыя ў вучылішча падаюць наступныя дакументы: заяву на імя дырэктара вучылішча, атэстат (арыгінал), даведку з месца жыхарства, медыцынскую даведку, шэсць фотакартак (3×4 см). Пачатак заняткаў—1 верасня 1991 года.

Адрас: г. Віцебск, вул Кастрычніцкая, 14, ПТВ-29, тэлефон 36-42-72. Праезд аўтобусамі №№ 1, 2, 3, 4, 5, 7, 10, 12, 13, 14, 17, 19, 22, тралейбусамі №№ 1, 2, 3, 4 да прыпынку вул. Камсамольская.



## КРАСВОРД



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

6. Рэчыва, якое паскарае хімічную рэакцыю. 9. Колавая або гусенічная самаходная машына. 10. Штат ЗША. 13. Раённы цэнтр Гомельскай вобласці. 15. Паўвостраў на поўначы СССР. 16. Рака ў Еўропе. 17. Сталіца еўрапейскай дзяржавы. 19. Італьянскі фізік і астраном XVI—XVII ст. 20. Літара грэчаскага алфавіта. 21. Аўтар п'есы. 22. Левы прыток Прыпяці. 25. Лякарства групы алкалоідаў. 26. Музычна-сцэнічны твор. 27. Рэвалюцыянер, партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР. 29. Каштоўны камень. 30. Рашаючы перыяд наступальнага бою. 33. Рускі флатаводзец і акіянограф. 34. Дробавая частка лагарыфма. 36. Аўтар аперэты «Вяселле ў Малінаўцы».

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Опера Рымскага-Корсакава. 2. Хімічны элемент. 3. Марская жывёліна. 4. Архітэктурны помнік I ст. у Рыме. 5. Літаратурны жанр. 7. Навуковая праца. 8. Цвёрды вуглевадарод, прадукт перапрацоўкі нафты. 11. Герой трагедыі Гётэ. 12. Навука аб кіраванні аўтаматызаванымі сістэмамі. 14. Сузор'е Паўночнага паўшар'я неба. 18. Абласны цэнтр Кіргізіі. 19. Ядавітая змяя. 23. Юрыст. 24. Пярэчанне супраць дзеянняў, рашэнняў. 27. Першы нарком аховы здароўя. 28. Адзін з японскіх астравоў. 31. Балотная птушка атрада галянастых. 32. Група жывёл, якая аб'ядноўвае блізкародныя сямейства. 35. Задыякальнае сузор'е.

**АДКАЗЫ ДА ЧАЙНВОРДА «ШАХМАТЫ» («Ч. З.» № 18).**

Вакол ладдзі: 1. Менчык. 2. Купрэйчык. 3. Капабланка. 4. Алёхін. 5. Німцовіч. 6. Чэмпіянат. 7. Тактыка. 8. Аснос. 9. Сеанс. 10. Стэйніц. 11. Цэнтр. 12. Ратнэр. 13. Рубцова. 14. Атака.

Вакол пешкі: 15. Барца. 16. Авангард. 17. Дэбют. 18. Турнір. 19. Раманішчын. 20. Нічыя. 21. Яўхім. 22. Мінск. 23. Кіра.


Дзяжурны рэдактар Г. ПШОНІК.

Мастацкае афармленне нумара В. ДУБОВІКА.

ЧЫРВОНАЯ Змена

ОРГАН ЦК ЛКСМ БЕЛАРУСІ

Заснавальнік: ЦК ЛКСМ Беларусі

Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга

АДРАС рэдакцыі: 220041, г. Мінск, Ленінскі праспект, 77

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмная — 32-13-54, аддзел пісьмаў і сацыяльных праблем—32-50-01

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі, г. Мінск. Індэкс 63906





Зак. № 21.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12